*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4664) 4 мая 2012 г.

Міхась ПАЗНЯКОЎ

## Ветэраны

*Адыходзяць…*
*Так мала ў страі*
*Ветэранаў — сыноў Перамогі,*
*Назаўсёды ў былыя баі*
*Клічуць іх баявыя дарогі.*

*Адыходзяць…*
*За праўду сваю*
*Пастаяць з маладымі*
*сябрамі,*
*Што ў атаках палеглі*
*ў зямлю,*
*Каб яна расцвітала садамі.*

*Адыходзяць… І звон медалёў*
*Замаўкае, нібыта адвага,*
*Што на тысячах спела палёў*
*Ад ускраін Масквы*
*да Рэйхстага.*

*Адыходзяць… Няўмольна,*
*без слоў…*
*Толькі рана ўсміхацца*
*з надзеяй*
*Безаблічных і змрочных часоў*
*Крывасмокам, дзялкам,*
*ліхадзеям.*

*Адыходзяць… А бітва ідзе —*
*За сумленнасць,*
*святло Перамогі,*
*Толькі верацъ: жахлівай бядзе*
*Не бываць!*
*Хоць не тояць трывогі.*

*Адыходзяць…*
*Да спраў найсвятых*
*Зноў трымаецца моладзь*
*упарта,*
*Гэта ўнукі і праўнукі іх*
*Заступаюць на верную*
*варту.*



**5 мая — Дзень друку**

**Напярэдадні свята ў нашай краіне прайшла XVI Міжнародная спецыялізаваная выстаўка "СМІ ў Беларусі", падведзены вынікі Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі "Залатая Ліцера".**

***На здымку:** міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі і першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў на адкрыцці выстаўкі "СМІ ў Беларусі".*

# Урок гармоніі

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ,**
**фота аўтара**



*Трыа саксафаністаў — свежая фарба ў палітры вернісажу.*

**Толькі дзве карціны — але ж якія! — прадстаўляе Нацыянальны мастацкі музей Беларусі на выстаўцы "Песняры зямлі беларускай", прымеркаванай да Года кнігі і прысвечанай 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

У экспазіцыі — партрэты асоб, знакавых для нашага народа, для гістарычнага лёсу Беларусі, яе дзяржаўнасці, развіцця літаратуры і нацыянальнай культуры ў цэлым. Гэта ўжо хрэстаматыйныя жывапісныя палотны "Янка Купала" (1981) і "Якуб Колас" (1982), якія стварыў выдатны беларускі мастак Міхаіл Савіцкі.

Адкрывалася выстаўка ў нязвыклы для сталічных вернісажаў ранішні час. І публіка прыйшла незвычайная: навучэнцы мінскай гімназіі № 31, інструментальныя калектывы і салісты мінскай ДМШ № 10 імя Я. Глебава, настаўнікі, дэпутаты Мінскага гарсавета, прадстаўнікі гарадскога выканаўчага камітэта. Свята сонечнага веснавога ранку, што напаўняла прастору выставачнай залы, камернае гучанне струннага трыа, простыя і пазбаўленыя афіцыйнага пафасу словы прамоўцаў, трапятлівыя галасы ўсхваляваных юных чытальнікаў — сама атмасфера спрыяла кантакту новага пакалення з абсягам творчых ідэй нашых мудрых светачаў, сейбітаў беларускасці, рыцараў роднага слова. Праз акадэмічны жывапіс М.Савіцкага вобразы вялікіх сыноў Беларусі ўспрымаліся ва ўсёй іх псіхалагічнай глыбіні, складанасці — і ў сугучнасці ўнутранаму свету сваіх сённяшніх неабыякавых спадкаемцаў.

Настаўніца беларускай мовы гімназіі № 31 Святлана Цэдрык мяркуе, што, чытаючы творы Купалы і Коласа, мы ў душах сваіх выхоўваем дабрыню і спагадлівасць, любоў да сваёй зямлі, да роднага слова, праз уласны прыклад ушаноўваем запавет класікаў: любіць, берагчы мову народа. Юныя дэкламатары старанна рыхтаваліся да выступлення ў музеі. Вершы выбіралі самі, звяртаючы ўвагу і на зборнікі, якія педагогі раілі для пазакласнага чытання. Вучні апынуліся ў цэнтры не толькі яркай, але і пазнавальнай падзеі. Што ж, так заўсёды бывае, калі сустракаюцца паэтычнае слова, музыка і выяўленчае мастацтва.

Між іншым, начальнік упраўлення культуры Мінскага гарвыканкама Віталіна Рудзікава паведаміла, што палотны, на якіх М.Савіцкі перадаў сваё захапленне вялікімі паэтамі, будуць дэманстравацца і ў зале імяннной галерэі майстра, якая хутка адкрыецца ў Мінску.

# Час чытаць!

**Пад такім дэвізам прайшоў VII Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон. На форум не ўпершыню завіталі госці з Беларусі: старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, генеральны дырэктар ААТ "Белкніга" Аляксандр Вашкевіч, прадстаўнікі выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Пачатковая школа", "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", газеты "Літаратура і мастацтва". Усяго ж Форум, арганізатарамі якога выступілі Расійскі кніжны саюз, ЭкспаФорум і кіраўніцтва горада, сабраў звыш 250 удзельнікаў з розных краін свету.**

Напярэдадні адкрыцця з пісьменнікамі Расіі і Беларусі сустрэліся дэпутаты Заканадаўчага Сходу Санкт-Пецярбурга. Гаворка ішла пра адказнасць улад і творцаў за выхаванне новага пакалення, пра супольную працу на карысць нашых народаў. Дарэчы, афіцыйная дамоўленасць аб супрацоўніцтве паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Санкт-Пецярбургскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Расіі існуе ўжо з 2008 года. Нагул жа, культурныя сувязі паміж Мінскам і Піцерам налічваюць ужо некалькі стагоддзяў, і абодва бакі ўпэўненыя ў неабходнасці іх пашырэння. Да больш актыўнага супрацоўніцтва ў інтэрв'ю "ЛіМу" заклікаў і Прэзідэнт Расійскага кніжнага саюза Сяргей Сцяпашын: "Каб не згубіць самабытную беларускую і рускую мовы, мы павінны чытаць кнігі. І перакладаць іх як мага больш. Я ведаю, што праблем з гэтым, дзякуй Богу, у Мінску няма, і жадаю Беларусі поспехаў!"

Дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў Мачульскі адзначыў, што асноўная мэта прыезду — сустрэчы з расійскімі выдаўцамі і кнігараспаўсюджвальнікамі, якія імкнуцца да супрацоўніцтва, а таксама заключэнне новых пагадненняў. "Мы імкнёмся знаёміць расійскага чытача з беларускай літаратурай. Для прыкладу, многія айчынныя аўтары спачатку выдаюцца ў нас, а праз год, скажам, у Маскве. А мая мэта — каб нашы літаратары выдаваліся ў беларускіх выдавецтвах, а мы іх кнігі будзем распаўсюджваць далей, у тым ліку і на расійскі рынак. Калі сёння больш ведаюць Купалу, Коласа, Быкава, Шамякіна, то мы імкнёмся прапагандаваць творчасць маладых. Мы "вывозім" не толькі класікаў! Акрамя таго, расійскі чытач моцна цікавіцца нашай вучэбнай літаратурай. Кнігі беларускіх выдавецтваў з'яўляюцца ў кнігарнях Расіі. Аднак найперш мы скіраваныя не на імгненны прыбытак, а на сур'ёзнага чытача!"

"Сёння пісьменнік вымушаны сам гандляваць уласнымі кнігамі. Гэта няправільна, але так вымагае час. У нас бывае, што пра кнігу, якая выйшла ў Пецярбургу, у Маскве ніхто не ведае. Што да беларуска-расійскіх літаратурных сувязей, то мы гатовыя перакладаць сваіх калег, шукаць фінансаванне для выдання агульных кніг", — прызнаўся старшыня Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі паэт Барыс Арлоў.

Думкі пра неабходнасць узаемаперакладу і супрацоўніцтва выказваліся на круглых сталах з удзелам замежных творцаў. Прадстаўніца Сербіі, перакладчыца і прафесар філасофіі Драгіння Рамаданскі прапанавала калегам дасылаць свае творы для публікацыі і распавяла пра станоўчы вопыт венгра-сербскага суаўтарства.

Як адзначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, падобны форум — гэта яшчэ адзін крок насустрач адно аднаму. "У нас аднолькавыя праблемы. І мы разам можам клапаціцца пра пошук новых імёнаў у літаратуры, пра нашае прадстаўніцтва ў інтэрнэце і выданне новых кніг. Галоўнае, каб выдаўцы падтрымлівалі нашу мастацкую літаратуру". Старшыня беларускай пісьменніцкай арганізацыі ўзнагародзіў самых выбітных прадстаўнікоў расійскага боку медалямі СПБ і ўручыў аддзяленню Барыса Арлова Пегаса — сімвал творчасці і натхнення.

Пра іншыя цікавыя падзеі VII Санкт-Пецярбургскага міжнароднага кніжнага салона "ЛіМ" распавядзе ў наступных нумарах.

**Таццяна СІВЕЦ**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў удзельнікаў заслужанага аматарскага калектыву Беларусі ансамбля танца "Радасць" Брэсцкага гарадскога Дома культуры з 50-годдзем з дня заснавання. "Ваш славуты калектыў стаў мастацкай візітнай карткай Брэсцкай вобласці ва ўсёй Беларусі і далёка за яе межамі", — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Філіпа Кіркорава з 45-годдзем. "Мы ўдзячныя вам за сяброўскія адносіны да нашай краіны і вялікую дапамогу маладым артыстам", — сказана ў віншаванні.

✔ Пад старшынствам міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні IX Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур. Былі разгледжаны вынікі правядзення абласных і мінскага гарадскога тураў фестывалю. Заключныя мерапрыемствы форуму запланавана правесці 1 — 3 чэрвеня ў Гродне. Рэспубліканскім журы для ўдзелу ў іх адабраны 984 прадстаўнікі 33 нацыянальнасцей.

✔ У адпаведнасці з загадам міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі на пасаду прэс-сакратара Міністэрства прызначана Юлія Віскуб. Прафесійны журналіст, яна працавала раней у аддзеле сувязей з грамадскасцю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

✔ У будынку Міністэрства інфармацыі Беларусі адкрылася выстаўка сатырычнай і гумарыстычнай графікі вядомага мастака Сяргея Волкава "З "Вожыкам" па жыцці".

✔ Пераезд Мінскай духоўнай акадэміі з Жыровіч у Мінск чакаецца ў гэтым годзе. Яна будзе размяшчацца каля Свята-Духава кафедральнага сабора ў раёне Нямігі.

✔ Мемарыяльная дошка памяці народнай артысткі Беларусі Ганны Абуховіч адкрыта ў Мінску па вуліцы Леніна. Актрыса іграла на сцэне Нацыянальнага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя М. Горкага, была кумірам некалькіх пакаленняў мінскіх тэатралаў, яе творчасць увайшла ў залаты фонд беларускага мастацтва.

✔ Паводле вынікаў конкурсу на самы арыгінальны, яркі і запамінальны сімвал "Дажынак-2012", якія пройдуць у Горках Магілёўскай вобласці, перамагла скульптурная кампазіцыя "Тарас на Парнасе" Сяргея Сотнікава. Мяркуецца, што адлітую ў бронзе скульптуру адкрыюць у час святкаванняў у цэнтры Горак.

✔ Лепшыя ўрокі беларускай літаратуры, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, будуць вызначаны падчас конкурсу для настаўнікаў школ Мінскай вобласці "Пад знакам Купалы і Коласа". Конкурс закліканы выявіць таленавітых педагогаў Міншчыны і папулярызаваць беларускую кнігу. Яго вынікі будуць падведзены ў сярэдзіне мая.

✔ Афіцыйнае адкрыццё Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу адбудзецца ў чэрвені гэтага года. Рэканструкцыя палаца вядзецца з 1998 года. Большасць адрэстаўраваных залаў ужо даступная турыстам. Сёлета ў сценах палаца пройдзе больш як 50 мерапрыемстваў, у тым ліку вечары оперы, якія стануць традыцыйнымі для старажытнага Нясвіжа.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## Конкурсы

# Узнагарода для прафесіяналаў

**Урачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў VIII Нацыянальнага конкурсу "Тэлевяршыня" адбылася ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры. У гэтым годзе памятныя статуэткі былі ўручаны пераможцам у 21 намінацыі. За права называцца лепшымі спаборнічалі 32 айчынныя тэлекампаніі, якія падалі на конкурс 214 заявак. Як прызналіся члены журы, з кожным годам тэлепрадукцыя становіцца ўсё больш яркай і цікавай, дэманструе больш высокі прафесійны ўзровень аўтараў. І гэта не можа не радаваць.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота БелТА



*На ўручэнне галоўнай статуэткі "Тэлевяршыня" праекту "Я спяваю!" прыехалі Саша Лакцёнава і Набіль Зарук — пераможцы двух сезонаў дзіцячага конкурсу.*

Тое, што цырымонія праходзіла на сцэне Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра, павінна было неяк адбіцца на яе сцэнарыі. І сапраўды, гучала музыка, уручэнне статуэтак перамяжалася яркімі нумарамі са спектакля "12 крэслаў" у выкананні балетнай часткі трупы тэатра, мюзікла "Чыкага" і нават з класічнай кальманаўскай "Сільвы". Выходзіла на сцэну праслаўленая прымадонна Наталля Гайда і нават дырэктар тэатра Аляксандр Пятровіч. Аперэтачнымі героямі, якія жартуюць, нечакана і таямніча знікаюць са сцэны, пераапранаюцца ў зіхатлівыя тэатральныя строі і нават спрабуюць танчыць, выглядалі і вядучыя вечара Ірына Ханунік-Рамбальская (СТВ), Дзяніс Дудзінскі ("Беларусь 1") і Дзмітрый Шунін (АНТ). Сцэнічнае дзеянне было добра прадумана і з густам выканана. Афіцыйнае мерапрыемства ператварылася ў шоу, і гэта спадабалася, здаецца, і намінантам, і гледачам.

Лепшай інфармацыйнай праграмай былі названы "Нашы навіны" ("Беларусь 2"). Сярод рэгіянальных навасных праграм перамаглі маладзечанскія "Навіны. Час мясцовы". Лаўры лепшай грамадска-палітычнай (публіцыстычнай) праграмы падзялілі "Клуб рэдактараў" ("Беларусь 1") і "Беларусь сёння" ("Мір"). Лепшым культурна-асветніцкім абвешчаны праект "Культурныя людзі" ("Беларусь 1"), музычна-забаўляльным — "Эстрадны кактэйль" ("Беларусь 2"), а спартыўным — "Прафесійны бокс" (СТВ). Лепшай праграмай для дзяцей і юнацтва — "Дзеці новага пакалення" ("Беларусь 1").

Самым цікавым дакументальным фільмам года журы назвала працу рэжысёра А.Лескіна "Місія сакрэтная: гісторыя знешняй разведкі Беларусі" (СТВ), хаця вылучыць сярод намінантаў лепшага ў гэтым годзе было надзвычай цяжка, бо айчынная тэледакументалістыка, безумоўна, набыла "другое дыханне", стаўшы больш вострай, цікавай і глыбокай. А вось лепшая сацыяльная рэклама была вызначана амаль без хістанняў — тэлекампанія "Ваен-ТВ" зрабіла сапраўды дзейсную для моладзі рэкламу службы ў арміі — "Прызыў-2011. Паркур" (рэжысёр А. Манікала). Лепшы тэледызайн мае "Міс Мінск-2011" (СТВ).

Галоўнай інтрыгай падобных конкурсаў звычайна з'яўляецца вылучэнне пераможцаў сярод тых, хто ставае тэлебачанне. Гэтым разам лепшым вядучым-інфармацыйнікам стаў Аляксандр Аверкаў ("Беларусь 2"), лепшымі вядучымі грамадска-палітычнай (публіцыстычнай) праграмы — Юрый Пракопаў ("Беларусь 1") і Павел Каранеўскі (СТВ). Ажно чатыры чалавекі былі названы пераможцамі ў намінацыі "Лепшы вядучы музычна-забаўляльных праграм", што цалкам зразумела, бо менавіта ўчацвярых Ірына Ханунік-Рамбальская, Ніна Багданава, Юрый Цароў і Дзмітрый Врангель вялі праграму "Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва" (СТВ). Лепшым спартыўным каментатарам вылучаны Ігар Старавойтаў ("Беларусь 2"), вядучай рэгіянальнага тэлебачання — Вераніка Леўдаровіч ("Лідскае тэлерадыёаб'яднанне"). Лепшы рэпарцёр — Дзмітрый Семчанка ("Беларусь 2"); рэжысёр — Андрэй Пінчук ("Беларусь 1"); аператар — Руслан Сілюк ("Брэст"). Лепшым сцэнарыстам названа Аляксандра Красько ("Брэсцкая крэпасць-герой", "Брэст"), а прадзюсарам — Сяргей Кухто ("Дзеці новага пакалення", "Беларусь 1"). Лепшым рэгіянальным праектам года прызначаны крэатыўны "Талант ли Вы?" ("Лідскае тэлерадыёаб'яднанне"). А што датычыць Гран-пры, то яго, безумоўна, заслужыў і надзвычай цікавы, і сацыяльна значны, і проста вельмі добры праект "Я спяваю!" ("Беларусь 2").

## За падзеяй

# Караблікі «Маладосці». Шчаслівага плавання!

**27 красавіка ў межах выстаўкі "СМІ ў Беларусі" ў Футбольным манежы прайшла акцыя "Караблікі «Маладосці»", арганізаваная рэдакцыяй часопіса "Маладосць" пры падтрымцы Тэатра юнага гледача.**

Выбраць свой караблік, створаны з часопіснага ліста, і атрымаць такім чынам дзве старонкі часопіса ў падарунак, а калі пашанцуе, то і прыз — запрашальнік на дзве асобы ў ТЮГ на адну з майскіх пастановак, — такія ўмовы зацікавілі шматлікіх наведвальнікаў стэнда, ля якога ўвесь час распавядалася пра часопіс, яго аўтараў і творы — надрукаваныя і запланаваныя.

Рэдакцыя не магла не выкарыстаць магчымасць асабіста пазнаёміцца з пастаяннымі чытачамі часопіса, пачуць меркаванні пра яго напаўненне, а таксама заахвоціць "новенькіх": ля стэнда была арганізавана падпіска на чэрвеньскі нумар, прысвечаны юбілею Янкі Купалы. У прыемным чаканні развіталіся з супрацоўнікамі рэдакцыі новыя падпісчыкі: не толькі "лірыкі" — студэнты філфака, але і "фізікі" — моладзь тэхнічнай накіраванасці, а таксама людзі паважанага ўзросту і нават сем'і — муж і жонка з Мінска, мама, тата, і дачка з Бярозы. Два хлопцы афармілі на дваіх тры падпіскі: для сябе і сяброўкі з Асіповіч. Атмасфера проста натхняла на добрыя ўчынкі.

Ля стэнда можна было паслухаць вершы — іх чыталі самі наведвальнікі, — а таксама сфатаграфавацца на памяць з часопісам у руках, прычым гэтыя "неспадзяванкі" не былі запланаваны арганізатарамі, а мелі такі ж стыхійны характар, як… мора, па якім плывуць караблі. А часопіс "Маладосць" і ёсць "карабель" у вялікім моры літаратуры — прыгожы, горды, непатапляльны. Шчаслівага плавання!

Аксана ДЭМСКАЯ

## Водгалас

# Тэатральныя трыумфы

Спектаклі паводле драматычных твораў беларускіх пісьменнікаў усё часцей прыцягваюць увагу замежных аматараў тэатра. Зусім нядаўна на Міжнародным фестывалі тэатральнага мастацтва "Смаленскі каўчэг" у Расіі гран-пры была адзначана пастаноўка Смаленскага драматычнага тэатра імя А. Грыбаедава "Эцюды кахання" паводле п'есы Алены Паповай. Гэта работа нашага земляка, рэжысёра Віталія Баркоўскага, які сёння шчодра дорыць свой талент расійскаму гледачу.

Творчае супрацоўніцтва Баркоўскага і Паповай можна лічыць надзвычай удалым. Чатыры гады таму на гэтым жа фестывалі гран-пры была ўдастоена іх сумесная праца — спектакль "Дамоў!", пастаўлены на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску.

"Смаленскі каўчэг" 2012 года стаў шчаслівым і для артыста Алега Кузьмішчава, занятага ў спектаклі. Ён атрымаў спецыяльны прыз "За пераканаўчае ўвасабленне небяспечнага сацыяльнага тыпа". Яго калегі з Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, які прадставіў фестывальнаму журы надзвычай удалы спектакль "Шалёны дзень, або "Вяселле Фігаро" паводле славутай камедыі Бамаршэ, таксама атрымалі ўзнагароды. Выканаўца ролі графа Альмавівы Віктар Чапялёў атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю. Спецыяльным прызам "За зачараванне і гумар" уганаравана Рыгор Жураўлёў, выканаўца ролі Керубіна. Акрамя гэтага ў Смаленску быў адзначаны спецыяльным прызам прадзюсара фестывалю В. Бяляева спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра "Мая жонка — ілгуння".

Амаль адначасова са Смаленскімі падзеямі ў сталіцы Таджыкістана Душанбэ праходзіў Міжнародны фестываль лялечных тэатраў "Чодары хаёл" ("Фантазіі лялек"). Другі раз запар у ім браў удзел Гомельскі дзяржаўны тэатр лялек, які паказаў спектакль "Чарадзейны рукзачок", пастаўлены паводле п'есы Васіля Ткачова мастацкім кіраўніком тэатра Дзмітрыем Гарэлікам. Спектакль стаў дыпламантам фестывалю. Прыемна адзначыць пры гэтым, што і спецыяльны дыплом лепшаму выканаўцу галоўнай ролі таксама дастаўся гамяльчаніну — артысту тэатра Руслану Іванову.

Ірына СЛАНІМСКАЯ

*Літабсягі*

# Крылы за спінай

**Паэтычны спектакль “Прыпадаю да нябёс…”, прысвечаны самай “празрыстай”, “звонкай”, “веснавой” беларускай паэтэсе XX стагоддзя Яўгеніі Янішчыц, прадставілі аматарам прыгожага Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра “Зьніч”.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Валерыя Сібрыкава**

Шлях, абраны тэатрам “Зьніч”, напэўна, самы складаны для артыста. Утрымліваць увагу гледача гадзіну, паўтары, дзве практычна толькі пасродкам маналога можа далёка не кожны выканаўца. Паміж глядзельнай залай і сцэнай, якой бы па памеры і аддаленасці яна ні была, усё роўна існуе пэўны бар’ер, пераходзіць які для артыстаў, занятых у звычайным спектаклі, як быццам бы і неабавязкова. Аднак у выпадку, калі на сцэне — толькі адзін акцёр, ён проста павінен адчуць гэтую нябачную энергетычную мяжу, увайсці-акунуцца з галавой у аўру залы і працягнуць гледачам, як самым блізкім і самым правераным сябрам, сваю душу на далонях.

Выканаўца спектакля пра Яўгенію Янішчыц, заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Горцава, распачала сваю размову з гледачамі так, як быццам бы зусім і не збіралася пераўвасабляцца, як быццам бы проста прыйшла на вечарыну памяці сваёй “зорнай” знаёмай. Яна расказала пра дом, у якім жыла ў дзяцінстве і з якога да яе засялення з’ехала Яўгенія Янішчыц. Гэта быў светлы і ўтульны, цёплы і добры дом. Няхай бы Жэня ніколі не пакідала яго, бо тая кватэра, якая прывабіла паэтку сваёй сучаснай планіроўкай і прасторай, паволі высушыла яе і, урэшце, нейкім містычным шляхам узяла яе жыццё… Паэтка не ведала, што новае яе жытло пабудавана на былых магілках, там, дзе, згодна з паданнем, была пахавана няўдалая руская царыца Марына Мнішак…

А пасля гэтага даверлівага аповеду раптам неяк нечакана “нахлынулі” вершы. Жэніны. Светлыя, напісаныя “на мове ручая”, і задумліва-шчымлівыя пра вяртанне “туды, дзе яшчэ не была”, і цяжкія, прарочыя, у якіх кружыць “чорны воран над белаю ружаю”. І гэта быў лірычны аповед пра дзяўчынку, якая нібы частка лясоў, ручаін і кветак. І пра дзяўчыну, якая мроіць пра каханне, углядаючыся ў рачны туман. І пра жанчыну, якая збірае сэрца па кавалках з-за няздзейсненага шчасця. Мяняўся твар у артысткі, і станавілася яна, старэйшая за паэтку, што пакінула жыццё так рана, раптам падобнай да Яўгеніі, яе аднагодкай. І ўпадабляліся рукі крылам — тым самым, якія так часта сустракаюцца ў вершаваных радках Янішчыц, тым самым, якія, пэўна, анёльскія, цяпер — за спінаю ў паэткі…



*Сцэна са спектакля.*

Як добра, як арганічна гучаць вершы ў сценах музея гісторыі літаратуры! Прысутныя ад усяго сэрца дзякавалі яе арганізатарам.

*Артлінія*

# Мірныя, простыя, родныя

**На шырокім абсягу сталічных выставак гэтая ўспрымаецца як самая пазітыўная. Тут экспануюцца лепшыя творы таленавітых дзяцей і маладых мастакоў з 15 краін — удзельнікаў VII міжнароднага конкурсу жывапісу і графікі “На сваёй зямлі”. З якім захапленнем глядзяць яны на свет, як шчыра дзеляцца сваімі назіраннямі, як умеюць здзіўляцца і радавацца жыццю на сваёй зямлі! А пры гэтым — здзіўляць і радаваць навакольных.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Журы конкурсу (мастакі ды педагогі з Беларусі, Грузіі, Польшчы, Расіі, Украіны) разглядзела тысячы работ, выкананых і трохгадовымі вундэркіндамі, і школьнікамі-студыйцамі, і нават пачаткоўцамі-прафесіяналамі, якія вучацца ў профільных ВНУ. Былі вызначаныя творы-пераможцы, якія сярод лепшых конкурсных работ экспануюцца сёння ў мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”. Арганізавалі выстаўку “На сваёй зямлі” тры міністэрствы Рэспублікі Беларусь: адукацыі, культуры, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама БДУ культуры і мастацтваў і грамадская арганізацыя “Беларускі зялёны крыж”.

Тут прадстаўлена 486 твораў, выкананых у розных тэхніках аўтарамі з Арменіі, Балгарыі, Грузіі, Інданезіі, Індыі, Ірана, Казахстана, Кітая, Латвіі, Польшчы, Расійскай Федэрацыі (ад Сочы да Іркуцка, ад Ленінградскай вобласці да Сахаліна, ад Масквы да Пермі, ад Уфы да Краснаярска), Тайланда, Турцыі, Украіны, нямала работ з Беларусі. Кожная кампазіцыя прыцягвае ўвагу чымсьці адметным: непаўторным каларытам, чысцінёй і прыгажосцю фантазіі, эмацыйнасцю, дасціпнасцю сюжэта. Незалежна ад узросту, аўтары знаходзяць крыніцу натхнення ў самім жыцці, у гульнях, казках і снах. Малююць сваякоў, сямейныя свята з пачастункам і час калыханкі, дрэвы ў дворыку за вокнамі, успамін пра летнюю вёску, гурму сяброў на снежных горках і ўсходні базар, кветкі, коней, птушак, сваіх катоў ды сабак, улюбёных цацкі, міфалагічных істот. Вобразы простыя і родныя, мірныя і напоўненыя вялікім гуманістычным сэнсам...

Дзевяцігадовая Аліна Камароўская з Клімавіч (выкладчык І. Міцькіна) атрымала дыплом І ступені за панарамны графічны пейзаж “Ранак у Магілёве”. Кранальны малюнак “Зараз адрамантую, альбо Слава сантэхніку” трынаццацігадовага Арцёма Глотава з Салігорска (выкладчык А. Панкрацьева) адзначаны дыпломам ІІІ ступені. Шасцігадовы мазыранін Андрэй Пальгун (выкладчык С. Купрыянава) паказаў сябе як арыгінальны каларыст і за



*Малюнак 18-гадовага Самета Алкана з Турцыі (дыплом ІІ ступені).*

дэкаратыўны сюжэт “Ягады дзяўбе” атрымаў дыплом ІІ ступені... Калі цікава, чым вылучыліся мастакі з Ляхавіч, Баранавіч, Гродна, Слуцка, Салігорска, чым уражвае адзначаная дыпломам І ступені “Свежая прэса” адзінаццацігадовай Вікторыі Грыгор’евай з расійскай Гатчыны — паспяшайцеся на выстаўку! Яна працуе па 5 мая.

*Повязі*



*Ёка Тавада зачаравала ўсіх мелодыяй японскай мовы.*

**Дар’я ШОЦІК, фота Кастуся Дробава**

# Магія японскага слова

**Цікавым творчым мерапрыемствам Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі стала вечарына, на якой японская пісьменніца Ёка Тавада чытала свае вершы і прозу на японскай мове.**

У Японіі пісьменніца ў 1991 годзе дэбютавала з раманам “Страціўшы абцасы”, за які атрымала прыз Кунзо для пачынаючых пісьменнікаў. Яна таксама з’яўляецца лаўрэатам японскай літаратурнай прэміі Рунаскэ Акутагавы.

Доўгі час пісьменніца вывучала рускую і нямецкую мовы, асабліва цікавілася еўрапейскай літаратурай.

— Пасля заканчэння ўніверсітэта Васэда па спецыяльнасці “Руская літаратура” паехала ў Германію, дзе і пачался мая плённая творчая работа, — расказала Ёка Тавада.

Аповесць “Сабачая нявеста” ў 1993 годзе была перакладзена на рускую мову ды надрукавана ў часопісе “Замежная літаратура”. Перакладчыкам стаў адзін з рэдактараў гэтага часопіса Барыс Акунін.

— Калі пішаш іерогліфамі або лацінкай, заўважаеш прыліў немагчымага натхнення, што прымушае ісці на розныя эксперыменты ў літаратурнай творчасці, — распавяла пісьменніца. Напрыклад, пішу па-нямецку, але іерогліфамі.

Вядомым жанрам у японскай паэзіі з’яўляецца хайку, які пішацца ў тры радкі і без рыфмы. Асноўнае ў такіх вершах — злавіць пэўны момант і перадаць пачуцці, убачыць у гэтым прыгажосць. Таму аўтару даводзілася шмат падарожнічаць, каб убачыць незвычайнасць рэчаў і параўнаць з іншымі. Асноўная тэматыка яе вершаў — каханне, сяброўства, прырода.

Часовы Павераны ў справах Японіі ў Рэспубліцы Беларусь Сігэхіро Міморы грунтоўна распавёў, што ўяўляе сабой японская культура, якое вялікае мае значэнне, і дадаў некалькі слоў пра творчасць знакамітай японскай пісьменніцы Ёка Тавада, чые кнігі, напісаныя па-японску і па-нямецку, перакладзеныя на іншыя мовы.

Варта спадзявацца, што стасункі паміж беларускім і японскім народамі ў галіне літаратуры стануць больш трывалымі і плённымі.

*З-пад пяра*

➤ Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. Машэрава атрымаў надзвычай каштоўны падарунак — больш як 300 кніг з асабістай бібліятэкі Марка Шагала і копіі яго лістоў да сябра, тэатральнага мастака Мсціслава Дабужынскага, былі перададзены ўніверсітэту Домам рускага замежжа імя А. Салжаніцына ў рамках спецыяльнай праграмы кніжнай дапамогі. Раней Дом рускага замежжа перадаў каля дзвюх тысяч каштоўных кніг Нацыянальнай бібліятэцы ў Мінску, Магілёўскаму і Гомельскаму ўніверсітэтам.

**Лізавета ВІХУРА**

➤ Конкурс “Ало, мы шукаем вэб-журналістаў” праводзіўся сярод таленавітай моладзі, членаў клуба “Проба пяра” ў рамках XVI Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі “СМІ ў Беларусі” і XIX Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі і кангрэсу па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях “ТИБО-2012”. Найбольш крэатыўным і самастойным у зборы інфармацыі для прапанаваных журналісцкіх заданняў аказаўся дзесяцікласнік Андрэй Мажэйка. Другое месца дасталося васьмікласніку Антону Мілюту. Трэцяе падзялілі паміж сабой васьмікласніцы Ілона Драздовіч і Юліяна Кажапенка. Пераможцы атрымалі граматы, сувеніры ад рэдакцыі газеты “Знамя юности” і рэкамендацыі для паступлення ў Інстытут журналістыкі БДУ.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

➤ У межах акцыі “Чытаем разам” у госці да маленькіх чытачоў сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 2 завітала маладая беларуская пісьменніца Вольга Нікольская, аўтар сучаснай аповесці-казкі “Мы — агенты «Колбафир»” пра прыгоды двух бяздомных катоў Каўбаса і Кефіра. Дзеці прачыталі кнігу, падрыхтавалі пытанні, і атрымаўся вельмі цікавы дыялог паміж імі і аўтарам. Да сустрэчы была наладжана выстаўка кніг і ілюстрацый пра адносіны чалавека да братоў нашых меншых “Дабрыня выратуе свет”. Бібліятэкар Марына Радзецкая падрыхтавала цікавую гульню-віктарыну паводле казкі. Разам з пісьменніцай у бібліятэку прыйшоў мастак Сяргей Волкаў, ілюстратар кнігі Вольгі Нікольскай. Падчас мерапрыемства ён намаляваў галоўных персанажаў казкі на лістку, дзе пасля паставілі свае подпісы ўсе ўдзельнікі сустрэчы. Малюнак застаўся ў бібліятэцы, і юныя чытачы дамовіліся калі-небудзь праз шмат гадоў прывесці сюды сваіх дзяцей, каб паказаць ім яго.

**Вольга КАХНОВІЧ**

➤ Персанальная выстаўка “Краявіды роднага Палесся” мастака Генадзя Чачанкова прайшла ў карціннай галерэі Хойніцкага раённага краязнаўчага музея. Экспазіцыя прысвечана 26-й гадавіне катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Усе 32 палатны — пейзажы і нацюрморты — прадстаўляюць некалі квітнеючы куточак паўднёвай Беларусі, якіператварыўся ў зону адчужэння і адсялення. Тут і цяпер вельмі прыгожа, але гэтая прыгажосць недаступная для сузірання. Па-ранейшаму нясе свае воды Прыпяць — яе мастак адлюстраваў у чатырох карцінах, ва ўсе парабіны года. Па-ранейшаму цвітуць званочкі і ландышы, а лясы багатыя на свае дары і, здаецца, само паветра насычана пахам духмянага травастою.

**Клаўдзія БОСАК**

Анжэла МЕЛЬНІКАВА

# Жыццёвая этыка Марыі Вайцяшонак

**Марыя Вайцяшонак — адна з самых глыбокіх нашых пісьменніц. Глыбокая значнасцю духоўнай, унутранай засяроджанасці. Аднак яе імя не часта згадваецца крытыкамі. Янка Брыль некалі назваў Марыю Вайцяшонак “ціхаю”.**

Гэтае *ціхая* бачыцца як *не* карпаратыўная, *не* “раскручаная”, *не* эпатажная. Яна пазбягае мітуслівага.

Творы Марыі Вайцяшонак (зборнікі прозы “Сярод блізкіх людзей”, “Жанчына перад люстэркам”, “Сад нявіннасці”, “Кола”, вершаў “Серпень” і “Асадніца”) — з тых, што даваляюць задумацца, дапамагаюць знайсці адказы на пытанні: што ў жыцці галоўнае, а што другаснае, як будаваць свае адносіны з людзьмі, у чым шукаць радасць. Для мяне яны — як духоўнае чытанне. У іх прысутнічае Сапраўднае. Хіба не зачэпяць словы: “…як пераймаеш ва ўлонні матчына падабенства, самоту ейных вачэй” (“Сем багавіц шчасця”), “…кожная жанчына ад самай калыскі да самай смерці — “цяжарная”, яна вякамі стварае вакол сябе зусім інакшы сусвет” (“Амарыліс”).

Каб здолець сказаць сутнаснае, трэба, каб за душой нешта было, трэба шмат перажыць. Марыі Вайцяшонак дадзены быў надзвычай трагічны досвед. Вядома, што духоўны рост чалавека адбываецца праз пакуты. У сваіх інтэрв'ю пісьменніца гаворыць: “Лёс, жыццё — гэта школа, навука, ён даецца дзеля развіцця душы”, “я не адракаюся ад самай маленькай чалавечай ролі, бо нам даецца плоцкае сэрца замест каменнага не толькі дзеля нас саміх”. Духоўны змест твораў, здольнасць з болю нарадзіць любоў — прадмет асобнай гутаркі. Дакладна выказаўся на гэты конт С. Аверынцаў: “В чём же ещё вековечная суть назначения поэта, если не в том, чтобы перед лицом ужаса обрести не черноту, а целение, не сарказмы, а псалом, не хулу, а хвалу?” У творах — своеасаблівая этыка паводзін, вельмі чалавечная і мудрая. Спынімся ж на гэтай жыццёвай этыцы.

Перш за ўсё, праз творчасць Марыі Вайцяшонак праходзіць думка пра адчуванне жыцця як Дару. Можна тысячы разоў паўтарыць гэтую ісціну, але сапраўды ўсвядоміць і прыняць яе дадзена не кожнаму. А колькіх праблем у жыцці можна пазбегнуць, прыняўшы. Калі засяродзіцца на галоўным: жыццё — дар; дар — тая прырода, тыя людзі, што вакол цябе.

Марыя Вайцяшонак даводзіць, што ўсё ў гэтым свеце мае сваю патаемную сутнасць і прызначэнне. Як важна разумець гэта, жыць удумліва і асэнсавана: “Людзі хіба што

> *“Перш за ўсё, праз творчасць Марыі Вайцяшонак праходзіць думка пра адчуванне жыцця як Дару. Можна тысячы разоў паўтарыць гэтую ісціну, але сапраўды ўсвядоміць і прыняць яе дадзена не кожнаму.*

не ведаюць: жыццё на зямлі суцэльнае, як вытканы святочны габелен: аніводнага спушчанага вочка, аніводнай брыдкай шэрай ніці”. В. Халізеў назваў такі тып аўтарскай эмацыйнасці “ўдзячнае прыманне свету і сардэчнае ўзрушанне”.

Аўтарка сцвярджае важнасць пачуцця радасці ўвогуле: “…радасная істота найбліжэй да Бога”, “радавацца кожны раз, калі ты проста пераступаеш парог не толькі знадворку, а з аднаго пакоя ў другі, праходзіш побач”. Гэта адпавядае запавету апостала Паўла: “Заўсёды радуйцеся, за ўсё дзякуйце”. Пісьменніца вучыць адчуваць радасць ад штодзённага, пазбягаць мітуслівага, дробязнага. Творы Марыі Вайцяшонак менавіта пра тую сапраўднасць, якая заключаецца ў перажыванні кожнага імгнення Быцця, “у адным рытме з уздыхамі вечаровай зямлі”, у імкненні “супасці з мясцовасцю”, прачуць вакольнае, цяперашняе. Сваімі творамі пісьменніца пасылае ў свет імпульсы Сапраўднага Быцця. Піша пра важнасць засяроджанасці, няспешнасці для адчування гармоніі, паўнаты быцця. Сваімі творамі яна паслядоўна сцвярджае, што жыць трэба так, як рыхтавацца да споведзі: асэнсавана, не мітусліва.

Словы Марыі Вайцяшонак: “У яе толькі вось гэты кавалак зямлі пад нагамі, яго трэба ўрабляць, як сад у вёсцы” — своеасаблівае жыццёвае і творчае крэда пісьменніцы. “Урабляць” — значыць упрыгожваць, рабіць лепшай тую жыццёвую прастору, у якой існуеш, ачалавечваць свет, людзей. “Трэба жыць, трэба зрушыць ейны “каўчэг” пасярод маркотнага разводдзя бульбоўніка, уратаваць кожную зёлку, салодкую яблыню дзеля Спаса, кожны зярнюк заводнай кветкі. Хіба не чулі, што Бог пасе коней апакаліпсіса там, дзе раскашуе дзікая трава…” Вобраз Саду — скразны ў творах пісьменніцы. Гэта сімвал упарадкаванасці, апрацаванасці, уладкаванасці прасторы, своеасаблівая мадэль Сусвету. Д. Ліхачоў пісаў: “Сад — аналаг Бібліі, таму што і сам Сусвет — гэта матэрыялізаваная Біблія”.

Аўтарка імкнецца вярнуць значнасць такім простым паняццям, як Дом, Сям'я: “...зноў востра адчуваю сутнасць чалавечага жыцця: дом, дрэва, поле, рака, поплаў, сабака — усё тое, што неабходна для сэрца, для адносін з другім чалавекам, муж ён табе, сын ці друг”. Базавай каштоўнасцю ў сапраўдным існаванні, паводле Марыі Вайцяшонак, з'яўляецца Дом. Менавіта з вялікай літары. У пісьменніцы — “Храм Быцця” (апавяданні “Купіць дом у Італіі”, “Дом вокнамі ў сад”, “Дом на захадзе дня”, “Дом над лесам”). А Жанчына, гаспадыня Дому — “служыцелька свайго Храму Быцця”.

“Дом павінен складацца з любімых рэчаў”. “Цэнтр не можа быць Домам, як і звычайны гарадскі блок, дзе б ён ні знаходзіўся”.

Шмат гаворыцца ў творах пра Любоў: “Любоў дае нам



Фота Кастуся Дробава

вышэйшае неба, каб выпрастацца ў поўны свой рост, дае нам жыццядайнае святло, без якога не існуе нават трава”. Любоў — адна з фундаментальных асноў чалавечага быцця, найважнейшая праява чалавечага духу. Сэнс і прызначэнне чалавека і чалавецтва ў тым, каб стаць на шлях любові. Той, хто здольны на такое, становіцца на шлях “Богачалавека”. Толькі сапраўдная любоў “напаўняе абсалютным сэнсам наша жыццё” (С. Салаўёў).

Пісьменніца дзеліцца набытым, перажытым, у нечым нават балючым для Жанчыны: “мы старэем толькі на вачах мужчын…”, “…не заўважыў, што я пастарэла, я змянілася… І я не стыдаюся, бо гэта на мне знакі нашага сумеснага жыцця, сляды бед і непаразуменняў…”

Гераіня Марыі Вайцяшонак нясе ў сабе сваю патаемную жаночую сутнасць (і загадкавасць), імкнецца захоўваць ёй вернасць. Жаночае шчасце і жаночая мудрасць — у культывацыі сваёй жаноцкасці, у пяшчоце і прыгажосці, а не ў змаганні, спаборніцтве з мужчынам. Аўтарка не толькі апісвае пачуцці жанчыны, яна разважае над яе прызначэннем, мацярынствам:

*Жанчыне лёгка*
*адчуць сябе*
*багавіцай,*
*нарадзіўшы дзіця.*

Жанчына Марыі Вайцяшонак і гаспадыня, захавальніца агменю, жонка, анёл-ахоўнік: “Хацелася ўскочыць, праверыць пакоі, усіх, хто спіць: ці ўсё добра ў доме і ў свеце з блізкімі людзьмі”. Яна задае рытм жыцця сям'і, прыўносіць у яе гармонію: “Цяпер я вылечылася ад пуду, чым бы ні займалася: я гатую каву, я “выхоўваю сад”, і не на французскі манер, — тут ён звычайна нязмушана пераходзіць да самой прыроды. Я распальваю камін — робіш работу,

> *“Марыя Вайцяшонак: “Я не магу прыняць жыццё такім, якое яно ёсць, — хаатычным, бы ў непрытомнасці, жорсткім. Я ўвесь час супраціўляюся гэтаму... Сапраўды, я, пэўна, замнога творчасці і энергіі ўкладваю ў сваё жыццё, каб вакол мяне атрымаўся круг чыстай вады…”*

быццам чытаеш вершы. Кожны мой рух адбіваецца ў вечнасці, бы ў люстэрках. Нічога тут не губляецца — ты цяпер звычайная служыцелька свайго Храму Быцця, Дрэва, Каменя”. Усё грубае і жорсткае гераіняй Марыі Вайцяшонак адмаўляецца. Гераіня імкнецца супрацьстаяць знешнім абставінам (“Яна жыла ў краіне сваёй душы, дзе час не супадаў з часам сённяшняга веку”), адпавядаць сваім унутраным схільнасцям. Ва ўсё, што яна робіць, пісьменніца імкнецца прыўнесці сутнасна-жаноцкае і адкінуць тое, што супярэчыць яму. З інтэрв'ю з Марыяй Вайцяшонак: “Я не магу прыняць жыццё такім, якое яно ёсць, — хаатычным, бы ў непрытомнасці, жорсткім. Я ўвесь час супраціўляюся гэтаму... Сапраўды, я, пэўна, замнога творчасці і энергіі ўкладваю ў сваё жыццё, каб вакол мяне атрымаўся круг чыстай вады…”

Героямі твораў Марыі Вайцяшонак часта выступаюць вясковыя людзі. У іх жыцці, стаўленні да наваколля, адзін да аднаго пісьменніца бачыць быційнае: “Кожны гук размеркаваны, усё па сваім часе — па сонцы, па зорах, па месяцы. Штодзённае покрыва расхінецца, і мне пакажацца іхняе нібыта марнае жыццё жыццём”. У нарысе “Іслач” простыя словы селяніна пра тое, што яго жонка прыгожая (“Праўда, праўда, але ж каб ты пабачыла маю жонку…”) прымусілі пісьменніцу скалануцца: “Я скаланулася, як перад шэдэўрам: цяжкая праца на зямлі, выгадаваў двух сыноў, дачку, усё летца з саўгаснымі цялятамі, а ў вачах свяцілася маладая зачараваная душа. Думаю зайсціся, паглядзець на ягоную Лёлю. А пакуль што бачу нанова абшаляваную хату, новую вялікую веранду, як падарункі ёй, прыгожай праз усё жыццё жанчыне”. У гэтым аповедзе быційнае і быццёвае разам.

Працытую яшчэ колькі мудрых выслоўяў Марыі Вайцяшонак: “… душа павінна быць высокай, а жаль скіраваны ўніз, да простага чалавека”; “Але душа не заўсёды гатовая да споведзі — да царквы раіла б ісці доўга, доўга рыхтавацца. Шкодзіць чалавеку будзённа мінаць храм з дня ў дзень…”; “Абы твар павярнуў да сонца, то і малітва, абы толькі ўдалося сцішыць у душы злосць, гнеў — гэта ўжо і ёсць сувязь з Богам”.

Надзвычай важным падаецца пісьменніцы шанаваць, помніць, захоўваць роднае, інакш — страта сябе, сваёй сутнасці: “…каб ні ад чаго не адрачыся, не зганьбіць, не страціць, пабраўшы крошкі не тое што з сялянскага стала, але і пад сталом… Свет вельмі вялікі, жыццё ўтрапёна кароткае, навошта прывучацца да чужога дому, навошта спробы палюбіць яго” (“Мы з аднаго поля”). Гераіня аднаго з апавяданняў адмаўляецца набываць дом у Італіі, бо да яе прыходзіць разуменне таго, што трэба адбудаваць Дом тут, на радзіме, “упарадкаваць” свой кавалак зямлі. “І гэта не рай — там працуюць з дня ў дзень, з веку ў век, каб быць італьянцамі. Мы будзем да іх прыглядацца, вучыцца, каб “замест персідскага ўзору” выткаць дома свой свет”.

Такая ж пашана павінна быць і да мовы, стагоддзямі ўсталяваных звычаяў, якія з'яўляюцца нашым абярогам. Без іх мы “нічым не захінёныя, не абароненыя…”; “Знікаюць з нашага абыходу рэчы, работы, заняткі, святы — губляюцца словы. Перацінаецца спрадвечнае цячэнне культуры…”

Пазбаўленыя фальшу, штучнасці, творы Марыі Вайцяшонак узымаюць узровень нашай літаратуры.




# Паміж быццём і нябытам

Вераніка РУСАКОВА

Шмат што з'ядае ржа часу, багата чаго адыходзіць у нябыт, многія калісьці вярэдлівыя і злабадзённыя пытанні перастаюць турбаваць душы і розумы людскія. І толькі адвечныя, сакральныя, невырашальныя і таму ў любы час актуальныя праблемы хвалююць і будуць хваляваць заўсёды.

Напрыклад, такія, якія ставіць перад намі каханне. Столькі твораў прысвечана гэтаму пачуццю, столькі напісана, а ўсё роўна адназначных адказаў не знойдзена. І ўсё ж такі пісьменнікі зноў і зноў імкнуцца адказаць на вечныя пытанні. У сакавіцкім нумары "Полымя" празаічная частка дорыць чытачам адразу два творы, аб'яднаныя агульнай тэмай: "Урсула" — навелы пра каханне ад Георгія Марчука і аповесць "Зацьменне" ад Навума Гальпяровіча. Нягледзячы на іх тэматычную еднасць, яны розняцца, па-першае, жанрава, а па-другое, тымі шляхамі, якімі аўтары ідуць да вырашэння адвечных пытанняў.

Аповесць Навума Гальпяровіча вылучаецца эпічным размахам, псіхалагічным заглыбленнем, панарамным разгортваннем унутранага свету герояў. Часам аўтар пакідае чытача сам-насам, як бы адыходзячы ўбок, дае магчымасць паразважаць, паставіць сябе на месца дзеючай асобы, пагартаць старонкі сваёй душы, каб знайсці патрэбныя радкі, успомніць словы… "Зацьменне" — з катэгорыі тых твораў, якія будуць цікавыя чытачам любога ўзросту. Моладзь зможа дакрануцца да скарбніцы жыццёвага досведу, людзі больш сталага веку — прыгадаць перажытае. Аснову твора складаюць лісты галоўнага героя, дзякуючы гэтаму разгортванне падзей і пачуццяў адбываецца паступова, логіка, рэфлексія, прычынна-выніковая храналагічная паслядоўнасць — усё пабудавана так, каб падштурхнуць чытача да самастойнага аналізу і пачуццёвага паглыблення ў твор, каб хоць аднаму з тых многіх, хто крочыць гэтым шляхам, пашчасціла знайсці адказы, а пакуль… А пакуль "…увесь свет заціх у салодкім чаканні. У чаканні кахання".

"Урсула" Георгія Марчука — як стужка кіно з чатырох навел-кадраў. Кіно — адно, цэльнае, але кадры вельмі розныя, як і розныя праявы вялікага, шалёнага, усёабдымнага кахання. "Свята пачуццяў" — гэта фантан эмацыйных, гучных, салодкіх і спеўных слоў-прызнанняў. У "Рэўнасці" аўтар не толькі фантаніруе эмоцыямі, але і прыцягвае чытача да філасофскіх разваг, ён імкнецца аддзяліць каханне ад рэўнасці, зрабіць іх антаганістамі: "каханне ахвярнае, рэўнасць — ніколі", але і заўважае, што "рэўнасць — дачка кахання, але дачка непаслухмяная, рэзкая, шчырая, капрызлівая, з норавам, нават небяспечная ў сваёй непрадказальнасці". Аўтар і ў "Адзіноце" працягвае трымаць чытача ў віры філасофскіх разваг і супярэчнасцей, праводзячы аповед ад "светлай журбы адзіноты" і вяртаючыся да жадання быць побач з каханай, падводзячы да высновы, што рэўнасць здольная перамагчы каханне, адзінота — не. У навеле "У пошуках сэнсу" ўсе супярэчнасці паяднаны: "кожны дзень, о мая працавітая Урсула, дадзены для радасці, а каб асэнсаваць яе, насылаецца часам і гора".

Тэму кахання ў паэзіі працягвае Сяргей Патаранскі, яго лірычная гераіня — увасабленне святла і вясны, жадання жыць і радавацца кожнаму дню. Перад чытачом паўстае досыць аднапланавы малюнак, але гэта вельмі натуральна для закаханага чалавека, якому ўсё бачыцца праз "ружовыя акуляры".

Вершы Юркі Голуба ўздымаюць адвечную тэму жыцця і смерці, якая падпільноўвае чалавека паўсюль. У "Пастаралі" чытач адчуе, што нават у паўсядзенным руху, у бытавых, гаспадарчых клопатах жыццё сцвярджае сваю перамогу:

*Разбежыста пасталі:*
*Трымаюць посах просты.*
*Пастух — на пастаралі.*
*На воблаках — апостал.*

Валерый Максімовіч таксама закранае пытанні жыцця і смерці, але тут лірычны герой стаіць не столькі паміж дзвюх супрацьлеглагласцей на мяжы экзістэнцыялізму, колькі на пазіцыях сцвярджэння жыцця, і нават тлумачыць, як у яго гэта атрымліваецца, у чым яго жыццёвая моц і дзе яе вытокі:

*Здолееш даастатку*
*Скінуць цяжкую стому…*
*Вось чаму я, мой братка,*
*Птушкай лячу дадому!*




# Дэманы гісторыі

Соф'я МАРОЗАВА

У трэцім нумары "Нёман" завяршыў публікацыю рамана Георгія Марчука "Год демонов". Твор пабачыў свет на рускай мове, у перакладзе дачкі пісьменніка Наталлі Марчук. Уважлівае прачытанне дазваляе зрабіць дзве, на першы погляд, супярэчлівыя высновы. Першая: тэма распаду Савецкага Саюза яшчэ актуальная, хвалюе і патрабуе мастацкага водгуку. І другая: рэчаіснасць перабудовы і падзення СССР аддалілася ад нас настолькі, што сёння мы маем, як ні дзіўна, гістарычны раман пра яе.

"Год демонов" напісаны ў адпаведнасці з канонам гістарычнага жанру, прасякнуты духам эпохі і насычаны адпаведнымі рэаліямі... Хоць аўтару, відаць, не даводзілася праседжваць тыдні ў архіве, каб аднавіць гістарычны каларыт. А каларыт гэты настолькі моцны, што часам ад яго ў рамане няма чым дыхаць: "Приблизительно в это же самое время занятому разработкой стратегии на ближайшее будущее Константину Петровичу Злобину позвонил его давний друг, товарищ по работе в Госплане при Совмине, секретарь партбюро Института истории партии при ЦК КПБ и спокойно сообщил..."

Паколькі падзеі паказаныя ў асноўным вачыма прадстаўнікоў партыйнага апарату і іх акружэння, твор насычаны выдаткамі бюракратызму, размовамі пра палітыку з пазіцый улады пра доўг перад краінай і новыя грамадскія з'явы ("Обнаглели до крайнего неприличия, как он их называл, недоспелые националисты из клубов "Спадчына", "Тутэйшыя"..."). Аднолькава непрывабныя як прадстаўнікі сістэмы, якая ўжо выраджаецца, так і актывісты перабудовы (Вовік Лапша — заснавальнік эратычнай газеты). З прадстаўнікамі абодвух "лагераў" даводзіцца кантактаваць Любаміру Горычу — журналісту, інтэлігенту, безумоўна станоўчаму персанажу.

Час — адзін з галоўных аб'ектаў увагі ў рамане, што вынікае і з самой назвы — "Год демонов". Аднак з датамі звязаная недарэчнасць: эпіграф канстатуе, што "до развала СССР остается меньше года", а на першай жа старонцы даюцца іншыя каардынаты: мінуў год пасля Чарнобыльскай катастрофы. Дык каторы ж ён, год дэманаў — 1987 ці 1989? Думаецца, нягледзячы на блытаніну, чытач зразумее. Паводле рамана, гэта той самы год, калі "затушевалась грань между ангелами и демонами" і "злые люди, взяв к себе в подручные добрых, но наивных и обозлённых от несправедливости собратьев, растащили государство". Год, калі "демоны сеют зёрна человеческой ненависти", а "демократия гуляет, как пьяная баба на бульваре".

Скразной лініяй праходзіць праз аповед гісторыя Героя Савецкага Саюза Сцяпана Сцяпанавіча Зайцава (невыпадковая тут наяўнасць адразу чатырох вялікіх літар "С"), які імкнуўся пераадолець несправядлівасць і абвергнуць узведзены на яго паклёп. Герой выступае своеасаблівым крытэрыем, бо ў адносінах да яго высвятляецца маральнае аблічча астатніх персанажаў і вызначаецца, хто вытрымаў іспыт, варты аўтарскай высновы: "На них, совестливых и гордых, держится Отечество".

Апошнім часам з'яўляецца ўсё больш твораў, прысвечаных асэнсаванню падзей канца XX стагоддзя. Раман Георгія Марчука "Год демонов" паказвае падзеі не з вышыні часу, а нібыта знутры, ён гарманічна вытрыманы ў сваёй эпосе. Крытыка перабудовы ў ім часам сягае да пафасу сатыры, але ці актуальны такі пафас у наш час?




# Вернемся ў СССР?

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Сакавіцкі нумар "Маладосці" прапанаваў чытачам часопісны варыянт твора Вольгі Куртаніч "СССР", пазначаны аўтарам як "антыдзея без дзеючых асобаў". Паводле формы антыдзею цалкам можна аднесці да "плыні свядомасці", якая, як піша даследчыца Е. Лявонава, адметная "абрывістасцю думак, часавымі напластаваннямі, непаслядоўнасцю, тэндэнцыяй да алагічнасці, суб'ектыўнасцю, адсутнасцю прычынна-выніковых сувязяў, свядомай некіраванасцю аповеду. Думкі, уражанні, асацыяцыі, успаміны нібы перабіваюць адзін аднаго, злучаюцца паводле прынцыпу выпадковасці і неаўмыснасці".

На маю думку, антыдзея цалкам адпавядае прыведзеным характарыстыкам. Вальжына, ад імя якой вядзецца расповед, з'яўляецца прадстаўніцай апошняга пакалення, выхаванага ў сацыялістычныя часы. "У нашых венах, — сцвярджае лірычная гераіня, — цячэ сапраўдная чырвоная кроў з цельцамі, пазначанымі пячаткай з сярпом і молатам". Праз плынь уласнай свядомасці Вальжына імкнецца пакінуць для нашчадкаў сваё разуменне савецкай цывілізацыі. Бо можа здарыцца сітуацыя, "калі наш час будзе засыпаны пяском тысячагоддзяў". Але "нейкаму выпадковаму шукальніку патрапіць на вока старонка з гэтай кнігі (калі іншыя рэчы яшчэ не будуць знойдзены), з чаго ён, стаўшы вялікім навукоўцам, які здолее расшыфраваць незнаёмыя нікому на зямлі пісьмёны, зробіць выснову, што існавала такая цывілізацыя — СССР".

Часопісны варыянт любога твора з'яўляецца для крытыка прыхаванай пасткай. Цяжка сказаць, наколькі купюры, зробленыя аўтарам ці рэдакцыяй, паўплывалі на мастацкую задуму. Ці не схаваны ў першапачатковай версіі адказы на ўсе крытычныя заўвагі? Але, не маючы поўнага тэксту, прааналізуем прапанаваную нам версію.

Наогул, з пункту гледжання мастацкай задумы зварот да "плыні свядомасці" з'яўляецца дастаткова смелым крокам. Нездарма Е. Лявонава адзначала, што рысы гэтага кірунку, які атрымаў найбольшае распаўсюджанне ў заходняй літаратуры, да апошняга часу сустракаюцца ў айчынным прыгожым пісьменстве толькі ў ранніх раманах К. Чорнага. Што да сучасных пісьменнікаў, дык пераважная большасць з іх арыентуецца на стварэнне прозы ў рэчышчы псіхалагічнага рэалізму або задавальняецца адлюстраваннем бытавых падзей уласнага жыцця.

Як ужо адзначалася, у В. Куртаніч такі прыём, як плынь свядомасці, выглядае арганічна і дарэчы. Але якую задуму ставіла перад сабой пісьменніца? І наколькі ўдалося яе рэалізаваць? Калі я правільна зразумеў аўтарскі намер, творца паспрабавала вобразнымі сродкамі адлюстраваць савецкую Атлантыду, што сышла ў небыццё, і свой лёс, звязаны з ёй. Каб праверыць, ці паспяхова рэалізаваная задума твора, прапаную ход, які выкарыстала сама пісьменніца (прыведзеная вышэй цытата пра "пясок тысячагоддзяў"). Давайце ўявім, што мы амаль нічога не ведаем пра савецкую цывілізацыю, і паспрабуем атрымаць уяўленне пра яе менавіта з твораў В. Куртаніч.

У цэлым аўтар паспяхова ўвасобіла сваю ідэю. Праз разважанні гераіні яна перадала найбольш тыповыя рысы развіцця савецкага грамадства (абагаўленне постаці Леніна, стандартызаванасць асобы, дамінаванне псіхалогіі статка і дэфіцыт тавараў). Цікавымі падаюцца варыянты расшыфроўкі абрэвіятуры СССР (напрыклад, Стэрэатып Свяшчэннай Сентыментальнасці — Рабалепства, Спектакль: Сумесь Сатыры і Райскага падману).

Гаворка пра прыведзеныя рысы вядзецца праз светаўспрыманне галоўнай гераіні. Зразумела, такі ракурс непазбежна прадугледжвае асабістыя моманты з біяграфіі Вальжыны. Але, на маю думку, некаторыя з іх абцяжарваюць твор, не спрыяюць рэалізацыі асноўнай ідэі і могуць быць зразумелыя толькі вельмі вузкай аўдыторыі. Напрыклад, аматары літаратуры здагадаюцца, што пад Алегам-Схімнікам, які сышоў у Жыровіцкі манастыр, хаваецца паэт Зніч. Тэатралы будуць спрачацца, з кім суаднесці асобу маладога драматурга, які "ідзе па галовах". Прыхільнікі паэзіі В. Куртаніч пазнаюць апісанне яе творчага вечара. Але ці зразумее нешта больш шырокая публіка?

Наогул, прыведзеныя заўвагі кардынальным чынам не ўплываюць на ацэнку твора. Арыгінальны, нестандартна напісаны, ён, безумоўна, будзе цікавы інтэлектуальнай аўдыторыі.

# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцэра»

## Слова краязнаўцы



**Сяргей ГРАНІК, дырэктар ваенна-гістарычнага музея імя Д. К. Удовікава, сцвярджае, што ў важнасці і значэнні краязнаўчай работы многіх жыхароў Драгічыншчыны пераконваць не трэба:**

— У савецкія часы надавалася вялікае значэнне вывучэнню гістарычнага мінулага роднага краю. Краязнаўствам займаліся тысячы школьнікаў і настаўнікаў. Тады і з'явілася шырокая сетка школьных музеяў. Асноўная задача сённяшніх гурткоў і музеяў — збор і захоўванне экспанатаў і дакументаў, якія маюць гістарычную каштоўнасць. Але сабранае яшчэ трэба вывучыць. Пра гэта добра ведаюць тыя, хто кіруе краязнаўчай работай і адказвае за школьныя музеі.

Не раз упэўніваўся: у школах назапасілі столькі аўтэнтычных прадметаў, што яны маглі б упрыгожыць любы дзяржаўны музей. Таму неабходна ўсе каштоўныя экспанаты занесці ў каталог дзяржаўнага музейнага фонду Рэспублікі Беларусь, які цяпер фарміруецца. Трывожыць толькі тое, што некалькі гадоў таму ў сувязі з еўрарамонтамі ў навучальных установах разабралі састарэлыя экспазіцыі. Некаторыя чыноўнікі вырашылі, што яны ўжо не патрэбны. Маё асабістае меркаванне: рэвізіяй музеяў павінны займацца музеязнаўцы, а не службоўцы.

У Драгічынскім раёне сёння належны выгляд маюць музеі ў Драгічынскай гімназіі, СШ № 1, Сварынскай, Новапапінскай і Зарэчкаўскай сярэдніх школах. І іх неабходна захаваць. Сумна ўсведамляць, што перасталі дзейнічаць музеі ў Асавецкай, Брашэвіцкай, Антопальскай, Бездзежскай і іншых школах. А гэта неймаверная колькасць рэдкіх экспанатаў і дакументаў. У адной толькі Асавецкай школе знікла больш як тысяча экспанатаў.

На мой погляд, вялікую карысць прыносіць тое, што пры нашым музеі ўжо даўно існуе клуб гісторыкаў "Краязнаўца" і штоквартальна выходзіць раённая гісторыка-краязнаўчая газета "Наш край — Загароддзе", у якой можна выказаць свой пункт гледжання, падыскутаваць з калегамі і апублікаваць свае даследаванні.

Калі мы жадаем, каб Беларусь была моцнай і квітнеючай дзяржавай. Каб нас паважалі, мы павінны добра ведаць сваё мінулае, якім бы яно ні было. І ні ў якім разе не адмаўляцца ад яго!

## Музейны ўнікат

# Помнікі старажытнасці — летапісы мінуўшчыны

**Да рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2011" супрацоўнікі Мінскага абласнога краязнаўчага музея распрацавалі сучасную навуковую канцэпцыю і стварылі новую экспазіцыю "Гісторыя Міншчыны ад старажытных часоў да пачатку XX ст."**



*Фібула для зашпільвання верхняга адзення. Курганны могільнік "Навасёлкі" (Мядзельскі раён). XI — XII стст.*

**Лідзія КУРЫЛОВІЧ, старшы навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея**

Перад творчай групай экспазіцыйна-выставачнага аддзела музея і мастакамі фірмы "АКЦЮР" паўстала няпростая задача: у адной зале, на пляцоўцы амаль у 180 квадратных метраў, паказаць працяглы гістарычны перыяд. Першы раздзел экспазіцыі прысвечаны першабытнаабшчыннаму ладу на тэрыторыі Міншчыны і пачатку пераходу да феадальных адносін. Самы старажытны перыяд гісторыі краю вырашылі размясціць у цэнтры залы. У выніку атрымалася замкнёная музейная прастора, своеасаблівая "зала ў зале". Карта-схема археалагічных раскопак на тэрыторыі Мінскай вобласці, прымацаваная ўверсе, накшталт даху са "шкуры" ў старажытным жытле, надала ёй завершанасць.

Помнікі старажытнасці — своеасаблівыя летапісы мінуўшчыны, дзе звесткі не занатаваны на пергаменце або паперы, а ўтрымліваюцца ў рэчах. Гэта найбольш архаічная крыніца нашай гістарычнай памяці. Падчас стварэння экспазіцыі былі выкарыстаны матэрыялы археалагічных раскопак, праведзеных у Барысаўскім, Мядзельскім, Мінскім, Лагойскім, Бярэзінскім і Стаўбцоўскім раёнах.



*Шліфаваныя сякеры з крэменю і каменю. Неаліт — канец V тыс. да н.э. — II тыс. н.э.*

Тэрыторыю сучаснай Міншчыны першабытны чалавек засяліў больш як дзесяць тысячагоддзяў таму, у эпоху мезаліту — сярэдняга каменнага веку. У тыя далёкія часы на берагах найбуйнейшых вадаёмаў пачалі сяліцца носьбіты свідзерскай археалагічнай культуры, якія займаліся пераважна паляваннем, ужывалі лістападобныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, бакавыя разцы і іншыя крамянёвыя прылады. Спатрэбілася карпатлівая праца супрацоўнікаў па адборы прыдатных артэфактаў, таму што калекцыя археалогіі — адна з самых шматлікіх у музейным фондзе і налічвае больш як 13 тысяч адзінак захоўвання.

Зразумела, не толькі вырабы прылад працы ці заняткі людзей з'яўляюцца мэтай даследавання гістарычнай навукі. Духоўнае жыццё, светапогляд нашых продкаў — цікавая старонка мінулага. Пахавальныя могільнікі славянскіх плямёнаў — дрыгавічоў і крывічоў — у выглядзе вялікіх земляных курганоў вядомы з другой паловы І тысячагоддзя нашай эры. З рэлігійнымі вераваннямі звязаны шматлікія знаходкі жаночых упрыгожванняў. Гэта скроневыя кольцы, бразготкі, фібулы, бранзалеты, пярсцёнкі. Да вераванняў продкаў нас адсылаюць гліняны посуд і зброя з пахаванняў каля Заслаўя, вёсак Анусіна і Гатовіна ў Мінскім раёне, вёскі Навасёлкі ў Мядзельскім. Акрамя земляных курганоў існуюць каменныя магілы XI — XIV стст., якія лічацца даволі рэдкімі помнікамі. У нас экспануецца жаночае пахаванне з курганна-жальнічнага могільніка каля вёскі Дакучына Крупскага раёна.

Дамінантай першага раздзела экспазіцыі па гісторыі Міншчыны з'яўляецца паказ матэрыялаў раскопак гарадзішча каля возера Сялява (Крупшчына). Умацаванае паселішча выкарыстоўвалася насельнікамі на працягу некалькіх тысячагоддзяў ад пачатку н. э., затым жыццё на гэтым месцы спынілася. Адрадзілася яно толькі ў перыяд позняга сярэднявечча, калі тут была сядзіба феадала. У бронзавым веку тут, як лічыць доктар гістарычных навук Віктар Шадыра, было культавае месца, дзе адбываліся і пахаванні. Сярод археалагічных матэрыялаў цікавасць выклікаюць невядомыя раней у Беларусі знаходкі касцяных пласцінак з рэбраў капытных жывёл з адтулінамі, касцяныя падвескі-амулеты з іклаў і разцоў ваўка, бабра, дзіка, аленя, лася, каня, барсука з нарэзкамі.

Такім чынам атрымалася цікавая для наведвальнікаў, у першую чаргу школьнікаў, музейная прастора. За працу па стварэнні гэтай экспазіцыі творчая група супрацоўнікаў музея была адзначана прэміяй Мінскага аблвыканкама.

## Пуцявіны

# Змагаліся за Беларусь

**Моцныя арлоўскія мужыкі з вёскі Верхняя Любоўша ў чэрвені 1941 года пайшлі на вайну. Сярод іх і Антон Цюлякоў, які паабяцаў родным вярнуцца дамоў з перамогаю. Залічылі яго качагарам на бронецягнік, пра што ён і паведаміў у лісце сваёй сям'і.**

**Браніслаў ЗУБКОЎСКІ**

Сын Антона Сяргеевіча Васіль, ганаровы чыгуначнік СССР, жыхар горада Мар'іна Горка, расказаў, што гэта быў першы і апошні ліст ад бацькі. Неўзабаве прыйшло паведамленне: А. С. Цюлякоў, 1910 года нараджэння, згінуў без вестак. Васіль Антонавіч дагэтуль памятае слёзы маці і ўсе нягоды пасляваеннага галоднага дзяцінства. У сям'і падрастала пяцёра дзяцей. Пасля вайны юнак, скончыўшы школу, паехаў у Маскву. Працаваў качагарам у дэпо, закончыў чыгуначны тэхнікум, стаў машыністам электравоза.

Увесь час, запытваючы архівы, шукаў след бацькі. Даведаўся пра яго лёс з матэрыялаў штаба Заходняга фронту. У аператыўнай зводцы ад 7 ліпеня 1941 года паведамлялася пра гераічны ўчынак 12-га асобнага дывізіёна бронецягнікоў, байцы якога змагаліся з мотамеханізаванымі часцямі ворага на тэрыторыі Беларусі.

29 чэрвеня 1941-га дывізіён прыбыў у Смаленск. У хуткім часе 47-ы і 48-ы прыбылі ў Барысаў, а 49-ы накіраваўся на Магілёў. У Барысаве дывізіёну даручылі падтрымаць танкавы батальён у баях з ворагам у раёне станцый Жодзіна і Смалявічы. 1 ліпеня першыя два бронецягнікі рушылі выконваць заданне.

47-ы, крыху не дайшоўшы да Жодзіна, сустрэўся з 20 нямецкімі танкамі, якія рухаліся па дарозе на Барысаў, і ўступіў з імі ў бой. Некалькі варожых машын былі падбіты, астатнія адышлі. Услед за імі паказалася другая танкавая калона з 30 машын. Немцы абстралялі бронецягнік, які пачаў адыходзіць да Барысава. Бронецягнік № 48, які ішоў за 47-м, таксама абстралялі з процітанкавых гармат і пашкодзілі паравоз.

Неўзабаве на дарозе паказалася варожая калона. Бронецягнік адкрыў агонь. Аднак нанесеныя яму пашкоджанні не дазволілі 48-му манеўраваць, і ён вымушаны быў адысці да Барысава, а затым накіравацца ў Бранск, дзе стаў на рамонт. 47-ы, які адыходзіў з баямі, абстраляла нямецкая артылерыя. Першы ж снарад прабіў кацёл, загінулі машыністы і качагар бронецягніка Антон Цюлякоў.

Па загадзе камандзіра дывізіёна маёра Дзяругіна адкрылі агонь па ворагу, але неўзабаве паступіў другі загад: пакінуць састаў, які вораг расстрэльваў артылерыяй з трох бакоў, ды яшчэ зверху ляцелі бомбы. Акрамя таго, на адной з бронепляцовак пачаўся пажар, пачалі рвацца снарады. На базу дывізіёна не вярнуліся 66 чалавек з каманды бронецягніка № 47, восем байцоў загінулі, астатнія згінулі без вестак.

Сёння Васіль Цюлякоў мае на руках імянны спіс загінуўшых у ліпені 1941 года камандзіраў і байцоў 21-га дывізіёна бронецягнікоў, у ім значыцца і яго бацька. На месцы гібелі бронецягніка, каля прыпыначнага пункта Пралетарская Перамога, стаіць памятны знак. Яго можна ўбачыць нават з цягніка, едучы па чыгунцы з Мінска на Барысаў.

Васіль Цюлякоў лічыць, што цяпер, маючы спісы байцоў, самы час усталяваць на месцы памятнага знака мемарыяльную дошку з прозвішчамі загінуўшых. З гэтай прапановаю ён і звярнуўся да кіраўніцтва Барысаўскага райвыканкама.

Цікавы факт: з 502 чалавек асабовага складу 12-га дывізіёна толькі 24 былі кадравымі вайскоўцамі, астатнія прыбылі з запасу. Бронецягнікі, якія ўваходзілі ў склад дывізіёна і дзейнічалі ў Беларусі, у асноўным былі ўкамплектаваны рабочымі завода "Чырвоны Профінтэрн" Бранскага чыгуначнага вузла і калгаснікамі з Арлоўскай вобласці.

## Свята мядзведзя

У Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту падрыхтавана экскурсія з інтэрактыўнымі элементамі "Камаедзіца", прысвечаная мядзведзю. Старажытнае славянскае свята Камаедзіца мае дахрысціянскае паходжанне. Яго вытокі звязаны з уяўленнем пра тое, што мядзведзь з'яўляецца "продкам" некаторых плямён. Камаедзіцу адзначалі на пачатку вясны, калі мядзведзь выходзіў з бярлога. Рыхтавалі рытуальную ежу: сушаны рэпнік, гарохавую кашу — так званыя "камы" (адсюль і назва). Такая ежа лічылася любімым ласунком мядзведзя. Пасля святочнага снедання сяляне кладзіся на палаці і варочаліся з боку на бок, імітуючы рухі звера. Такім чынам імкнуліся яму дагадзіць, задобрыць, абудзіць ад зімовай спячкі.

**Бажэна СТРОК**

*Глыбокае-2012*

# Святло вялікай Перамогі

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,
фота аўтара

**9 Мая — Дзень Перамогі… Беларусам выпаў асаблівы лёс: менавіта тут адбываліся многія падзеі, якія мелі вырашальнае значэнне для абароны Бацькаўшчыны. У рэспубліцы нямала помнікаў гісторыі і, канечне ж, больш за ўсё помнікаў, звязаных з Вялікай Айчыннай вайной. Людзі прыходзяць да іх, каб адчуць гераізм воінаў, якія не шкадавалі сваіх жыццяў у імя вялікай Перамогі. Колькі б ні прайшло часу, новыя пакаленні па-ранейшаму захоўваюць успаміны бацькоў і дзядоў, перадаюць іх сваім дзецям. Духоўная сіла ветэранаў вайны, усё задуманае і створанае імі нікуды не знікла. У гэтым — таксама пераемнасць пакаленняў, эстафета дабра і міру, якую неабходна несці праз стагоддзі.**

У гарадах, пасёлках, вёсках жылі і жывуць свае героі, якіх помняць і шануюць удзячныя землякі. На вялікі жаль, з кожным годам іх становіцца ўсё менш. У Глыбоцкім раёне, напрыклад, сёння пражывае ўсяго 68 удзельнікаў Вялікай Айчыннай. Незлічонымі магіламі ўзрыта гэтая зямля.

У верасні 1941 года каля былога Беразвечскага манастыра быў створаны шталаг № 351 (лагер для масавага знішчэння ваеннапалонных). У яго сагналі каля 25 тысяч чалавек. Ад холаду, голаду, хвароб, катаржнай працы людзі вар'яцелі ці паміралі. За першыя тры месяцы тут загінула 10 тысяч вязняў. Адзін з тых, хто зведаў жахі лагера, Уладзімір Кабайкін успамінаў: “На змену памерлым паступалі жывыя. А напярэдадні нам загадвалі легчы на нарах на бок з выпрастанымі нагамі, цесна прыціснуцца адзін да аднаго. Ведаючы, што вызваленае месца прызначаецца “папаўненню”, некаторыя з нас стараліся сагнуць у каленях ногі, каб хоць крыху “сэканоміць месца”. Але наглядчыкі тут жа білі палкамі па нагах”.

З успамінаў Міхаіла Раяка: “22 кастрычніка аб'явілі, што праз паўгадзіны ўсе яўрэі горада павінны перасяліцца ў гета. Адтуль іх шлях ляжаў у Барок. Там ля адкрытай магілы маладых яўрэяў фашысты застаўлялі танцаваць, а старых — спяваць “іюдаўскія” песні. Пасля гэтага бяссільных старых і калек штабялямі ўкладвалі ў яму, а юнакам і дзяўчатам загадвалі класціся паміж імі. Затым метадычна, спакойна расстрэльвалі ўсіх…”



*Мемарыяльны комплекс воінам і партызанам, ахвярам Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы Празарокі.*

Страты неймаверныя. У 1941 годзе ў Глыбокім было 1124 двары, а ў 1944-м — толькі 357. Знішчана больш як 10 тысяч чалавек. У фашысцкую няволю вывезена 1037 чалавек, дадому вярнуліся толькі 460 з іх.

Такі страшны рахунак вайне прад'яўляе гісторыя толькі аднаго раёна. І часам даводзіцца толькі здзіўляцца кашчунству некаторых даследчыкаў, у тым ліку і пісьменнікаў, якія спрабуюць апраўдаць злачынствы гітлераўцаў, апаганіць гераізм і мужнасць савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.

На Глыбоччыне, дарэчы, як і ў іншых беларускіх раёнах, памятаюць пра ахвяр вайны, шануюць добрае і светлае імя ветэранаў. На маляўнічым месцы каля вёскі Лаўрынаўка ўсталяваны памятны знак жыхарам 17 спаленых вёсак. Не зарастаюць сцежкі да мемарыяльнага комплексу ва ўрочышчы “Барок”, дзе пахаваны вязні лагера смерці — савецкія ваеннапалонныя і 200 італьянскіх салдат, мірных жыхары.

Помнікі, абеліскі міжволі напамінаюць пра гераічныя дзеянні Першага Прыбалтыйскага фронту, 89-й, 39-й і 46-й танкавых брыгад, партызанскіх брыгад і атрадаў “Кастрычнік”, “Камсамолец”, “Бальшавік”, якія вызвалялі раён; пра славутага земляка — Героя Савецкага Саюза, генерал-лейтэнанта Пятра Казлова, генерала Ігнація Карпезу, кавалераў баявых ордэнаў Аляксандра Жыгунова, Соф'ю Акулёнак, Віктара Плюскова, Савацея Бруханава, Антона Янчыліна, Леаніда Пугаўку, Клаўдзію Шакаладаву, Юрыя Сабалеўскага, Віктара Беразоўскага і многіх-многіх іншых, хто набліжаў Перамогу.

Святло яе не гасне і будзе асвятляць сённяшні і заўтрашні дзень Беларусі.

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

*Лёсы людскія*

# Узнагароджаны пасмяротна

Юрый КАМЯГІН

**Беларускі паэт Мікола Сурначоў крыху не дажыў да Перамогі — ён загінуў у ноч на 20 красавіка непадалёку ад Берліна. Ва ўсіх біяграфіях паэта гаворыцца, што яго баявы шлях быў адзначаны ордэнам Чырвонай Зоркі.**

Падчас баёў за нямецкі горад Пірыц 5 і 6 лютага 1945 года Сурначоў пад моцным мінамётным і артылерыйскім агнём праціўніка прабраўся ў горад. Выбраў назіральны пункт у размяшчэнні ворага і ўмела кіраваў агнём батарэі, у выніку чаго былі знішчаны дзве процітанкавыя гарматы, тры кулямётныя кропкі, 20 салдат і афіцэраў праціўніка. Смелы беларус, нават паранены, працягваў кіраваць агнём батарэі.

Аднак у Міколы Сурначова ёсць і яшчэ адна ўзнагарода — ордэн Айчыннай вайны І ступені. Ва ўзнагародным лісце, які захоўваецца ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны Расіі, гаворыцца: “Гвардыі лейтэнант Сурначоў падчас прарыву абароны немцаў на плацдарме ля хутара Таненхоф 14 красавіка 1945 г. першы апынуўся на плацдарме. Пад варожым артылерыйскім агнём праводзіў абсталяванне агнявых пазіцый і назіральных пунктаў. З прыбыццём дывізіёна ён выйшаў у баявых парадкі пяхоты і вывучаў сістэму абароны праціўніка”.

20 красавіка 1945 года машына, на якой ехаў Сурначоў, трапіла ў размяшчэнне праціўніка і была падпалена фаўстпатронам. Гвардыі лейтэнант Сурначоў уступіў у бой з фашыстамі...

Загад на пасмяротнае ўзнагароджанне Міколы Сурначова быў падпісаны 12 мая 1945 года. Бацькам афіцэра чамусьці пра гэта не паведамілі. Магчыма, паперы накіравалі ў ваенкамат, адкуль Сурначоў быў прызваны ў армію, але па дарозе яны маглі згубіцца. Так ці інакш, сёння можна з упэўненасцю сказаць, што наш зямляк ваяваў мужна.

*Стасункі*

# Сведкі жыцця

Выстаўка “Нязменныя сведкі часу”, на якой прадстаўлены гадзіннікі XVIII — XX стст. з фондаў музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, адкрылася ў Калінінградскім абласным музеі бурштыну. Экспазіцыя ладзіцца ў рамках супрацоўніцтва дзвюх гэтых устаноў. Дарэчы, летась у Гомелі з поспехам прайшла выстаўка “Бурштын — золата Балтыкі” са збору калінінградскага музея.

Кажуць, што старыя гадзіннікі паказваюць мінулы час. Наведвальнікам музея бурштыну прадастаўлена магчымасць адчуць гэта, пазнаёміўшыся з прадметамі, якія некалі ўпрыгожвалі інтэр'еры палаца княжацкай сям'і Паскевічаў у Гомелі. Тут жа — і больш позняя паступленні ў калекцыю гадзіннікаў, якая з'яўляецца адной з самых разнастайных і шматлікіх у складзе Музейнага фонду Беларусі.

Знаёмячыся з гэтымі ўнікальнымі прадметамі, хочацца ўявіць сабе не толькі іх уладальнікаў, але і тых, чыімі рукамі і талентам яны ствараліся. У ліку вытворцаў — прыдворны гадзіншчык французскага караля Людовіка XVI Жан-Антуан Лепін; гадзіншчыкі, адзначаныя дыпламамі майстра высокага класа, Адам Лешоп'е і П'ер Мусон; пастаўшчык Расійскага імператарскага двара Павел Бураксу; сусветна вядомыя фірмы “Браты Жапі”, “Докса”, “Юнгханс”. Прыцягваюць увагу камінныя, настольныя, насценныя, кішэнныя і наручныя хранометры XVIII — XX ст. у аправах з пазалочанай і пацінаванай бронзы, разнога дрэва, чыгуну, упрыгожаныя эмалямі, гравіроўкай і з дапамогай іншых тэхнік дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Таццяна ЛІТВІНАВА

*Экскурс у мінулае*

# Кола, круціся, час, спыніся!

**Першае ўпамінанне пра Лошыцкі парк адносіцца да XVI стагоддзя. Ён здаўна лічыўся месцам шматлікіх загадак, таямніц, цікавых падзей. Дастаткова згадаць легенды пра белага каня ці пра панну Ядвігу, якая ходзіць уначы па набярэжнай ракі Свіслач. Аднак галоўная загадка Лошыцкага парку так і засталася неразгаданай.**



*Сцежку жыцця выводзіць швейная машынка.*

Кацярына БЯДУЛІНА,
фота Кастуся Дробава

У тутэйшым флігелі можна было пазнаёміцца з новым выставачным праектам “Кола часу”, які дае магчымасць дакрануцца да побыту жыхароў мінскіх ваколіц XVIII — пачатку XX стагоддзя. Прадметы гарадской і вясковай культуры прадстаўляліся як музейныя экспанаты.

Час — быццам кола. Толькі “завядзеш” яго — усё закруціцца вакол цябе, хутка-хутка, бесперапынна. Трапляеш у парк і нібы апынаешся ў нейкай “варонцы часу”. Гэта нібы падарожжа ў XVIII — XIX стагоддзі. Адчуваеш сабе шляхетнай паненкай ці нават князёўнай.

Дарэчы, флігель пабудавалі ў 1895 годзе для абслугоўвання патрэб гаспадароў Лошыцкай сядзібы Прушынскіх — помніка архітэктуры другой паловы XVIII — XIX стагоддзя. Цяпер у ім праводзіцца рэканструкцыя. А раней тут была кухня, побач — камора, дзе захоўваліся прадуктовыя запасы, а таксама драўляныя бочкі, плеценыя торбы, каробкі для ручной паклажы, скрыні — адным словам, рэчы, патрэбныя для вядзення гаспадаркі. Можа, таму так арганічна ўпісаліся ў выставачныя памяшканні ўжо незвычайныя для нас прадметы? У экспазіцыі былі прадстаўлены вырабы з саломкі і дрэва, тканыя посцілкі, кераміка. Адсюль і назвы залаў: “Ткацтва”, “У склепе гаспадыні”, “У пакоі кухаркі”, “У ветлівай гаспадыні”. Адчуванне, быццам бы трапляеш у вёску да любай бабулі — усё такое мілае, дарагое…



*Брычка, якая вязе ў іншы гістарычны час.*

Вось ручнікі, вышытыя гладдзю ды крыжыкам, швейная машынка. Фрагмент з акна — як шлях у новае жыццё, надзея і вера ў будучыню. І хочацца дакрануцца да кожнай рэчы і аднавіць звязаныя з ёй падзеі.

Шмат старадаўніх інструментаў, якія былі на выстаўцы, прадставіў дызайнер Сяргей Шыла. “Я захоплены збіраннем прадметаў, якія сведчаць пра колішняе жыццё беларусаў, — распавёў ён. — Штосьці з прадстаўленага — для працы, штосьці — для баўлення часу”.



Мікола Маляўка

## Звяраем шлях па сонцы

Ішлі ў апошні бой яны,
Радзімы нашай абаронцы,
Каб мы, заложнікі вайны,
Звяралі шлях
зямны па сонцы.

Не дачакаліся жывых —
Палеглі на мяжы грымотнай,
Жывуць — у пісьмах
франтавых,
Жывуць — у памяці народнай.

Як воля Божая амаль,
Кагосьці і ў жыцці, бывае,
Знаходзіць ордэн ці медаль —
Узнагарода баявая.

І ціха радуе яна,
І жальбу ў радасць уплятае —
Грыміць у памяці вайна,
На фронт, у часць сваю, вяртае.

Уваскрасіць бы ўсіх — на міг,
Каб паглядзелі абаронцы,
Як сёння мы, нашчадкі іх,
Звяраем шлях зямны па сонцы.



Анатоль Шушко

## Прызнанне нашчадка

Ветэранам
Вялікай Айчыннай

Яно — святое — Свята Перамогі.
Яго птушыны грай прынёс на крылах
Вясны,
Каб векапомныя дарогі
Вярнулі свету МІР, які стварыла.
Яно — жывое — Перамогі Свята —
Ў душы,
Дзе зерню зораў прамяніцца,
Каб нават занядбанаму
і ў стратах
Дабру маглося з небам парадніцца.

Яно — Любоў і тыя, хто за ёю
Спакой гадуе між начэй бяссонных.
Уратаванае людской крывёю,
Яно салодкае ад слёз салёных.

Яно — ад Бога, Свята Перамогі.
Яго узнагарода звышзямная.
Ад ліха лекі ёсць, хоць і нямнога,
Ды больш гаючых, чымсь ЯНО, —
Не знаю.

## Бацькава песня

Ад жахлівых відовішч —
Дзякуй Богу! — пазбавіў.
Лёс гаротны удовін
Ў хаце часу не бавіў.

Хіба бацька ўспамінам,
Быццам сам вінаваты,
Ушчуваючы міну
За руку, што працята

Недарэчным асколкам,
Абуджаў уяўленні…
Медалі — на пяколку.
Я — на цёплых каленях…

А вайна, як жывая,
Свет вясёлкі ўзрывала,
Калі зноў франтавая
Песня звычна гучала,

Калі джагала жалам
Несвядомае дзіце,
Што употай маўчала.
А… пад ранак, глядзіце!



Валянціна Гіруць-Русакевіч

## Паклонімся ўдзячна ветэранам

Ідуць гады… на жаль,
вас, родныя, ўсё меней,
Каму падзякі словы хочацца сказаць
За шчасце ўсіх
пасляваенных пакаленняў —
У міры жыць, вучыцца, працаваць.

У дні, калі святкуем Перамогу,
Удзячнай памяццю усе мы знітаваны,
Вайна была ля кожнага парога —
Яе ахвярам аддадзім пашану.

І верыцца: не ўдасца часу замеці
Святую памяць гэту засняжыць —
Перадаецца эстафета вашай,
нашай памяці
Ад сёння тым, хто заўтра будзе жыць.

Няхай жа зззяе велічным агменем
Святло той памяці, не гаснучы ніколі,
Як напамін — ад пакалення пакаленню,
Каб жах вайны ніхто не зведаў болей.

* * *

Ужо багата год, як скончана вайна,
Але баляць яшчэ і ныюць раны…
Мне сёння ўсіх вас хочацца абняць,
Удзячна, па-дачнынаму абняць,
Як родных, дарагія ветэраны.

* * *

Маладзіком падаўся ветах зноў
На веснавой (не восеньскай!)
прасторы —
Пасля прытушана-забытых сноў
Так молада сягоння сэрца зорыць!

То нечакана тайна-сінь вачэй
Пяшчотаю пралесак адарыла,
Пачуццяў уваскрошаных ручэй
Бы ажывіў знядужаныя крылы.
І стала светла-лёгка на душы,
Праменьчык юны
праз гадоў туманы
Надзею дзён былых
вярнуць спяшыць…
І сэрцу верыць хочацца падману.

## Я хачу падарыць вам…

Я хачу падарыць вам
найлепшыя словы —
Ад нягодаў жыццёвых
што будуць замовай.
Я хачу падарыць
свайго сэрца удзячнасць —
Сцеражэ вас няхай ад ліхой няўдачы.
Я хачу падарыць вам сягоння
прызнанне —
Абярэгам ад зла, нагавораў
хай стане.
Вам цяпер я дару слова шчырае:
"Дзякуй!"
Хай бароніць заўжды
ад навалы ўсялякай.
Пачуццё вам дару
самай шчырае дружбы —
Хай мацуе яна і адвагу, і мужнасць
Падарыць вам хачу
у дзень гэты вясновы
Свае лепшыя ўсе
і пачуцці, і словы.

* * *

Мае галінкі зашумелі лісцямі
Гарэзліва-вясёла-трапяткімі…
Не верыцца ўжо нават,
што калісьці
Былі і мы зялёнымі такімі…

* * *

Багіня ясная Зары Світальнай
Была мне апякункаю лагоднай.
Калі ж так паспяшаліся растаяць
Пяшчотных юных
вёсен карагоды
І лета жнівеньскаю
ночкай знікла,
Апошняю,
у туманах халодных,
І гусі-лебедзі
растайна памахалі
Ды з крылаў скінулі
на косы белапер'е,
Усё часцей
мне хочацца паклікаць
Цябе, шаноўная багіня Ніка,
І ў перамогу верыць,
верыць, верыць!
А вечара
прытомленай часінай
Прывычна размаўляю
з Мнемасінай…



Фота Кастуся Дробава



Мікола Шабовіч

## Лес

Змяняюць убор краявіды,
За летам спяшае зіма,
А лес — нібы дом інвалідаў,
Толькі што шыльды няма.

А лес як шпіталь салдацкі,
Дзе мажна скрыпіць пратэз.
Для некага лес як дача,
А мне ты як памяць, лес.

А мне ты й цяпер гаворыш
Пра ночы і дні вайны,
Калі падымаліся ўгору
Ад елкі і да сасны.

Калі падстаўлялі грудзі,
Як вораг настырна лез.
А дрэвы — яны не людзі,
А дрэвы — звычайны лес.

А дрэвы — яны не плачуць,
Ім быццам бы не баліць.
І нам не адчуць, не ўбачыць,
Як з болю смала смыліць…

А мы іх — сякерай, пілою,
Як вылюдкаў — у агонь…
І коцяцца слёзы смалою
На цёплую печы далонь…

## Званы

**1**

Я падышоў да Цішыні
І запытаў яе:
— Скажыце,
А людзі дзе? Не сеюць жыта...
Яна сказала:
— У агні.

— Чаму ў агні, калі наўкол
Жыццё квітнее, каласіцца?
Пабудавалі столькі школ...
— У вёсцы некаму вучыцца.

— А дзеці? Як жа без дзяцей?
— Яны ў агні...
І сэрца стыне,
І памяць зноў мяне вядзе
Да пліт Хатыні.

**2**

Не пытайце, чаму
Сэрца ля пліт,
Бы на марозе,
Стыне.
Некалі людзі
Так добра жылі.
Зараз жа толькі званы ў Хатыні.

Звоняць і звоняць,
Бы іхні звон,
Звон несціханы разбудзіць
Аднавяскоўцаў,
Якія з акон
Сонцу ўсміхацца будуць.

Нібы разбудзіць: "Прыйшла пара!
Годзе ўжо спаць! Праспалі..."
Ды ні адзінага жыхара...
Пліты. З бярозак лісты апалі.

Толькі не вераць, не вераць званы,
Звоняць і звоняць, будзяць і будзяць.
Мерзнуць адны, без цяпла, каміны,
Прозвішчы толькі гавораць, не людзі...

Не пытайце, чаму
Сэрца ля пліт,
Бы на марозе,
Стыне...
Доўга гукаюць людзей з-пад зямлі
Званы Хатыні...

*Паралелі*

# Гандаль рамантыкай

**Як правільна вызначыць мэтавую аўдыторыю кнігі і прадаць гатовы прадукт? На якую групу пакупнікоў арыентавацца? Якую маркетынгавую стратэгію прасоўвання тавару лепш выбраць, калі гаворка ідзе пра такі незвычайны прадукт, як кнігі? На гэтыя і іншыя пытанні беларускіх выдаўцоў і кнігагандляроў адказваў Флорыян Эндрус, незалежны эксперт па маркетынгу з Германіі. Спадар Флорыян выступіў у якасці рэферэнта падчас семінара "Стратэгічны маркетынг на практыцы", які ладзіўся ў межах праекта Інстытута імя Гётэ па павышэнні кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы.**

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Аляксандра Назарчука

**— Гандаль кнігамі сёння ўспрымаецца як досыць рамантычны бізнес. На вашу думку, чаго ў ім усё ж больш — рамантыкі ці бізнесу?**

— Бізнесу. Таму што рынак змяняецца, часы змяняюцца, мы маем праблемы, актуальнымі становяцца пытанні алічбоўкі кніг. Да ўсяго гэтага дадаецца праблема зніжэння колькасці продажаў, дэмаграфічныя пытанні, якія паказваюць, што з кожным годам усё менш і менш дзяцей вучыцца ў школе. У выніку пра выданне дзіцячай літаратуры клапоціцца ўсё меншая і меншая колькасць людзей. Рамантыка таксама ёсць, але ў кнігах. І продаж рамантыкі — бізнес.

**— Ці існуюць маркетынгавыя стратэгіі, пра якія можна сказаць, што яны безумоўна працуюць у дачыненні да кніг?**

— Няма такой стратэгіі, у працы якой можна быць упэўненым на ўсе сто працэнтаў. Але некаторыя шляхі могуць быць дзейснымі — у выпадку, калі вы зробіце ўсё правільна. Маркетынг — справа, што складаецца з маленькіх крокаў, яе трэба рабіць вельмі дакладна і ведаць, што і як вы робіце. Вы павінны вырашыць, якім шляхам ісці, і рухацца вельмі павольна і паступова. У адваротным выпадку прайграеце і страціце кліента.

**— А наколькі скандал вакол кнігі ці аўтара можа ўпісваецца ў сістэму маркетынгу?**

— Гэта непрыгожа. Скандал працуе толькі тады, калі людзі распавядаюць адно аднаму пра яго. Ён можа разглядацца толькі як спосаб утрымання кліентаў, калі прадавец знаходзіцца на адным камунікатыўным узроўні з пакупніком. А пакупнік, у сваю чаргу, нераўнадушны да лёсу аўтара.

**— У выдавецкім і кнігагандлёвым бізнесе досыць жорсткая канкурэнцыя. Як з ёй змагацца, каб выглядаць больш прывабна ў параўнанні з іншымі ўдзельнікамі рынку?**



— Трэба самому добра ведаць тое, чым займаешся, і рабіць справу добра. А канкурэнтаў баяцца не варта, лепш у іх вучыцца. Вось, да прыкладу, на кніжным рынку Германіі сёння можна знайсці каля ста альбомаў, прысвечаных Нью-Ёрку. Гэта значыць, што да тэмы існуе вялікі інтарэс з боку спажыўца, таму вы таксама можаце выдаць 101-ю кнігу такога кшталту і на хвалі інтарэсу атрымаць прыбытак. Але якой павінна быць гэтая кніга? Скласці графік, які дапамог бы пралічыць патрэбную пазіцыю на рынку, пры такой прапанове прадукцыі немагчыма. Таму ў дадзеным выпадку лепш зрабіць усё па-свойму, знайсці арыгінальны падыход.

**— Як у такім выпадку спланаваць тыраж?**

— Планаванне тыражу — страшная тэма. Складана пралічыць усё, каб было і не многа, і не мала. Год 20 таму мы лічылі так — першы тыраж памножыць на тры. Але цяпер гэтая формула не працуе, бо на дзве трэці поспех кнігі ствараецца знакамітымі людзьмі, вядучымі на тэлебачанні. Але ў гэтым выпадку продажы, якія хутка ўзрастаюць, спыняюцца таксама ў адзін момант. Таму лепш друкаваць кнігі маленькімі порцыямі. Варта адзначыць, што ў Германіі тыраж выдання — камерцыйная тайна, кнігавыдаўцы нават маюць звычку ў рэкламах указваць завышаныя лічбы.

**— У Беларусі кнігагандлёвы бізнес вельмі кансерватыўны. Але вось тое, што мы пабачылі падчас семінара, даказвае, што ў Германіі ён смелы, ліберальны і вы не баіцеся новых спосабаў, шляхоў.**

— Канечне, не баімся. Новыя шляхі — нялёгкія, яны вельмі складаныя, але іх мы павінны спрабаваць. І гэта нават не пытанне, а тое, як усё павінна працаваць. У Германіі кнігагандаль таксама кансерватыўны, але не ў значэнні, што мы не хочам змен, але ў сэнсе: мы не хочам губляць сваю індывідуальнасць і прафесіяналізм, прафесійныя звычкі. Мы хочам прадаваць рамантыку ў кнігах, але ў новых умовах гэта цяжка рабіць старымі спосабамі. Таму мы павінны пераадольваць цяжкасці, але хочам захаваць рамантыку.

**— Што можаце параіць беларускім калегам?**

— Працаваць разам, не баяцца іншых выдавецтваў і кнігарняў, рабіць сваю справу з радасцю, тады ў вас будзе поспех. Калі вы робіце толькі тое, што павінны, — гэта не дапаможа ні вам, ні іншым. Трэба займацца справай з новымі ідэямі, з задавальненнем і радасным выразам твару.

**— Вы наведалі некаторыя беларускія кнігарні. Гэта крамы сеткі ААТ "Белкніга", а таксама магазін "Прэзентацыя". Якія ўражанні?**

— Гэта цудоўныя магазіны, у іх добра арганізаваны бізнес. Але, на маю думку, паміж прадаўцамі і пакупнікамі ў Беларусі мала камунікацыі. А яна павінна быць у цэнтры справы. Калі вы не камунікуеце падчас працы, вы не можаце прывабіць пакупніка і чытача. І тады яны не маюць адносна магазіна і вас як прадаўца ніякіх станоўчых пачуццяў, эмоцый, таму не імкнуцца зноў завітаць у краму, каб набыць кнігу.

**— Усіх сёння хвалюе пытанне перспектыў друкаванага рынку. Ці вытрымае традыцыйная кніга канкурэнцыю з электроннай?**

— На гэтае пытанне няма адказу. Тэма — значная і для выдаўцоў, і для гандляроў. Цяпер мы назіраем і развіццё такой з'явы, як самапублікацыя (self-publishing), адбываецца пераасэнсаванне значэння кожнага з удзельнікаў рынку — выдаўца і гандляра. Думаю, што традыцыйныя кнігі застануцца — па аналогіі з тым, што тэлебачанне і фільмы на DVD-дысках не выцеснілі кіно. Змен баяцца трэба, і гэта натуральна, але думаю, што і праз дзесяць год будзем размаўляць пра друкаваныя кнігі падчас новага семінара.

*Прэзентацыя*

# Пашырэнне даследчыцкай прасторы

Сяргей ШЫЧКО

Падзеяй, вартай шырокай увагі чытачоў і літаратуразнаўцаў, можна назваць выданне кнігі "Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы (1957 — 1972). Незавершанае. Нататкі" (Гродна — Вроцлаў, 2012).

"Васіль Быкаў, з'язджаючы напрыканцы 1970 г. з Гродна, гэтага, па яго вызначэнні, "утульнага і нейкага вельмі чалавечага гарадка над Нёманам", перавёз у Мінск і свой архіў, але што далёка не ўвесь, — пра тое ведалі адны толькі яго родныя, — піша ва ўступным слове "Паўстагоддзя маўчання, або Таямніцы Гарадзенскага архіва Васіля Быкава" укладальнік, аўтар каментарыяў Сяргей Шапран. — Што дакладна пакінуў у Гродне, Быкаў, мусіць, і сам з цягам часу забыўся, бо неадночы пасля выказваў шкадаванне пра страту некаторых рукапісаў, хоць яны — як высветлілася цяпер — ціхенька ляжалі сабе ў кватэры Быкавых па вуліцы Свярдлова — у той самай кватэры, у якую летам 1972 г. пераехаў Васіль Уладзіміравіч з сям'ёй і дзе цяпер жыве яго ўнук Яўген. Ляжалі, мусіць, да запатрабавання…"

Што ўвайшло ў толькі што выдадзены том? Аповесць "Атака", якая магла быць напісана ў 1961 — 1962 гг., ранняя рэдакцыя аповесці "Праклятая вышыня" (у перакладзе на рускую мову "Атака с ходу"). С. Шапран адзначае: "…па сутнасці, з "Праклятай вышынёй" "Атаку" аб'ядноўвае адна толькі літаратурная ідэя…" Апавяданне "Жалезны камандзір" датавана не пазней як 1962 г. Кінасцэнарый па аповесці "Сотнікаў" (напісаны самім Васілём Уладзіміравічам, які публічна ніколі не прыгадваў гэты факт). "Прыпавесці" — цыкл навел на рускай мове, на адным з экзэмпляраў: "Современные притчи"): "Громче всех", "Заячий хвостик", "Несчастный мальчишка", "Стежка", "Не хочу издали", "Два офицера", "Маленький росточек", "Каверза", "Вишенка". Аповесць "Последний солдат" (у перакладзе з беларускай М. Гарбачова), датаваная 1957 г. Першая аповесць В. Быкава (па-беларуску "Апошні баец") у скарачэнні друкавалася ў "Чырвонай змене" пад назвай "Апошні баец" у сакавіку-красавіку 1958 г. Аўтар пісаў у свой час у лісце Е. Лось: "Цяпер у "Чырвонцы" чытаю сваю аповесць і адчуваю вялікую няёмкасць перад таварышамі, мінскімі пісьменнікамі, трохі — перад чытачамі… добра скарацілі яе, павыкідалі ўсю філасофію, псіхалогію і нават лірыку, пакінулі адну толькі сюжэтную дынамічную баразну…" Далей — "Атакі не будзе". Пачатак незавершанай аповесці. Тэкст (дзе адсутнічаў адзін фрагмент) друкаваўся ў часопісе "Беларусь" у 1967 г. І яшчэ некалькі незавершаных прац, аўтабіяграфічны тэкст, нататкі.

Чытанне, безумоўна, звышзахапляльнае! Акрамя агульнага ўражання пра напісанае неўпрыкмет паддаешся эмацыйнаму ўспрыняццю, разважаеш пра атмасферу, у якой рабіліся запісы, у якой працаваў пісьменнік.

"…Кожнаму наканаваны свой шлях, — піша Сяргей Шапран. — І Быкаў таксама ішоў сваім шляхам, каб яго літаратурны стыль мог выкрышталізавацца, каб яго пісьменніцкая звышзадача стала зразумелай не толькі яму самому, але і відавочнай для нас, чытачоў. І вось у гэтых накідках — частка той тытанічнай працы, што звычайна не бачная нікому, акрамя самога пісьменніка, без аналізу якой наўрад ці можна ў поўнай меры ацаніць маштаб асобы Васіля Быкава".

Але толькі што выдадзены "гарадзенскі том" — далёка не ўсе абсягі знойдзенага архіва. Даследчыкам, усім чытачам Васіля Быкава застаецца толькі спадзявацца на працяг высакароднай і (як і заўсёды!) выключна грунтоўнай працы таленавітага гісторыка беларускай літаратуры Сяргея Шапрана па прадстаўленні творчай спадчыны аўтара "Сотнікава" і іншых неўмiручых ваенных аповесцей.

*У падтрымку чытання*



**Паэтка Яна ЯВІЧ:**

## Адметнае месца ў душы

— Чытаць я навучылася даволі рана — у чатыры гады. З дапамогай бабулі, ветэрана Вялікай Айчыннай, якая пасля вайны колькі гадоў працавала настаўніцай пачатковых класаў. І сёння час ад часу прыгадваю такі эпізод свайго дзяцінства.

1988 год. На той час яшчэ існавалі лозунгі кшталту "Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!" Едзем з мамай у паліклініку. А насупраць нас сядзіць пажылы мужчына. За акном бачу і чытаю ўслых словы на будынку. І раптам мужчына кажа: "Во замучылі дзіця — лозунгамі сыпле!" Тут я зусім не па-дзіцячы абурылася і пачала даводзіць, што чытаць умею, але той усё роўна не паверыў…

Пазней прыйшло захапленне казкай — як народнай, так і аўтарскай, асабліва творамі Андэрсена і Перо. У пяць гадоў ужо спрабавала чытаць беларускія вершы і казкі — цалкам самастойна, бо беларускай ні маці, ні бабуля не валодалі. Падчас вучобы ў малодшых класах, калі надыходзіў час выконваць хатнія заданні, цішком перачытвала "Денискины рассказы" Віктара Драгунскага, "Витя Малеев в школе и дома" Мікалая Носава. А самы любімы ў дзяцінстве твор — "Новосёлы — народ весёлый, или Правдивая, иногда весёлая, а иногда страшноватая книга о необыкновенном месяце в жизни Жени Мурашки" Паўла Міська. Разам з юнымі героямі смяялася, іншы раз сумавала, а часам перажывала за іх. Гэтыя выданні і сёння займаюць адметнае месца не толькі на паліцах шафы, але і ў маёй душы.

Як чытач аддаю перавагу сур'ёзнай літаратуры. З задавальненнем чытаю творы замежных пісьменнікаў XX стагоддзя. У ліку любімых аўтараў — Марсель Пруст, Франц Кафка, Рамэн Ралан. З беларускіх — Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі, Юзаф Ігнацы Крашэўскі. З рускай літаратуры — Анатоль Рыбакоў, Валянцін Распуцін, Веніямін Каверын.

*Фота Кастуся Дробава*

# Ад імя пакалення

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Аб'ектыўнае асэнсаванне падзей пэўнага прамежку часу патрабуе адлегласці ў гэтым самым часе. Юрыю Гарбачову ўдалося не толькі засведчыць тое, што адбывалася з намі на працягу апошніх дваццаці пяці гадоў, але і стварыць галерэю запамінальных вобразаў пакалення 1960-х, з іх надзеямі, памкненнямі, спробамі ўпісацца ў новыя рэаліі жыцця. Прычым выступае ён у ролі не старонняга назіральніка, летапісца, сведкі, а актыўнага ўдзельніка выпрабаванняў, што выпалі гэтаму пакаленню.**

**— Напачатку патлумач, нашто табе было так ускладняць жыццё: паэтычныя творы выдаеш як Юрась Нераток, прозу — як Юрый Юлаў, зарплату галоўнага канструктара атрымліваеш як Юрый Гарбачоў, гэтак жа праходзіш і ў спісе Саюза пісьменнікаў Беларусі…**

— Любы чалавек нават на працягу дня выступае ў розных ролях, якія яму дыктуе сітуацыя: то ён сем'янін, то пасажыр, то пакупнік, то работнік. Са сваім псіхалагізмам, статусам, лексікай. І гэта не ўскладняе жыццё, а робіць яго разнастайным, хоць і мітуслівым. У дачыненні да псеўдонімаў: пагадзіся, што рускі і беларускі менталітэт адрозніваюцца. А канструктарская работа — хоць і творчая, аднак па аналогіі з творчасцю бліжэй да эпігонства, калі ў сціслыя тэрміны выдаецца істотная колькасць фарматнай прадукцыі. Канструктараў, якія замест таго каб шукаць рашэнне, дэманструюць "творчыя пакуты", гнаць трэба. А эпігонаў, якія лепяць творы, бы піражкі, — выкрываць і прыпыняць: няхай літмантажы і віншаванні рыхтуюць. Два псеўдонімы ў літаратуры — ад бацькоў, якія выкладалі рускую і беларускую мовы і літаратуры: беларуская літаратурная мова — матчына, а руская — бацькава. Паколькі ў Нератка апошняя публікацыя ў "Полымі" была больш як чатыры гады таму, у "Нёмане" і "Маладосці" — больш як шэсць, давялося рэалізавацца як Юлаву. Праўда, родны "ЛіМ" мяне ніколі не забывае. У даведніку Саюза — звычайная дробная недакладнасць. Мы — людзі публічныя, шмат дзе без поўнай нашай волі пазначаныя.

**— З якой колькасці кніг будзе складацца "Мужская интеллектуальная фантазия", на вокладцы якой ты Юрый Юлаў?**

— З чатырох. Першая — "Мутант", другая — "Фермер", трэцяя кніга — "Терапия". Беларускі варыянт гэтай аповесці, напісанай у 2008 годзе, плануе надрукаваць у хуткім часе часопіс "Маладосць". Чацвёртая — "По дороге на пикник".

Атрымліваецца блок, які адкрываецца аўтарскім уступам у першай кніжцы і завяршаецца "Бонусамі" ў чацвёртай. Адпаведна заднікі вокладак пазначаны чатырма базавымі колерамі (афармленне прадумваў сам). У кнігах ёсць малюнкі Аляксандра Ліхачова, члена Саюза архітэктараў Беларусі, з якім мы знаёмыя больш як дваццаць гадоў. Частка малюнкаў зроблена менавіта тады — на перспектыву. І я б не назваў яго графіку ілюстрацыямі, бо яны дапаўняюць празаічныя фантазіі, даюць магчымасць паглядзець на іх з іншага ракурсу. Два позіркі пад рознымі вугламі робяць любы аб'ект аб'ёмным.

**— Раскажы, чаму "фантазія", калі даволі дакладна перададзены прыкметы часу — ад пачатку перабудовы і да нашых дзён, а галоўнае, зроблены амаль дакументальны здымак таго, што адбылося з нашымі душамі за гэты перыяд.**

— Фантазія — найперш таму, што нічога з дэтальных сюжэтаў у канкрэтным жыцці не адбывалася, хаця і магло (ці можа) адбыцца. А можа, і адбывалася… Па-другое, факталагічная аснова зазвычай размытая — нават паперы з пячаткамі не могуць быць напоўніцу праўдзівымі, бо іх ствараюць людзі па загадзе начальнікаў. Па-трэцяе, маштабы з'яў і падзей зазвычай не пазначаю, а без гэтага немагчыма ўявіць карціну ў цэлым. І галоўнае, часам наўмысна ўстаўляю дробныя недакладнасці, якія выдатна ўпісваюцца ў канцэпцыю. Фокуснік таксама папярэджвае, што дэманструе фокус. Што датычыць агульнажыццёвых знакавых падзей — гэта выдатны пазнавальны фон, які выклікае давер і да астатняга тэксту. У літаратуры лепш называць праўду фантазіяй, чым гістарычную версію — дакументам.

**— Ты шчодра адораны — не толькі літаратар, але і бард. Раскажы пра першыя творчыя крокі.**

— Адоранасць, напэўна, не тое слова. Нармальная творчасць пачынаецца, калі чалавек бачыць, што ў пэўным жанры адсутнічае нейкая камбінацыя, якую ён здольны выканаць адмыслова. Песні пад гітарнае суправаджэнне — даніна маёй музычнай адукацыі, бо ўнутраныя мелодыі і рытміка нярэдка закладзены ў вершах. Вытокі творчасці, як і ўсяго, што рэалізуецца ў жыцці, — з дзяцінства.

Бацька ў школе кіраваў літаратурна-творчым аб'яднаннем "Факел", таму ў агульных падборках нешта з'яўлялася ў раёнцы і тады. Хоць, зразумела, пры змене шкалы жыццёвых каштоўнасцей адлік заўжды пачынаецца наноў.

**— Ці ўсе празаічныя творы ў цябе ў двух варыянтах — на рускай і беларускай мове?**

— На рускай мове прозы больш — фармат айчыннай літаратуры вытрымлівае далёка не ўсе тэмы. Рэальна айчынная літаратура захрасла на фармаце 1960 — 80-х. Прыклад сюжэтаў: у дваццаць першым стагоддзі вакол Нацыянальнай бібліятэкі Янкі і Габрусі за Марысямі і Ганулямі бегаюць і галёкаюць. Або: бацька прыехаў да сыноў у сталіцу праз сучасны вакзал, у якім заблытаўся, пабачыў футбольны манеж, падзівіўся і ўспомніў, што яго ў вёсцы чакае спагадлівая суседка Захараўна.




Або: сустрэча з каханай дваццацігадовай даўніны, з якой нечаму некалі навучыліся на курсах павышэння кваліфікацыі. Хацінка-матулька-цялятка — быццам на новы лад.

Выключэнні ёсць (Янка Сіпакоў, Валерый Гапееў, Людміла Рублеўская, Віктар Праўдзін, Міхась Южык, Алена Брава, Андрэй Федарэнка, Юры Станкевіч, Франц Сіўко), але яны толькі пацвярджаюць правілы. Тым не менш як у вышэйзгаданых творцаў, так і ў мяне, усё напісанае належыць да роднай зямлі — без прывязанага афіцыёзу, пустаслоўных заклікаў і ханжаскіх клятваў. З'явіліся быццам некалькі новых маладых творцаў, ды неяк зніклі — пайшлі шукаць лепшай долі: ці ў іншых жанрах, ці ў іншых краінах. Злякаліся роднай літаратуры…

**— "Пророка нет в Отечестве своём" — лягчэй было дайсці да расійскага і далей чытача праз інтэрнэт, чым надрукавацца дома?**

— У інтэрнэце — проста і амаль аб'ектыўна: тваёй асобы, пасады няма; асабістыя даныя на старонцы, якую, калі не зацікавіўся творам, ніхто не глядзіць. І журы, на якое ты не можаш уплываць. Часта конкурсы ўвогуле ананімныя, каб не ціснула раскручанае на сайце прозвішча. Аднак калі калектыўны зборнік укладаецца ў Разані, выдаецца ў Маскве, а табе перадаюць яго ў Мінску, адчуваеш, што "кіс-кіс працуе". З айчыннай літаратурай склалася сітуацыя, якую пасля будзем доўга разбіраць. Хутчэй за ўсё, у гэтага перыяду з'явіцца і адпаведная назва. І ўвогуле, нягледзячы на вольніцу, можна быць упэўненым, што выдатны (не проста добры) твор на віртуальнай прасторы ацэняць, а слабы — спляжаць. Часам з'яўляюцца неўтаймоўныя крытыкі, якія спрабуюць засвяціцца на скандалах, аднак іх даволі хутка ставяць на месца. А колькасць людзей, здольных тварыць (у тым ліку — "для сябе"), усё ж абмежаваная.

**— Увогуле, нягледзячы на вядомасць у сеціве, ты ўсё ж вырашыў выдаць звычайную кнігу. На што разлічваеш і спадзяешся?**

— Разлічваю на горшае, спадзяюся на лепшае. Вядомасць у сеціве — рэч адносная. Знікнеш — ніхто асабліва не заўважыць, толькі спасылкі некаторы час будуць нагадваць, што недзе нешта было. "Цвёрды" варыянт кнігі — рэалізацыя матэрыялістычнага светапогляду: і чытаць можна ў любы час у любым месцы, і на паліцу паставіць, і вогнішча развесці, і самалёцік змайстраваць.

**— Цяпер лёгка выдаць кнігу — былі б грошы. Як ставішся да гэтай з'явы?**

— Да добрых кніг — добра, да слабых — нармальна, бо ў кожнага свая вышыня палёту. Адэкватны чалавек супаставіць узровень кнігі з яе тыражом і спосабам распаўсюджвання. Лепшы паэт у пад'ездзе, працоўным калектыве, сям'і — таксама званне. І кожны мае права распараджацца ўласнымі грашыма як пажадае: больш каўбасы з'есці, да туркаў з'ездзіць або кнігу выдаць. Прыязна стаўлюся да мемуарных кніг, выдадзеных звычайнымі людзьмі, хоць там часта прысутнічае недахоп, уласцівы нявопытным літаратарам, — атаясамленне размоўнай і пісьмовай мовы. Затое шмат цікавага факталагічнага матэрыялу і ў наяўнасці — шчырасць перад чытачом і перад Богам. Горш стаўлюся да слабых кніг, якія выдаюцца за дзяржаўны або агульнапісьменніцкі кошт і прад'яўляюцца грамадскасці як лепшыя ўзоры нацыянальнай літаратуры.

Упэўнены: праца пісьменніка павінна аплачвацца дастойна, так, каб сям'я не несла выдаткі на яго хваробу — цягу да творчасці. Немагчыма паставіць крытэрыі сапраўднай творчасці, таму і слова "ганарар" замест "аплата". А ўвогуле, творца павінен быць галодным, каб не страціць адчуванне болю людзей і недасканаласці свету. А прафесіянал — сытым, каб не думаць пра грошы, а толькі — пра справу. Вось такая блытаная канцэпцыя.

**— Апошнім часам ты выступаеш у ролі рэдактара. Што катэгарычна не прымаеш і да чаго ставішся паблажліва ў рэдагаваных тэкстах?**

— Тут крытэрыі вызначаны: статус зборніка, агульны ўзровень аўтара (аўтараў) абумоўліваюць рэдактарскую планку і прынцыпы ўніфікацыі. Заўсёды лепш стаўлюся да твораў на беларускай мове, бо часта творцам даводзіцца ёй авалодваць самастойна ў завужанай моўнай прасторы. Звычайна тэксты папярэдне падрыхтаваны аўтарам або больш-менш вопытным укладальнікам, таму пра катэгарычнае непрыняцце размовы не ідзе. А калі пару опусаў, якія яўна не ўпісваюцца, і вылецяць з кніжкі, — то заўсёды можна патлумачыць так, каб у аўтара замест крыўды з'явілася згода і жаданне працаваць. Рэдактар падпісваецца пад агульнай фарматнасцю кнігі, а не пад талентам. І яго задача — не перарабіць творы на свой капыл, а палепшыць іх у межах аўтарскага ўзроўню. Або проста распісацца за чалавека, які для цябе з'яўляецца самадастатковым творцам.

**Візітка:**

*Юрый Гарбачоў нарадзіўся ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Дзяцінства правёў у вёсцы Хадакі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (сёння — БНТУ). Жыве ў Мінску, працуе галоўным канструктарам ТАА "Градис". Член Саюза расійскіх пісьменнікаў з 2002 года, Саюза пісьменнікаў Беларусі з 2008 года, Міжнароднага саюза пісьменнікаў "Новый современник" з 2011-га. Аўтар кніг "Пьяный материк", "Экспедитор", "Закуцце", зборнікаў вершаў "Монодия", "Сон-дежавю", "Фотаальбом", "Споведзь струны", зборніка баек "Абстрактно о конкретном". Нядаўна гэты спіс дапоўніўся серыяй з чатырох кніг "Мужская интеллектуальная фантазия" (выдавецтва А. М. Вараксіна).*

---

З нагоды

# Реальные истории

Елена МИХАЛЕНКО, фото автора



**В минском Дворце искусств состоялась встреча с известной российской писательницей и журналисткой Натальей Сухининой.**

Первой книгой Н. Сухининой, что попала мне в руки, была документальная повесть "Прощание славянки". На обложке — георгиевская ленточка, из аннотации следовало, что книга о войне. Может ли быть в этой теме что-то новое, что заденет за живое? Повесть "зацепила" почти с первых страниц. Это рассказ о судьбе человека, пережившего войну ребенком. Потеря родителей, холод и голод, страх смерти и надежда на чудо… То, что пришлось пережить детям, кажется немыслимым. Они выжили, и не просто выжили, но стали настоящими людьми. В истории нет вымысла — лишь литературно обработанные факты.

Стала искать другие произведения этого автора. "Какого цвета боль?" — тоже реальные истории, собранные в женской колонии. Наталья увидела там вовсе не закоренелых преступниц, а самых обычных женщин, что сделали неверный шаг, порой не осознавая этого. И сломали себе жизнь на долгие годы. Затем были другие книги, суть которых — нравственный выбор, поиск своего места и предназначения в жизни. Где писатель берёт такие невероятные сюжеты, таких необычных героев? Какова доля вымысла в этих историях и какова судьба самого автора? В поисках ответа на эти вопросы и отправилась на встречу.

Успешная московская журналистка, спецкор "Социалистической индустрии" однажды задумалась: чем же таким невероятным можно удивить читателя? Был 1990 год, в обществе возрос интерес к религии. Руководство поддержало её идею повторить путь древних русских паломников и отправиться… пешком в Иерусалим. Из ворот Троице-Сергиевой лавры вышла уверенная в себе дама с корочкой "Пресса ЦК КПСС" и благословением Патриарха Алексия. Перед ней открывались все двери. Путешествие длилось три месяца. Пешком, на попутках, на корабле… Сотни удивительных встреч. Постепенно журналистский апломб угас. Вернувшись в Москву, Наталья оставила газету, начала писать для православных журналов, а затем попробовала силы и в литературе. А путешествие в Иерусалим описала в повести "Дорога, ставшая судьбой".

По словам Н. Сухининой, в её книгах почти нет вымысла. Описывая реальные истории и судьбы, она иногда меняет имена действующих лиц, некоторые обстоятельства. Со многими поддерживает отношения, принимает участие в их судьбе. Директор интерната из Хабаровска Александр Петрынин, один из героев книги "Где живут счастливые?", даже приезжал к ней в гости вместе со своими воспитанниками.

Представила Наталья Сухинина в Минске и новые книги: сборник рассказов "Времена года" — о людях в разные периоды жизни: от юности до седой "зимы", только вышедшую в свет повесть "Полёт одуванчиков" — житейскую историю о любовном треугольнике, герои которой пытаются жить правильно, соблюдая нравственные законы. А тут вдруг… любовь. Её не искали, как приключения, но она возникла, разрушая привычный уклад. Смогут ли они выйти из этой истории достойно?

Современная школа: ЮниверсПресс, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-958-539-311-6 (Современная школа).

**Дементей, Н. В.** Готов ли ваш ребенок к школе?: сборник тестов-упражнений для совместной работы детей и родителей (к комплексной образовательной программе школы-студии раннего развития «Малышок») / Н. В. Дементей; УО «Минский государственный дворец детей и молодежи». — Минск: МГДДиМ, 2011. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7000-11-1.

**Домашние уроки творчества**: цвета и формы, обводим и раскрашиваем / [составитель: Захарова Ольга; художник Е. Таборко]. — Минск: Современная школа: ЮниверсПресс, 2011. — [16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-539-314-7 (Современная школа).

**Дубініна, Д. М.** Свет вакол мяне: развіццёвае навучанне: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / Д. М. Дубініна. — 6-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 64 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 97000 экз. — ISBN 978-985-465-941-1.

**Жытко, І. У.** Матэматычны калейдаскоп: рабочы сшытак: развіццёвае навучанне: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / І. У. Жытко. — 6-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 64 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 97000 экз. — ISBN 978-985-465-951-0.

**Жытко, І. У.** Матэматычны калейдаскоп: развіццёвае навучанне: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / І. У. Жытко. — 6-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 63 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 97000 экз. — ISBN 978-985-465-950-3.

**Исаеня, Е. П.** Игровая деятельность как способ реализации физкультурно-оздоровительной работы в условиях системы взаимодействия специалистов дошкольного учреждения: (из опыта работы) / Е. П. Исаеня, Л. И. Апанасевич; Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования». — Минск: МОИРО, 2011. — 77 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6907-88-6.

**Кобринский, М. Е.** Первые шаги в олимпийском образовании: методические рекомендации / М. Е. Кобринский, Т. Ю. Логвина, О. В. Воронцова; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Национальный олимпийский комитет Республики Беларусь, Белорусский государственный университет физической культуры, Общественное объединение «Белорусская олимпийская академия». — Минск: БГУФК, 2011. — 51 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-7023-07-3.

**Лира, Т. А.** Заучивание стихотворений с использованием моделей / Т. А. Лира; [художник И. А. Юматова]. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 60 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-465-8.

**Литвинчик, Т. А.** Звуки, буквы и слова делятся секретами: подготовка дошкольников к овладению грамотой / Т. А. Литвинчик. — 3-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 149 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-408-5.

**Литературные праздники в дошкольном учреждении**: сборник методических материалов для студентов педагогических специальностей учреждения высшего образования: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Барановичский государственный университет; [составители: Л. Ф. Бабенко, Л. В. Прокофьева]. — Барановичи: БарГУ, 2011. — 286 экз. — ISBN 978-985-498-457-5.

Ч. 1. — 133 с. — ISBN 978-985-498-458-2.

Ч. 2. — 95 с. — ISBN 978-985-498-459-9.

**Макклюр, Р.** Мамина книга. 500 способов занять ребенка от 1 до 3 лет: [креативные игры для малышей: простые советы родителям от лучших специалистов] / Робин Макклюр; [перевела с английского Н. В. Жулаева]. — Минск: Попурри, 2011. — 185 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-15-0973-3.

**Мамины уроки**: [для чтения взрослыми детям / составитель Захарова Ольга Владиславовна; художники: И. Лазарь и др.; стихи: О. Захарова]. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2012. — 127 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-606-3 (в пер.).

**Мороз, О. И.** Планируем работу в группах раннего возраста / О. И. Мороз. — 2-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 207 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-471-9.

**Мы читаем по слогам**: письмо и чтение, новые слова, стихи и загадки / [составитель: Захарова Ольга; художники: А. Шальманова, И. Лазарь; стихи: О. Захарова]. — Минск: Современная школа: ЮниверсПресс, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-539-313-0 (Современная школа).

**Первые уроки логики**: учимся рассуждать, строим логические цепочки / [составитель: Захарова Ольга; художник И. Лазарь]. — Минск: Современная школа: ЮниверсПресс, 2011. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-539-316-1 (Современная школа).

**Пилат, И. И.** Учим буквы играя / И. И. Пилат, В. А. Кныш. — Мозырь: Белый Ветер, 2011. — 32 с. — 3013 экз. — ISBN 978-985-538-585-2.

**Пралыгіна, Н. В.** Беларускамоўны дзень: планаванне і арганізацыя адукацыйнай работы ў групах «Чамучкі» / Н. В. Пралыгіна; пад рэдакцыяй Н. А. Васіленка. — 2-е выд. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 142 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-452-8.

**Теория и методика руководства изобразительной деятельностью детей дошкольного возраста**: учебно-методический комплекс: для студентов, обучающихся по специальностям 1-010101 «Дошкольное образование», 1-010107 «Дошкольное образование. Социальная педагогика» / Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова; автор-составитель Н. Ю. Ясева. — Могилев: МгГУ, 2011. — 86 с. — 62 экз. — ISBN 978-985-480-753-9.

**Увлекательные прописи для малышей**: [развивающее пособие для дошкольников] / составитель Бельская Инна Леонидовна. — Минск: ЮниПрессМаркет, 2011. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-532-758-6 (ошибоч.).

**Физкультурные и музыкальные мероприятия по ознакомлению с правилами пожарной безопасности**: сценарии праздников, досугов: практическое пособие для руководителей физического и музыкального воспитания и воспитателей дошкольных учреждений / [составители: А. Н. Ткачева, И. Ю. Науменко, И. М. Захарова]. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 48 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-538-578-4.

**Хадановіч, Л. С.** Падарожжа ў свет музыкі: развіццёвае навучанне: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / Л. С. Хадановіч. — 6-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 63 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 96710 экз. — ISBN 978-985-465-954-1.

**Хадановіч, Л. С.** Падарожжа ў свет музыкі: развіццёвае навучанне: рабочы сшытак: вучэбны дапаможнік для выхаванцаў старшай ступені (ад пяці да шасці гадоў) устаноў, якія забяспечваюць атрыманне дашкольнай адукацыі, з беларускай і рускай мовамі навучання / Л. С. Хадановіч. — 6-е выд. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 63 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і рускай мовах. — 97000 экз. — ISBN 978-985-465-955-8.

### Пачатковая школа. Сярэдняя школа

**Аксючиц, С. А.** Проектные задачи в образовательном процессе начальной школы: учебно-методическое пособие для учителей начальных классов (3–4-е классы) / С. А. Аксючиц; Министерство образования Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Академия последипломного образования». — Минск: АПО, 2011. — 64 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-495-293-2.

**Бейлин, В. Р.** Прикладные и развивающие упражнения на гимнастических снарядах: пособие для студентов факультета физического воспитания / В. Р. Бейлин, В. А. Ярмолюк, Л. С. Титова; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2011. — 139 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-473-796-6.

**Белазаровіч, В. А.** Гісторыя Беларусі ў 8 класе: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / В. А. Белазаровіч. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2011. — 167 с. — 3065 экз. — ISBN 978-985-471-473-8.

**Беларуская мова ў 10 класе**: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / [Г. М. Валочка і інш.]. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 191 с. — 3300 экз. — ISBN 978-985-465-960-2.

**Валаханович, Т. В.** Дидактические материалы по геометрии: 7-й класс: пособие для учителей общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Т. В. Валаханович, В. В. Шлыков. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 119 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-179-8.

**Василевская, Е. С.** Физкультурно-оздоровительная работа в режиме учебного дня начальной школы : пособие для учителей начальных классов / Е. С. Василевская. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 54 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-538-592-0.

**Веселая азбука**: развивающие раскраски: пишем буквы, читаем стихи, развиваем моторику кисти рук: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Г. Дейчик, Д. Черемных]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-269-0.

**Веселый счет**: развивающие раскраски: пишем цифры, решаем примеры, развиваем математическую логику: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; стихи: О. Волков; художники: А. Песин, О. Захарова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-275-1.

**Времена года**: развивающие раскраски: учим времена года, читаем стихи, раскрашиваем рисунки: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; стихи: О. Захарова; художники: Г. Дейчик, Д. Черемных]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-274-4.

**Говорим правильно**: речевая гимнастика, буквы и звуки: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Е. Самойлова, А. Песин и др.]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-901-1.

**Гужаловский, А. А.** Физическая культура в пятом классе: учебное пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальностям физической культуры и спорта / А. А. Гужаловский, А. В. ; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011. — 113 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-480-744-7.

**Гузов, В. В.** Уроки технического труда в 5 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / В. В. Гузов. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 119 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-465-959-6.

**Животные планеты**: веселое путешествие по странам и континентам: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: А. Песин, Е. Самойлова, Д. Черемных]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-902-8.

**Зборнік матэрыялаў для выпускнога экзамену па вучэбным прадмеце «Беларуская мова» за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі**: тэксты для пераказаў / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь; [складальнікі: Г. М. Валочка і інш.]. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі: Аверсэв, 2012. — 475 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-465-971-8 (Нацыянальны інстытут адукацыі). — ISBN 978-985-533-159-0 (Аверсэв).

**Исследовательское обучение школьников в образовательном процессе по химии**: (из опыта работы учителей химии) / Государственное учреждение образования «Минский областной институт развития образования»; [составитель: Литвинова С. А.]. — Минск: МОИРО, 2011. — 52 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-6907-94-7.

**Коренькова, А. С.** Черчение в 9 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / А. С. Коренькова, И. Е. Августинович. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 126 с. — 3200 экз. — ISBN 978-985-465-958-9.

**Кошелев, В. С.** История Древнего мира: 5-й класс: [поурочные разработки: к учебнику «История Древнего мира» для 5-го класса (под редакцией В. С. Кошелева)]: пособие для учителей учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / В. С. Кошелев, Н. В. Байдакова. — Минск: Аверсэв, 2012. — 304 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-786-5.

**Луцевич, Л. В.** Активизирующие методики и технологии в полипрофориентационной работе со старшеклассниками: учебно-методическое пособие / Л. В. Луцевич, В. В. Лях, О. А. Тарасюк; Министерство образования Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Академия последипломного образования». — Минск: АПО, 2011. — 202 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-495-294-9.

**Математика**: 5-й [класс]: самостоятельные и контрольные работы: пособие для учителей общеобразовательных учреждений с русским языком обучения: [в 2 кн.]: в 4 вариантах / [Е. П. Кузнецова и др.]. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012.

Кн. 1: 1, 2 варианты. — 175 с.. — 3100 экз. — ISBN 978-985-533-160-6.

Кн. 2: 3, 4 варианты. — 173 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-533-161-3.

**Михед, Е. Н.** Думай, считай, решай: 1-й класс: материал для формирования вычислительных навыков и навыков решения простых задач / Е. Н. Михед. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 71 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-451-1.

**Наш друг светофор**: развивающие раскраски: знакомимся со знаками, читаем стихи, учим правила дорожного движения: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художник А. Марченко]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-271-3.

**Необычные способы рисования для больших и маленьких фантазеров** / [автор-составитель М. В. Кудейко]. — 5-е изд. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2011. — 49 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-520-459-7.

**Нестандартные уроки по математике**: 8–11-е классы: пособие для учителей общеобразовательных учреждений / [Т. А. Богдашич и др.]. — 3-е изд. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 105 с. — Часть текста на белорусском языке. — 1513 экз. — ISBN 978-985-538-589-0.

**«Нет!» – вредным привычкам**: Алкоголизм и жизнь – несовместимы! Против наркомании – всем миром. С курильщиком – не по пути / [редактор-составитель Л. И. Жук]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 121 с. — 6500 экз. — ISBN 978-985-405-652-4.

**Нравственно-этическое воспитание учащихся: старые проблемы и новые возможности** / [автор-составитель А. Е. Чистая]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 92 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-405-653-1.

**Основы безопасности жизнедеятельности в 9 классе**: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Н. Н. Яковлева и др.]; под редакцией Н. Н. Яковлевой. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 183 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-465-928-2.

**Пенчанский, С. Б.** Обучение детей рассуждениям с помощью схем при решении задач: учебно-методические материалы / С. Б. Пенчанский; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011. — 39 с. — 55 экз.

**Первые слова**: развивающие раскраски: пишем слова, знакомимся с цветом, развиваем творческие способности: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; стихи: О. Захарова; художники: Д. Черемных, О. Захарова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-268-3.

**Первые уроки творчества**: развивающие раскраски: учимся рисовать, знакомимся с формами, развиваем творческие способности: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: О. Захарова, Е. Самойлова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-273-7.

**Планаванне і работа з адоранымі дзецьмі па беларускай мове**: 2–4-я класы / [І. Б. Латаш і інш.]; пад рэдакцыяй А. М. Лапкоўскай. — 2-е выд. — Мазыр: Образовательная компания «Содействие», 2012. — 148 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-520-461-0.

**Правильные звуки**: развивающие раскраски: учим скороговорки, отрабатываем произношение: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Д. Черемных, А. Песин]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-270-6.

**Развиваем логику**: наблюдаем, сравниваем, рассуждаем: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Е. Самойлова, А. Песин и др.]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-903-5.

**Развиваем память**: учимся запоминать, развиваем внимание: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: А. Песин, Е. Самойлова]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-906-6.

**Рогановская, Е. Н.** Средовоориентированный подход к дидактическому проектированию и применению информационно-образовательных ресурсов в процессе геометрической подготовки учащихся : монография / Е. Н. Рогановская; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2011. — 314 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-480-733-1.

**Русский язык в 6 классе**: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего и среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Л. А. Мурина и др.]. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 142 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-465-961-9.

**Русский язык в 7 классе**: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / [Л. А. Мурина и др.]. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 150 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-465-962-6.

**Современное образование: преемственность и непрерывность образовательной системы «школа – вуз»**: материалы VIII Международной научно-методической конференции (Гомель, 12–13 мая 2011 г.): в 2 ч. / [редколлегия: И. В. Семченко (главный редактор) и др.]. — Гомель: ГГУ, 2011. — 10 экз. — ISBN 978-985-439-538-8.

Ч. 1. — 279 с.. — Часть текста на английском и белорусском языках. — ISBN 978-985-439-539-5.

Ч. 2. — 269 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-439-593-7.

**Тихонова, В. И.** Организация и методика проведения занятий по физической культуре в специальных медицинских группах: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-03 02 01 «Физическая культура» / В. И. Тихонова; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2011. — 131 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-501-955-9.

**Тренируем пальчики**: развивающие раскраски: рисуем и обводим, учимся штриховать, пальчиковый театр: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Г. Дейчик, Д. Черемных]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-539-272-0.

**Учимся рисовать**: занимательные уроки творчества, цвета и формы: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Е. Самойлова, А. Песин и др.]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-904-2.

**Учимся считать**: повторяем цифры, считаем и сравниваем: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Д. Черемных, А. Песин]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-900-4.

**Учимся читать**: повторяем буквы, читаем первые слова: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Д. Черемных, А. Песин]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-899-1.

**Царева, О. И.** Русская литература в 9 классе: учебно-методическое пособие для учителей учреждений общего среднего образования с белорусским и русским языками обучения / О. И. Царева, Н. П. Капшай, В. А. Капцев. — Минск: Национальный институт образования, 2011. — 198 с. — Часть текста на белорусском языке. — 3500 экз. — ISBN 978-985-465-932-9.

**Цемушаў, С. М.** Гісторыя Беларусі ў 6 класе: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / С. М. Цемушаў. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2011. — 143 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-471-474-5.

**Что в портфеле?**: завтра идем в школу!: [для младшего школьного возраста / составитель: Захарова Ольга; художники: Е. Самойлова, Д. Черемных и др.]. — Минск: Современная школа, 2011. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-513-905-9.

**Шестой школьный день** / [авторы-составители: А. Р. Борисевич, В. Н. Пунчик, П. О. Вербицкая]. — Минск: Красико-Принт, 2012. — 124 с. — 1300 экз. — ISBN 978-985-405-654-8.

**Штыхов, Г. В.** История Беларуси с древнейших времен до середины XIII в.: 6-й класс: поурочные разработки: [к учебнику «История Беларуси с древнейших времен до середины XIII в.» для 6-го класса (под редакцией Г. В. Штыхова, Ю. Н. Бохана)] / Г. В. Штыхов, В. В. Ракуть, С. В. Панов. — 2-е изд. — Минск: Аверсэв, 2012. — 159 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-533-157-6.

**Язерская, С. А.** Беларуская мова ў 8 класе: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / С. А. Язерская. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 182 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-465-956-5.




## «Цэнтральная кнігарня», г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Высшие учебные заведения Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2012.
2. Централизованное тестирование: русский язык, математика. — Минск: Аверсэв, 2011.
3. Уладзімір Арлоў. Таямніцы Полацкай гісторыі. —Мінск: Попурри, 2008.
4. Вадим Деружинский. Забытая Беларусь. — Минск: Харвест, 2011.
5. Наталья Батракова. Миг бесконечности. — Минск: Регистр, 2012.

*Многие читатели дилогии узнают минские улицы, на которых разворачивается действие романа, и найдут массу общих проблем у своих близких и героев романа. Журналистка Катя и врач Вадим незаметно для себя оказываются в пространстве Любви… Надолго ли дано им продлить миг бесконечности?*

6. Золотая книга сказок. — Минск: Харвест, 2011.
7. Янка Крук. Сімволіка беларускай народнай культуры. — Мінск: Беларусь, 2011.
8. Барыс Лазука. Гісторыя сусветнага мастацтва. — Мінск: Беларусь, 2011.
9. Крынічка. Хрэстаматыя для дзяцей. — Мінск: Попурри, 2011.
10. Чудо домашней кухни. — Минск: Харвест, 2011.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Джордж Рэймонд Ричард Мартин. Игра престолов. Битва королей. Буря мечей. — Москва: АСТ, 2011.
2. Джейн Остен. Гордость и предубеждение. — Москва: АСТ, 2011.
3. Стиг Ларссон. Девушка с татуировкой дракона. — Москва: Эксмо, 2012.
4. Поль Брэгг. Здоровый позвоночник. — Санкт-Петербург: Вектор, 2008.
5. Барни Стинсон. Кодекс братана. — Москва: Эксмо, 2011.
6. И. П. Неумывакин. Перекись водорода. — Санкт-Петербург: Диля, 2011.
7. Эрих Мария. Ремарк. Триумфальная арка. — Москва: АСТ, 2011.
8. Омар Хайям. Рубаи. — Москва: Эксмо, 2011.
9. Эрик Бёрн. Люди, которые играют в игры. — Москва: Эксмо, 2011.
10. Владимир Познер. Прощание с иллюзиями. — Москва: АСТ, 2012.

# У сэрцах пакалення

Валянцін БАРЫСЕВІЧ

## Пётр Машэраў — Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, вядомы палітычны і грамадскі дзеяч, палымяны патрыёт Беларусі.

Успаміны беларускага пісьменніка Славаміра Антановіча пра П. Машэрава выліліся ў аб'ёмны (амаль 400 старонак) гістарычна-публіцыстычны раман "Пётр Машэраў", які нядаўна пабачыў свет у адным з выдавецтваў Масквы. Аўтар адлюстроўвае вобраз героя з моманту яго нараджэння і да апошніх дзён жыцця. Пісьменнік, як, дарэчы, і паплечнікі Пятра Міронавіча, землякі, настаўнікі, літаратары, журналісты, якія блізка ведалі яго, да гэтага часу не могуць звыкнуцца з думкай яго заўчасную смерць.

У рамане адлюстроўваюцца лёсы бацькі Пятра Машэрава Мірона Васільевіча, якога ў 1937 годзе па ілжывых даносах аднавяскоўца арыштавалі сатрапы НКУС (адпраўлены на лесараспрацоўкі, назад не вярнуўся), ягонай маці Дар'і Пятроўны (выхавала трох дачок і двух сыноў, загінула ад рук фашыстаў у верасні 1942 года). На старонках твора апавядаецца пра студэнцкія гады Пятра ў сценах Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя С. Кірава, яго цёплыя сустрэчы з братам Паўлам, сёстрамі Вольгай, Надзяй, Матронай, заляцанні да будучай жонкі Паліны, пра ўзаемаадносіны Паліны Андрэеўны з ягонай сяброўкай Таццянай Прытыцкай, дзелавыя перамовы Пятра Міронавіча з паплечнікамі па партыі.

Сутыкаючы героя рамана з расонскімі падпольшчыкамі і партызанамі Міхаілам Якімовічам, Антанінай Езутавай, Пятром Хамчаноўскім, а ў пасляваенныя гады — з вядомымі партыйнымі і дзяржаўнымі дзеячамі, такімі, як Леанід Брэжнеў, Андрэй Грамыка, Тодар Жыўкаў, Фідэль Кастра ды іншымі, пісьменнік падкрэслівае, па-першае, высокую чалавечнасць, культуру і інтэлігентнасць Пятра Машэрава, які ўмеў нават у складаных умовах ваеннага ліхалецця і падчас "халоднай вайны" лёгка згладжваць самыя вострыя вуглы, а па-другое, паказвае яго непрымірымасць да раўнадушша, бюракратыі, у якой бы форме яны ні выяўляліся. Разам з тым, смела абараняючы свой пункт гледжання, Пётр Міронавіч не выракаўся разумных доказаў апанента.

Чалавек ваеннай выпраўкі, ён заўсёды заставаўся простым і адкрытым для настаўнікаў, навукоўцаў, студэнтаў, пісьменнікаў, хлебаробаў, шахцёраў, працу якіх бязмежна шанаваў. Перажыўшы жахі вайны, ён ніколі не пакідаў чалавека сам-насам у цяжкія для яго хвіліны.

Рэчаіснасць у творы С. Антановіча адлюстравана не сама па сабе, а прапушчана праз ягонае сэрца. Мабыць, таму многія старонкі "Пятра Машэрава", дзе распавядаецца пра падзеі далёкіх ужо дзён, прадстаюць перад чытачом ва ўсёй аголенай сапраўднасці. Чуллівымі гісторыямі прасякнуты аркушы, дзе ёсць дыялогі Пятра Міронавіча з такімі вядомымі ў краіне творцамі, як Іван Мележ, Аляксей Карпюк, Андрэй Макаёнак, Іван Шамякін, Пятрусь Броўка, Анатоль Вялюгін, Міхаіл Савіцкі, Элем Клімаў ды іншымі. Думкі гэтых геніяльных беларусаў, увасобленыя ў раманы, вершы, кінастужкі, жывапісныя карціны не падлягалі іншы раз звычайнай, імгненнай ацэнцы, а патрабавалі глыбокага філасофскага асэнсавання. Прынамсі таму творчасць пісьменнікаў, мастакоў, кінасцэнарыстаў, скульптараў была ў пастаянным полі зроку партыйнага лідара рэспублікі, які, далікатна ўзважваючы тыя ці іншыя падзеі на шалях эпохі, уважліва ставіўся да творчасці, праяўляў клопат пра дзеячаў культуры, паляпшаў іх сацыяльна-бытавыя ўмовы.

Працуючы першым сакратаром ЦК ЛКСМБ, Пётр Машэраў стаў ініцыятарам стварэння часопіса "Маладосць", пераўтварэння альманаха "Советская Отчизна" ў штомесячны часопіс "Нёман", стварэння выдавецтваў "Мастацкая літаратура", "Юнацтва", "Белорусская Советская Энциклопедия", а крыху пазней — будаўніцтва Дома літаратара.

У душы Пятра Машэрава пастаянна жыло імкненне да кардынальных змен у сістэме гаспадарання, яму хацелася адкінуць усе перашкоды, якія навязваў цэнтр, і рашуча павесці рэспубліку ў светлую будучыню. Гледзячы ў заўтрашні дзень, П. Машэраў рабіў асноўную стаўку на студэнцкую моладзь. Лічыў мэтазгодным ужо з другога-трэцяга курсаў актыўна прыцягваць будучых спецыялістаў да навукова-даследчай працы, звяртаўся да навукоўцаў, прафесарска-выкладчыцкага складу, вядомых спецыялістаў народнай гаспадаркі і культуры, заклікаючы стаць уважлівымі і патрабавальнымі шэфамі студэнтаў. Па ягонай ініцыятыве ва ўсіх абласных гарадах, а таксама ў Баранавічах і іншых буйных населеных пунктах, былі арганізаваны конкурсы на лепшыя студэнцкія работы.

"Чым больш багатай і эканамічна моцнай стане наша рэспубліка, тым больш трывалай будзе бяспека і ва ўсім свеце… Нашы людзі добра ведаюць кошт міру і кошт вайне, і бачаць свой найпершы абавязак у тым, каб у імя светлага заўтрашняга дня сваёй працай мацаваць эканамічную… магутнасць…" Гэтыя словы Пятра Машэрава на Восьмым Міжнародным кангрэсе барацьбітоў Супраціўлення, які праходзіў у Мінску 24 мая 1978 года, не згубілі сваёй актуальнасці.

Мне думаецца, гэты твор стане яркай з'явай у беларускай дакументальнай прозе і публіцыстыцы.

# «Спасціжэнне сябе ў Сусвеце...»

Лілія́на АНЦУХ,
дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці"

Пачну з верша:

*Дзень вейкі размежыў і коціцца ўпарта.*
*Душу разнасцежу пад сонца з-за кратаў.*

*Прамерзлая летам, спатнелая ў холад —*
*Самотным сусветам і сонечным колам.*

*Смяялася ў горы і плакала ў шчасці,*
*Вязалі аборы, згіналі напасці...*

*Стаіць неваляшка, хістаецца квола,*
*Ў далонях-лядзяшках пяшчоціцца слова.*

Гэта радкі Надзеі Салодкай, паэтэсы з Полацка. І мне так хочацца расказаць пра яе, пра свае адносіны да яе творчасці. Калі ўчытацца, углядзецца ў гэты твор нібы ў твар, унікнуць у яго душою, сэрцам і розумам, можна адчуць і зразумець ці не ўвесь лёс гэтай жанчыны. Сёння яна вядомая ў беларускіх літаратурных колах. А не так і даўно, у 2002-м, яна пастукалася ў дзверы выдавецтва "Чатыры чвэрці" з рукапісам паэтычнага зборніка "На ўзлёце малітвы". Кніга выйшла і, як аказалася, сталася першай прыступкаю да наступных, бо наша выдавецтва не змагло адмовіць сабе ў задавальненні судакрануцца напоўніцу з творчасцю Надзеі Салодкай. Выйшлі ўжо згаданая "На ўзлёце малітвы" і яшчэ "Горсточка лета", "На краю зимы", "Апошняя квадра", "Месца пад сонцам", "Прикосновение". І як звёнка-звязка — кнігі яе перакладаў на рускую мову твораў Навума Гальпяровіча: "Эхо слушает голос" (вершы), "В ожидании любви" (навелы). Лёс Надзеі Салодкай далёка не просты. Яна прыйшла да паэтычнага слова ў даволі сталым узросце, з важкім жыццёвым багажом. Закончыўшы медвучылішча, паспела папрацаваць у медыцыне, затым стала машыністкаю ў рэдакцыі, працавала дома. Адчула горкі смак немагчымасці хадзіць на працу і проста хадзіць. Сёння я ведаю Надзею Стэфанаўну не толькі як паэтэсу, але і трохі па-сяброўску зазірнула ў яе жыццё.

Чым прываблівае яе творчасць? Найперш, гэта шчырасць, нейкая безабаронная адкрытасць, разнасцежанасць пачуццяў. Ты разумееш, што чалавек не маніць, не выціскае з сябе радкі, не "робіць" верш, а натуральна, нязмушана размаўляе з намі, з сабою рыфмаваным, рытмічным словам. І спеўнасць, песеннасць... Мяккае слова так арганічна кладзецца на ноты, льецца песня. Колькі іх



створана ў суаўтарстве з вядомымі кампазітарамі, асабліва з незабыўным Ізмаілам Капланавым...

Творчая дзейнасць Надзеі Салодкай прадаўжаецца цягам усяго пятнаццаці гадоў (з канца 1996 г.), але які вынік! Дзясятак кніг і вялізная колькасць песень, прыгожых, родных, песень, ***якія гучаць***. І што цікава, яна амаль не хадзіла ў "пачаткоўцах-паэтах", не чакала сваёй чаргі для прызнання. Не было і вось — стала, ёсць! Раптам і назаўсёды.

Вершы ўражваюць сваёй экспрэсіўнасцю, глыбінёй пранікнення ў тонкі пачуццёвы свет, філасофскай скіраванасцю і адточанасцю слова і радка, прыгажосцю і багаццем як роднай беларускай матчынай, так і рускай мовы. Іх ацанілі і адгукнуліся добрымі словамі, рэцэнзіямі такія прафесіяналы пяра, як Анатоль Вярцінскі, Навум Гальпяровіч, Леанід Галубовіч, Ірына Жарнасек і іншыя. Кампазітары Леанід Захлеўны ды ўжо згаданы Ізмаіл Капланаў. Пішуць і выконваюць песні на словы Салодкай Мікола Яцкоў, Міхаіл Асташэнка, Наталля Чацверыкова са сваімі выхаванцамі атрымалі не адну ўзнагароду за іх. Сёння вершы выспелі, наліліся яшчэ большай сілай.

Вельмі шкадую, што не паспела пазнаёміцца з яе маці, бо, пэўна ж, адметны паэтычны талент. Варта толькі ўчытацца ў радкі, прысвечаныя матулі:

*Добры Божа, спагадлівы, велічны,*
*Затулі маю маму ад немачы!*
*Вінаваціцца словам так мала,*
*Уратуем з Табой маю маму.*
*Добры Бог, затулі маму!*

Песні на вершы Надзеі Салодкай практычна адразу разліліся на шырокім prasторы беларускага тэле- і радыёэфіру, на прэстыжных канцэртных пляцоўках. Рэдкае свята на рэспубліканскім ці мясцовым узроўні абыходзілася без яе песень. Граматы, падзякі, дыпломы... За кнігі паэзіі "Апошняя квадра" і "Горсточка лета" ёй прысуджана літаратурная прэмія імя Уладзіміра Караткевіча (Віцебск). У Рэспубліканскім конкурсе ў намінацыі "Лепшы твор 2008 года" ў песенным жанры (з кампазітарам Ізмаілам Капланавым) — дыплом ІІ ступені.

Тэма Полацка і Беларусі займае значнае месца на старонках яе кніг.

*Кожны крок мой на гэтых вулках —*
*Спасціжэнне сябе ў Сусвеце.*
*Полацк ціхі мой, звонка-гулкі,*
*Той, што лёсам маім завецца.*

*Мудры сведка вякоў пражытых,*
*Уважаеш мяне сваёю!*
*Я — адна з тваіх тонкіх жылак,*
*Што сілкуюць цябе крывёю.*

І родны горад ацаніў гэта, надаўшы паэтэсе, сябру Саюза пісьменнікаў Беларусі Надзеі Салодкай у 2008 г. званне "Ганаровы грамадзянін горада Полацка", адзначыўшы папярэдне яшчэ і знакам "За заслугі перад Полацкам". Песня-гімн "Горад над Дзвіной" Ізмаіла Капланава шырока і раздольна лунае над горадам. Ужо дзясятак гадоў яна гучыць кожную раніцу на чыгуначным вакзале, сустракаючы пасажырскі цягнік з Масквы, пад гэты вальс танцуюць дзеці і дарослыя, гэта — візітка Полацка.

Вершы, прысвечаныя Бацькаўшчыне, вызначаюцца вельмі тонкім лірызмам, не гучна-груваскія, а далікатна-цнатлівыя, пяшчотныя, як і вершы пра маці, бо гэты звязак — непарыўны.

*Захіні, калі ў лёсу шчадротаў*
*не хопіць,*
*І ў спагадзе высокай правіны даруй.*
*У застоллі вясёлым*
*і ў горкай маркоце*
*Я цябе перад Богам у сведкі бяру.*

Вершы пішуцца. Яны коцяцца шырокай і магутнай плынню. Здаецца, розныя аўтары карыстаюцца аднымі і тымі ж словамі, надаюць радкам аднолькавую форму, жывуць у аднолькавых побытавых стасунках, а вершы атрымліваюцца розныя. І ў Надзеі Стэфанаўны яны пазначаны толькі ёй уласцівай адметнасцю, калі, пачаўшы чытаць, ты ўжо не здольны адарвацца, пакуль не перагорнеш апошнюю старонку. І пасля будзеш сядзець над закрытаю кнігай і думаць, думаць… Пэўна, у гэтым і заключаецца талент творцы, Боскае пакліканне да Слова.

Рыхтуюцца да друку чарговыя кнігі пранікнёнай і вытанчанай паэзіі. Разам з тым рыфмаваны напал пачуццяў натуральна і арганічна пераходзіць у празаічныя радкі: замалёўкі, успаміны, роздумы, нататкі — "спасціжэнне сябе ў Сусвеце...". Наша выдавецтва з задавальненнем працуе над гэтымі кнігамі. І мы яшчэ неадноічы сустрэнемся.

Мастак і кніга

# Міхаіл Басалыга: «Наша зямля — краіна, дзе нараджаюцца геніі»

**Міхаіл Басалыга нарадзіўся 1 мая 1942 года ў Слуцку. Пасля 10-й сярэдняй школы скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Займаецца кніжнай і станковай графікай.**
**Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага саюза мастакоў, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, літаратурных музеях Янкі Купалы і Якуба Коласа, Слуцкім краязнаўчым музеі. Узнагароджаны рэспубліканскімі і замежнымі дыпломамі і граматамі за мастацкае афармленне кніг, сярэбраным медалём ВДНГ СССР (1989).**
**На мальберце ў яго майстэрні новая карціна на гістарычную тэму.**
**Міхаіл Басалыга адданы беларускай мінуўшчыне. Ён сцвярджае:**
**"Наша зямля — краіна, дзе нараджаюцца геніі. Беларускія карані маюць Дастаеўскі, Рымскі-Корсакаў, Міцкевіч, Агінскі. (Міхал Клеафас Агінскі — аўтар гімнаў для палякаў, а "Паланэз" павінен быў стаць гімнам для беларусаў. Яго ўгаворвалі папрасіць у цара прабачэння за тое, што ўдзельнічаў у паўстанні, але Агінскі адмовіўся і выбраў развітанне з радзімай.) Скарына, Семяновіч, што ў XVIII стагоддзі намаляваў мадэль шматступеньчатай ракеты. Пётр I яго вынаходніцтва выкарыстоўваў у сваіх феерверках. Барклай дэ Толі, чыё сапраўднае прозвішча Багдановіч, і многія іншыя".**




*М. Басалыга. Францыск Скарына. Афорт.*

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**— Міхаіл Самуілавіч, дазвольце павіншаваць з шаноўнай датай і пажадаць далейшых поспехаў. Раскажыце, калі ласка, пра самыя яркія ўспаміны дзяцінства.**

— Гэта былі нялёгкія гады. Бацька загінуў на вайне, маці падымала нас адна. Я вырас у Слуцку. Школу там скончыў. А летам мы з'язджалі ў вёску да дзядулі і бабулі. Пра асяроддзе, у якім рос, дасюль самыя лепшыя ўспаміны. Самы культурны, самы выхаваны чалавек, якога я ведаю ў жыцці, быў мой дзядуля. Хаця ён быў непісьменны, ставіў замест подпісу крыжык. Выдатнейшы чалавек. Ён быў куды бліжэй да прыроды, чым мы, і, думаю, лепей разумеў сэнс жыцця. Тое ж самае скажу і пра бабулю ды іншых родзічаў. У мяне была гаваркая цётка: калі яе спыніш, то спыніцца, а калі не, то будзе размаўляць хоць цэлы дзень. І дай Бог кожнаму нашаму выступоўцу такой сакавітай мовы.

Паглядзіце сёння на жанчын пасля працы — у руках дзве сумкі, галава нахілена і вочы нічога не бачаць апрача асфальту. І мужчыны таксама ідуць утаропіўшыся вачамі ў зямлю. Нешта ім замінае, нечага не хапае. З усіх бакоў загружае інфармацыя, а калі спыніць і спытацца, дзеля чаго жывеш, ці кожны адкажа?

Вёскі майго дзяцінства — Васілінкі, Бокшычы, Заполле, Забалаць, Кухты. І сёння лічу гэтыя мясціны найпрыгажэйшымі і мару пасяліцца там напрыканцы жыцця. Так ужо створаны чалавек, што родныя мясціны — даражэйшыя за ўсё.

Бываю там часта. Як бы на душы цяжка ні было — паглядзіш навокал, калі пачынае ўсё цвісці, кідаеш машыну і ідзеш пехатой — асалода неверагодная. І ў параўнанні з гэтай прыгажосцю ўсё астатняе — такая дробязь. Трэба жыць доўга, каб ацаніць гэта хараство.

**— Як пачынаўся ваш шлях у мастацтва?**

— Скончыў школу, прыехаў у Мінск і паступіў у мастацкае вучылішча.

**— Адразу, без падрыхтоўкі?**

— Мама таксама была не чужая ў народным мастацтве — такія посцілкі ткала! На жаль, нічога не захавалася. Дзед рабіў бандарку, а жанчыны ў сям'і ткалі. Цётчыну посцілку захоўваю на лецішчы. Відаць, і мяне нейкім чынам гэта зачапіла.

У Слуцку ў нас была ізастудыя пры Доме піянераў. Кіраваў ёю былы франтавік — Уладзімір Садзін. З ім шмат вандравалі па Беларусі, пабывалі ў Карпатах, Крыме, Маскве. Вучыліся адзін у аднаго. Склалася група: Георгій Скрыпнічэнка, мой брат Уладзімір Басалыга, Уладзімір Хведаровіч, Мікалай Карзоў і інш. Адзін за адным паступілі ў вучылішча, потым у інстытут, потым уступілі ў Саюз мастакоў, заснаваліся ў Мінску, толькі М. Карзоў жыве ў Слуцку. Жыццё ўсіх звязана з мастацтвам. А Вячаслаў Дубінка за што ні браўся, усё атрымлівалася. Фатаграфаваннем займаўся, выцінанкай. Пакінуў два незакончаныя раманы. Карацелькі выдатныя пісаў.

**— Міхаіл Самуілавіч, ці багата давялося павандраваць?**

— За савецкім часам быў у Югаславіі, Чэхаславакіі, ГДР, Францыі, Алжыры. Хаця валацугам мяне назваць нельга.

**— Скажыце, калі ласка, а пра што самае важнае ў вас яшчэ не спыталі журналісты?**

— Пра тое, як мастак малюе. Відаць, усе ведаюць, вось ніхто не спытаўся — ні журналісты, ні навучэнцы. Хаця і шмат інтэрв'ю было, і трынаццаць год працаваў дырэктарам Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава.

**— Талент мастака — гэта цуд. Хіба ж можна даведацца, як ствараецца цуд?**




*М. Басалыга. Мікола Гусоўскі. Афорт.*

— Адзін кажа — рукою, іншы — галавою. А мне здаецца, не рукою і не галавою. Пачынаеш вялікую работу выконваць і раптам зловіш сябе на думцы: хто яго ведае, як гэта атрымліваецца.

Аднойчы з мастаком Міхаілам Савіцкім у 2003-м размаўлялі на гэту тэму ў яго майстэрні. Ён мне паскардзіўся: "Я працаваў усё жыццё як праклятыя — не ведаў ні выхадных, ні адпачынкаў, ні васьмігадзіннага рабочага дня. Ну за што мне, скажы, такое праклятцзе?"

(Я яго добра ведаў — выхадных у яго сапраўды не было, касцюма людскага не знасіў. І не таму, што не было грошай — яму не было калі бавіць час у такім касцюме.)

І я яму кажу: "А можа, не праклляцце, а Божы дар?" І калі ты ім адзначаны, нішто цябе не можа спыніць, ты павінен яго рэалізаваць. Генадзь Гаркуноў, у якога аднялі нагу, падзяліўся пры сустрэчы: "Ведаеш, я на мыліцах і на калясцы ў майстэрні за апошні год столькі работ паспеў стварыць, ты не ўяўляеш!"

Мастак Бусел рэжа гравюры, не маючы кісцей абедзвюх рук.

У Слуцкім краязнаўчым музеі, дзе захоўваюцца і мае работы, патрапіў на выстаўку адной мастачкі ў галерэю. Адукацыі ніякай, але наяўнасць Божага дару адчуваецца. Я параіў: "Вось каб яна тут трошкі абагуліла…", а мне на вуха шэпчуць: "Яна інвалід, рук няма, малюе зубамі!" Нас можна загнаць куды хочаш, але мы не можам не працаваць.

Шчыра кажучы, мастак — чалавек нязручны, ён не кінецца паслухмяна выконваць загад, а заўсёды задасць пытанне: а чаму, а навошта гэта рабіць?

Але дзяржава, калі дбае пра будучыню, павінна мастакоў падтрымліваць.

Вусцішна, калі мастацтва робіцца незапатрабаваным. Тады знікае сэнс жыцця.

Самае жудаснае, калі да ўлады прыходзяць людзі, што не разумеюць вартасці культуры для грамадства. Накшталт таго, як у Амерыцы, — калі нам патрэбны кваліфікаваны спецыяліст, мы яго купім. А для масы насельніцтва пачатковай адукацыі дастаткова.

**— Ці не было ў вас намеру пакінуць успаміны пра падзеі пражытых гадоў?**

— Брат нядаўна зламаў нагу, сядзіць дома і піша мемуары. Я кажу: "Ну, тады я ўжо пісаць не буду". Ведаю, многія з мастакоў таксама пішуць. Я не стану, бо не толькі скажу, што думаю з той ці іншай нагоды, але і свайго яшчэ дадам.

На вялікі жаль, свой артыкул я не магу скончыць словамі: "Выстаўка, прымеркаваная да 70-годдзя Міхаіла Басалыгі, запрашае прыхільнікаў беларускага мастацтва…" Міхаіл Самуілавіч кажа: "Хаця і прапанавалі бясплатна выставачную плошчу Палаца мастацтва, афармленне кожнай работы патрабуе набыць рамку і шкло, зрабіць паспарту, а гэта не менш за сто долараў. А работ, якія не сорамна паказаць з такой нагоды, звыш сотні. Пакуль такую суму ўкласці я не гатовы".

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Сапожков, Ю. М. Паук-канатоходец / Юрий Сапожков; худож. Мария Мицкевич. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 32 с.**

Гэтая кніга распавядзе дзецям шмат цікавага, напрыклад, што дажджы прыходзяць у госці і могуць заначаваць, што павучкі падобныя да цыркавых канатаходцаў… З аднаго боку — дзіўныя назіранні. Але дзецям з незвычайным успрыманнем рэчаіснасці яны такімі не пададуцца. Таму цалкам верагодна, што вершы Юрыя Сапажкова дапамогуць маленькім чытачам стаць яшчэ больш творчымі і не баяцца выказваць незвычайныя думкі.



**Літаратура XI — XVI стагоддзяў / уклад. і камент. А. У. Бразгунова, І. У. Будзько, Л. В. Ляўшун; прадм. У. В. Гніламёдава; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 766 с.**

Першы том "Залатой калекцыі беларускай літаратуры" — выдавецкай серыі, што павінна адлюстраваць тысячагадовы шлях развіцця нашай літаратуры, не выпадкова прысвечаны вытокам прыгожага пісьменства на беларускай мове. Больш за тое, у кнізе падаюцца невядомыя або малавядомыя шэдэўры айчыннай пісьмовай спадчыны. Так, упершыню чытач мае магчымасць пазнаёміцца (на сучаснай мове) з аповедамі папулярнай у сярэднявеччы "энцыклапедыі" жыцця — Пролага, творамі св. Кірылы Тураўскага, самымі старажытнымі жыціямі беларускіх святых, "Летапісам вялікіх князёў літоўскіх", зваротамі да чытачоў славутых асветнікаў — Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, белетрыстыкай эпохі Адраджэння, а таксама з многімі іншымі творамі, што былі напісаны ў азначаны перыяд.



**Чаропко, В. Великие князья Великого Княжества Литовского / Витовт Чаропко. — Минск: Беларусь, 2012. — 264 с.**

Вітаўта Чаропку можна назваць адным з самых паспяховых папулярызатараў беларускай мінуўшчыны. Яго кнігі, што распавядаюць пра падзеі нашай слаўнай гісторыі, выхавалі ўжо не адно пакаленне даследчыкаў. Калі не ў глабальным маштабе, то хаця б зацікавілі, падштурхнулі да больш глыбокага і дэталёвага знаёмства з асобнымі падзеямі і постацямі. Думаю, што і гэтае выданне знойдзе свайго зацікаўленага чытача. У ім аўтар распавядае пра гады кіравання вялікіх князёў — Міндоўга, Войшалка, Трайдзеня, Віценя, Гедыміна, Альгерда, Ягайлы, Кейстута, Вітаўта і іншых знакамітых асоб, чый лёс непарыўна звязаны з гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага аж да заключэння Люблінскай уніі ў 1596 годзе.



**Аннин, А. А. Дон Жуан. Правдивая история легендарного любовника / Александр Аннин. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 347 с.**

Сёння яго ведаюць як авантурыста, шпіёна, падарожніка, падманшчыка, шантажыста і, канечне, знакамітага палюбоўніка "ўсіх часоў і народаў". Але як узнік вобраз Дона Жуана? Хто стаў прататыпам для такога яскравага персанажа? Адказы — у першым дакументальным рамане пра рэальны правобраз самага вядомага іспанца ў свеце.

*Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by*

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Эвакуацыя

## Урывак з аповесці «Дарогі Івана Захарава»



Фрыдрых Модаль

**Вялікі партрэт маслам на адмысловым століку Ванечка, названы так у гонар прадзеда, бачыць кожны дзень. Падпалкоўнік Іван Кузьміч Захараў на гэтай выяве ў новенькім мундзіры з залатымі пагонамі. Ні ордэнаў, ні медалёў, толькі ззяе каля сэрца Залатая Зорка Героя Савецкага Саюза. Побач — заўсёды кветкі. Прадзед глядзіць на ўнука сур'ёзна і задуменна.**
**У маім архіве засталіся нататкі з успамінамі партызана Вялікай Айчыннай, магнітафонныя касеты з яго голасам.**
**І жыве яшчэ мая памяць пра яго. Хай яны распавядуць нашчадкам пра чалавека з легенды.**

Калі ў першыя дні шмат каму думалася, што "мы ворага разаб'ём малой крывёй, магутным ударам", як спявалася ў песні, ужо на пяты дзень усе зразумелі, што проста так не абыдзецца.

У Асвеі — на вуліцах уцекачы з захаду, тлум ва ўладных кабінетах райцэнтра, кулямётныя чэргі з варожых штурмавікоў, адыходзячыя разрозненыя вайсковыя падраздзяленні… І толькі адзін раз над Асвейскім возерам савецкі знішчальнік схапіўся з чорным "месерам". Кароткі бой — і варожы самалёт, задыміўшы, зваліўся на выспу пасярод возера. Але гэта здарылася толькі адзін раз.

У маленькім эмтээсаўскім кабінеце, калі Іван Захараў раніцай увайшоў туды, разрываўся тэлефон.

— Ты што, маць тваю, спіш! Расстраляю! Дробат з табой гаворыць, — гарлапаніў нервовы голас на тым канцы провада.

Старшыня Асвейскага выканкама і ў мірны час не разумеў іншай формы зносін, а цяпер, мабыць, зусім зляцеў са шпулек.

— Загадваю! Чуеш? Загадваю: усё паліва і змазваючыя неадкладна перадаць пад дакумент вайсковым часцям! Да кроплі… Неадкладна! Асабіста адкажаш!

Над дарогамі і вуліцамі райцэнтра амаль штодня нізка праляталі штурмавікі. Праз Асвею часам праходзілі групы пешых чырвонаармейцаў, але тэхнікі з імі не было. Ні танкаў, ні машын… Вораг на фронце, мабыць, з імі папрацаваў…

"Як па дарогах прайсці нашым трактарам, аўтамашынам? Заўважаць з паветра — і нас хопіць гэтым… гадам на дзве гадзіны… На сняданак". Думка зацята працавала ў адным кірунку: як бы вырвацца. І Захараў разумеў, што вырвацца немагчыма. Амаль… Вайна — не казка.

Загадаў прынесці яму зводку пра наяўнасць паліва. Сядзеў за сталом і лічыў, на якую колькасць кіламетраў усяго гэтага хопіць. Выходзіла, што па мінімуме маршрут расцягнецца кіламетраў на чатырыста, а па максімуме — з гакам… І які гэты гак, — не прадказаць… Выклікаў галоўнага механіка:

— Сяргеевіч! Сам бачыш, што дзеецца. Будзем ратаваць людзей і тэхніку… Пойдзем сваім ходам у наш тыл… Далей ад фронту.

— Цяжка, Кузьміч… Машыны — ціхаходы і не новыя… Паломкі будуць. І людзі не ўсе пойдуць: думаюць, справа часовая… Перамелецца… І гаспадарку шкада кідаць.

— А ты неадкладна ў тэмпе пачынай неабходную прафілактыку і рамонт. Падрыхтоўку. Майстры нашы — выдатныя, усё ўмеюць… Блыху падкуюць. Так што запчастак не эканоміць… Нічога на чорны дзень не хаваць. Але рамонтны камплект абавязкова падрыхтаваць у дарогу. Сам разумееш — мужык сталы. А людзі — яны людзі… Прыйдзе час — паразумнеюць. Сілком эвакуіраваць не будзем.

Сыходзячы пасля працы, узяў з сабой дзве карты мясцовасці. Не вайсковыя, на жаль, але здагадацца можна будзе, што дзе знаходзіцца.

Уначы, калі жонка Марыя і дочкі Віля і Света заснулі, стаў працаваць рогам і лінейкай, думаць і меркаваць…

— Адважнага куля баіца, адважнага штык не бярэ…

Колькі ні лічы і ні варажы, усё адно выходзіць… найчыстая авантура.

— Адважнага куля баіцца… — мармытаў ён, прыкідваючы варыянты адзін неверагоднейшы за другі.

Раніцай — ізноў Дробат на провадзе! Голас ласкавы такі, маслам змазаны, сметанковым маслам:

— Захараў? Дарагі мой, добры дзень! Я — Дробат. Будзем развітвацца, дарагі. Так што слухай загад зверху. Эвакуацыя! Таму паднімай тэхніку. Сваім ходам будзеш эвакуіравацца ў наш тыл. Дакументы і маршрут атрымаеш у выканкаме.

— Дык у мяне ж ні кроплі паліва. Усё аддаў учора па вашым жа загадзе…

— Нічога не ведаю. Не выканаеш — адкажаш па законах ваеннага часу!

Хадзіліся дзеці і жонка Івана. Рухаліся часцей начамі. Днём заганялі машыны пад дрэвы і спалі. Вучыліся паліць бяздымныя вогнішчы. Грузавікі часта захрасалі ў брудзе і пяску. Выцягвалі іх трактарамі і рухаліся далей. Павольна, цяжка… Але рухаліся.

Над шашой і прасёлкамі, запоўненымі ўцекачамі, часам нізка праносіліся варожыя штурмавікі… Пачуўшы шум, людзі ўцякалі далей ад дарогі, валіліся на зямлю. Трывожна чакалі, калі скончыцца страляніна і бамбёжка… Іван аднойчы, прабягаючы ўздоўж калоны тэхнікі, убачыў сваіх дачушак, Вілю і Свету, якія хаваліся ад страшных самалётаў у кусце. Захараў спыніўся, моўчкі пракаўтнуў камяк у горле і рушыў далей.

У трубцы тэлефона — частыя гудкі. Вось і з'явіліся "законы ваеннага часу"… Хто іх склаў, і хто іх ведае? І слова новае нейкае… цяжкае — эвакуацыя. Асабістая звышзадача Івана Кузьміча Захарава, некалі камісара батальёна, а цяпер воляй партыі дырэктара машынна-трактарнай станцыі, фармулявалася ім самім некалькі інакш: ратаваць людзей і тэхніку любым чынам.

У выканкаме Захараў атрымаў у запячатаным сургучом канверце загад. Ні матэрыялаў гаруча-змазвальных, ні маршруту… Толькі канчатковы пункт — горад Ржэў. Тэхніку належала перадаць гарадскім уладам. Чаго і варта было чакаць. Больш як 400 кіламетраў. Ды і які можа быць прадпісаны маршрут, калі франтавое становішча змянялася хутка і непрадказальна, калі групы нямецкіх дыверсантаў былі выкінуты ў тылы Чырвонай Арміі яшчэ да пачатку вайны. Для барацьбы з імі з мясцовых жыхароў фарміраваліся загараджальныя атрады.

У ноч з 5 на 6 ліпеня былі вывезены архівы раённых устаноў. Недалёка былі па ўсіх прыкметах і франтавыя часці праціўніка. Марудзіць немагчыма. Іван дастаў з сейфа дакументы і асабістую зброю. Вось і ўсё!

— Бывай, Чапаеўская МТС!

Калона тэхнікі машынна-трактарнай станцыі сышла ў ноч і растала ў ёй.

Першапачаткова рух па шашы і гравійках у дзённы час прыпыняўся, таму што там рызыка апынуцца заўважанымі з паветра была максімальна вялікая. Калона імкнулася пры першай магчымасці звярнуць з адкрытых участкаў у лес, на мясцовыя малыя дарогі. Першыя кіламетры ў цемры пры малой хуткасці трактароў паказалі, што ехаць можна было, не прыцягваючы ўвагі самалётаў ворага. Цяжэй даводзілася аўтамашынам. Ім трэба была большая хуткасць і роўная ды цвёрдая паверхня дарогі. Да таго ж перашкаджалі выбоіны, глыбокія і вялікія лужыны, іншы раз пясок, у якім колы прабуксоўвалі.

Нават на глухіх лясных дарогах ехалі без святла фар. У адной з машын зна

У паходзе нават спаць яму не было калі. Кожную хвіліну набягалі неадкладныя справы. Ламалася тэхніка. Трэба было яе рамантаваць. Добра, што галоўны механік быў надзейным чалавекам. Гаручага заставалася ўсё менш. Даводзілася шукаць яго ў калгасах. Спыняў на дарозе любы транспарт, пераконваў уладальнікаў падзяліцца гаручым. Іншы раз рабіў гэта прымусова, таму што быў упэўнены, што мае на тое маральнае права.

У вёсцы Кабыльнікі, якая знаходзілася ўбаку ад маршруту, жыў даўні знаёмы Захарава Аляксандр Дзенісёнак. Такі чалавек у вёсцы мог шмат што падказаць і нават дапамагчы. Праўда, бянтэжыла, што яго сын Сцяпан працаваў год таму трактарыстам на Чапаеўскай машынна-трактарнай станцыі. Але быў тады асуджаны за прыпіскі і адбываў пакаранне ў Полацкай турме. Сам жа Аляксандр, хутчэй за ўсё, лічыў Іван, — сумленны чалавек. На легкавой машыне з шафёрам Іван паехаў у Кабыльнікі. Машыну пакінулі на пачатку вёскі і далей пайшлі пешшу. У Дзенісёнка яны перакусілі і пагаварылі пра становішча ў навакольных вёсках. Дзесьці праз паўгадзіны ў пакой увайшоў Сцяпан. Захараў напружыўся. Такая нечаканая сустрэча нічога добрага не абяцала.

— Добры дзень, Іван Кузьміч! — павітаўся малодшы Дзенісёнак. — Як бачыце, я вольны. Немцы ўжо ў Полацку, і нас выпусцілі… Такое вось жыццё.

Дзеля прыстойнасці госці трохі памарудзілі, развіталіся і выйшлі з хаты. Гаспадар праводзіў іх да брамкі. Машыну знайшлі на месцы… са спушчанымі коламі. Займацца рамонтам не было калі. Хутка сышлі ў лес. Магчыма, гэта Сцяпан такім чынам адпомсціў дырэктару.

Кіламетры і дні вельмі павольна набліжалі да Ржэва і прыносілі новыя клопаты. Трэба было шукаць і знаходзіць гаручае для машын і ежу для людзей. Часам стаялі суткамі: маторы маўчалі. Захараў у такія моманты гатовы быў на ўсё. Проста трэба было ратаваць людзей: жанчын і дзяцей.

Набліжаліся да Невеля. Ззаду — толькі чвэрць шляху. Далей ад фронту — менш налётаў на дарогах. Гэта добра. Але ўсё больш станавілася праблем з матэрыяльным забеспячэннем.

Аднойчы Іван Кузьміч, які ўвесь час уважліва назіраў за наваколлем, заўважыў на дарозе статак кароў. Паехаў да пастухоў.

— Хто старэйшы?

Старэйшым быў старшыня свайго асвейскага калгаса імя Розы Люксембург Рудзько. Калгаснікі гналі кароў сваім ходам. Іх суправаджала некалькі вазоў з фуражом. Але становішча гэтай групы таксама было незайздросным. Худыя стомленыя твары людзей, трывожныя позіркі…

— Магу загадаць, але цяпер толькі прашу. У мяне шэсць дзясяткаў галодных дзетак, баб і механізатараў… Дасі пару кароў?

— Разумею. Але не магу. Не маю права. Не дам… Але дапамагу. У нас на возе баран і парсючок. Ісці ўжо не могуць… І гэта ўсё…

У вялікага возера перад Невелем наладзілі днёўку. Як заўсёды, рамантавалі тэхніку; прыгатавалі мяса, пакармілі людзей. Без хлеба, якога ў іх некалькі дзён не было. Толькі бульбачка. Жанчыны задумалі халоднае мыццё. Падчас купання звалілася з кладкі ў ваду і пайшла на дно старэйшая дачка Івана. Мама кінулася за ёй, мужыкі, якія былі паблізу, — таксама. Выратавалі.

Уначы спаць нельга было, днём — не атрымоўвалася. Ламаліся машыны — іх пакідалі на абочынах доўгіх дарог. Канчалася салярка — дзесьці знаходзілі. А вадзіцелі, размачаленыя голадам і грукатаннем машын, не ламаліся — сціскалі ў аслабелых руках рычагі трактароў і аўтамашын…

Каля Ржэва калона тэхнікі выпаўзла з лесу і па шашы паскораным маршам рушыла да мэты. Усе раптам адчулі, што сілы на зыходзе, і гатовыя былі рызыкнуць.

Тут, у Калінінскай вобласці, у некатором аддаленні ад фронту, ужо працавалі службы, якія займаліся праблемамі эвакуацыі людзей і дзяржаўнай маёмасці. Тэхніку прынялі хутка. Захараў адправіўся ў гарвыканкам афармляць дакументы. Калі, скончыўшы справы, ён выйшаў з кабінета, убачыў жонку і дзяцей, якія ў калідоры на лаўцы чакалі яго. Ён сеў побач і імгненна заснуў.

Людзей тым часам накіравалі ў эвакапункт, дзе эвакуіраваныя маглі атрымаць па кавалачку мыла, прыняць гарачы душ. Адзежу іх тым часам выгравалі пры вельмі высокай тэмпературы ў адмысловых камерах. Казуркі літаральна выпальваліся: тыф быў смяротна небяспечны. Затым усіх кармілі гарачай ежай. Па неабходнасці аказвалі медыцынскую дапамогу. Тутака ж афармляліся асабістыя дакументы, выдаваліся даведкі эвакуіраваных, якія дапамагалі ў дальняй дарозе. Можна было зрабіць запыты для пошуку родных.

Дзяцей і неваеннаабавязаных павялі да эшалона на чыгунцы, які павінен быў да канца дня адправіцца ў тыл. Да яго прычапілі некалькі таварных вагонаў-цяплушак, злёгку пераабсталяваных для транспартавання салдатаў: усярэдзіне былі зроблены новенькія нары ў два ярусы. Людзям выдалі "сухі паёк" на некалькі сутак. Ваеннаабавязаных накіравалі да ваенкамата, дзе і павінны былі вырашыць іх далейшы лёс.

Іван Захараў выканаў сваю першую задачу і, як звычайна, нешматслоўна развітваўся з сям'ёй.

— Бывай, Маня. Беражы дзяцей… Я падамся на фронт. Дасць Бог — пабачымся…

Пра Бога камісар батальёна ўспомніў ці не першы раз у жыцці. Дочкі стаялі каля ног таты і мамы. Яны не разумелі, чаму мама плача, а тата такі невясёлы. Гудок паравоза нервова паклікаў: "Па вагонах!" Пажылыя чыгуначныя міліцыянеры цярпліва прыспешвалі эвакуіраваных… Іван ішоў следам за вагонам, потым адстаў, спатыкнуўся, перавёў дыханне… Чырвоны агеньчык на апошнім вагоне ўсё хутчэй уцякаў ад яго...

# Прайсці праз пекла — і любіць жыццё

**Споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння сціплага, але надзвычай таленавітага гомельскага жывапісца Мікалая Палянкова. З гэтай нагоды Светлагорская карцінная галерэя "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава наладзіла выстаўку яго твораў, падараваных ёй самім мастаком. Экспазіцыю назвалі "Прыгадваючы Мікалая Палянкова".**
**Да апошніх дзён свайго жыцця Мікалай Сцяпанавіч пісаў мне лісты. У іх — успаміны пра легендарнае Віцебскае мастацкае вучылішча, навучэнцам якога М. Палянкоў быў у даваенны час. У іх — яшчэ маладыя Лейтман, Ахрэмчык, Мазалёў… Мікалай Сцяпанавіч ведаў пра сваю бязлітасную хваробу і ўсё ж верыў, што зможа дапісаць яшчэ адну, можа, самую галоўную для яго карціну. Пра вайну, на якой ён нібыта ўсё яшчэ заставаўся. Зноў і зноў думаю пра гэта, перачытваючы яго лісты і аднаўляючы паспешлівыя запісы нашай апошняй гутаркі…**

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

**— Мікалай Сцяпанавіч, вам пашчасціла прайсці прафесійную школу ў знакамітым Віцебскім мастацкім вучылішчы…**

— Так, яно сапраўды было знакамітае. Маім першым настаўнікам стаў Валянцін Дзежыц — вучань Пятрова-Водкіна. На трэцім курсе выкладаў Леў Лейтман — адзін з лепшых вучняў Пэна. Аднойчы, аналізуючы мае малюнкі, ён заўважыў: "Гэта будучы Левітан…" З ім згаджаўся і дырэктар Іван Ахрэмчык. Вучылішча было адзінай мастацкай установай Беларусі на той час. У ім сабралася столькі маладых талентаў — і амаль усе загінулі ў ваеннае ліхалецце. Я напісаў карціну, прысвечаную іх памяці.

**— Вам таксама выпаў франтавы лёс.**

— 17 сакавіка 1941 года мяне прызвалі ў армію. З трэцяга курса вучылішча. Служыў у Чырвоным Урочышчы пад Мінскам у 260-м асобным танкавым палку. Калі пачалася вайна, нас, непадрыхтаваных танкістаў, узброілі іржавымі паўаўтаматамі і накіравалі на фронт. Абарону занялі пад Дзяржынскам. Потым даводзілася праходзіць па 70 кіламетраў у суткі, каб не трапіць у нямецкае акружэнне. Ішлі і спалі на хаду. У мяне ёсць карціна, якая так і называецца: "Франтавы сон". Бярэзіну мы ледзь паспелі пераехаць на падводах, як на мост пасыпаліся бомбы... Потым — шлях на Маскву. Але наш цягнік бамбілі. Мы апынуліся ў Калузе. У летнім лагеры пад Ульянаўскам працягвалі вучобу. Каб хоць нешта з'есці, выкопвалі з-пад снегу бульбу — ноччу, голымі рукамі… Былі 40-градусныя маразы. У казарме ў металічнай бочцы гарэла цэлае бервяно, бо ні пілы, ні сякеры, каб нарыхтаваць дровы, не было. Спалі не распранаючыся. Неўзабаве нам, вадзіцелям танкаў Т-34, надалі званне старшых сяржантаў і накіравалі ў Ніжні Тагіл па баявую тэхніку. Але там даведаліся, што я мастак, і на фронт не пусцілі. Маляваў наглядныя дапаможнікі, выпускаў баявыя лісткі… Ды заставацца ў тыле я не збіраўся. І калі ў адсутнасць камандзіра набіралі добраахвотнікаў на фронт, напісаў заяву. Так я апынуўся ў маршавай роце. Камандзір, калі даведаўся, не па-вайсковаму ціха запытаў: "Навошта ты гэта зрабіў?" Але нас ужо чакаў франтавы эшалон.

Нашу асобную 225-ю танкавую брыгаду адразу ж кінулі ў бой. Мы адарваліся ад забеспячэнцаў і ад машын з палівам. Немцы прыцэльна білі па нашым танку... Бачу на зямлі шмат расстраляных салдацікаў. Спыняю танк, але камандзір загадвае: "Наперад!" Еду па загінулых… Наша гармата і кулямёты не змаўкаюць. Рушылі праз палаючы пасёлак, і здаецца, гарыць танк. Нарэшце, прарываем моцную абарону ворага. Раптам матор глухне. З цяжкасцю прачыняю люк. Немцы страляюць па мне. Кідаюся ў рэчку і плыву. На беразе страчваю прытомнасць. Ачомаўшыся, разумею, што паранены. Прабіраюся паўз нямецкія акопы, шукаючы дарогу да сваіх… На трэці ці чацвёрты дзень хаваюся ў сене ў нейкім хляве, але менавіта там



*Мікалай Палянкоў у гады вайны.*

уладкаваліся і немцы. Чую крык: "Партызан!" Мяне, параненага, знясіленага, вязуць у Ржэў — у лагер для ваеннапалонных. Там праз колькі часу мяне, распластанага на зямлі, падымае малады ваеннапалонны, вядзе ў нейкую будку. Аказваецца, ён ваенфельчар. Аглядае, выразае скальпелем вялікі асколак — вядома ж, без абязбольвання. На маёй спіне застаюцца дзве глыбокія раны, шмат дробных (і цяпер у лёгкіх — 6 асколкаў)…

**— Вам давялося штодня змагацца за жыццё…**

— Неўзабаве нас перавезлі ў лагер пад Вязьмай. Палонныя тут знаходзіліся пад адкрытым небам. Раны мае ніхто не перавязваў, і яны пачалі гнаіцца, з іх сыпаліся чарвякі… А потым зноў дарога. Эшалон прыбыў у Маладзечна. Доктар, які аглядаў параненых палонных, распараджаўся: "У шпіталь!" Ляжалі на падлозе. Ежа — пайка хлеба і чарпак баланды. З медыкаментаў — толькі рыванол: вадкасць для прамывання ран. Бінты старыя, драныя… не абмінуў мяне і тыф. У тыфозным аддзяленні былі ложкі з чырвонымі коўдрамі. Такі колер быў таму, што іх з абодвух бакоў пакрываў суцэльны пласт набрынялых крывёй тыфозных вошай. Параненых там не перавязвалі — які сэнс? Яны ўсё роўна паміралі. Ніякага лячэння, толькі пайка хлеба ў выглядзе сухара. Я выжыў… Узімку 1943-га ў таварных вагонах павезлі на поўнач. У палонных няма нават вады. Многія паміраюць. Я дабіраюся да акенца, каб падыхаць паветрам, і раптам заўважаю, што калючы дрот абледзянеў. Аблізваю яго і наталяю смагу. На тэрыторыі Латвіі паспрабавалі ўцячы. Усіх урэшце ж пералавілі немцы. Потым — турма. З карцара я выйшаў такім, якія не жывуць. Выратаваў мяне былы студэнт Віцебскага мастацкага вучылішча Барыс Карабанкін. Штодня ў вызначанае месца ён прыносіў кацялок баланды — у яго была сувязь з турэмнай кухняй. Ён маляваў для немцаў. Далейшы лёс Барыса мне невядомы.

**— А потым вы апынуліся ў Германіі?**

— Пры канцы лета 43-га нас прывезлі ў Ламедорф, у лагер смерці. Ад голаду ў вачах цямнела. Ля выхаду з барака — вялікі штабель голых трупаў… Потым зноў дарога. На тэрыторыі Верхняй Сілезіі — чарговыя ўцёкі — толькі тры дні волі. Засада. Турма ў Глівіцэ. Праца на шахце. Але рыдлёўку з вугалем падняць я не мог. Шахцёры, разглядзеўшы мае раны, сляды ад пабояў, дамагаліся пераводу мяне на паверхню, у майстэрню па рамонце вагонетак. Гэта і выратавала, хаця неўзабаве атрымаў траўму — пералом нагі… Шкада, што не захаваліся мае малюнкі лагерных хворых…

**— Зіма 44-га — гэта час, калі савецкае войска набліжалася да Польшчы.**

— Ноччу мы чулі гул нашых самалётаў. Тады ж, зімой, нас, палонных, накіравалі на станцыю. Мяне сябры везлі на санках, бо ісці не мог. Потым быў горад Рыбнік, дзе ўсіх хворых пакінулі ў нейкім доме на голай падлозе. Там мы сустрэліся, ці не ўпершыню, з палоннымі англічанамі. Польскія жанчыны штодня прыносілі нам па дзве бульбіны, пакуль не пачаўся бой за Рыбнік. Наўкола ўсё гарэла. З'явілася надзея, што пра нас немцы забыліся, але — не. Загналі ў халодную школу, англічан павялі кудысьці асобна. Немцы не вельмі звярталі ўвагу на нас, нямоглых. Ды і наогул гэта былі ўжо не тыя фанабэрыстыя фашысты. Нас пад аховай перавялі ў жаночы манастыр, дзе частавалі мятнай гарбатай, а потым у бясконцай калоне ваеннапалонных мы, захутаныя ў лагерныя прасціны, коўдры, марудна пакрочылі да польска-чэшскай мяжы. Памятаю адпачынак у нейкім хляве. Да гарышча прыстаўлена лесвіца. З апошніх сіл узнімаемся па ёй. А потым па знойдзенай вяроўцы ўжо з іншага боку хлява спускаемся ў глыбокі снег. Асцярожна аддаляемся ад аховы, праходзім поле. Двое сутак я хаваўся ў нейкай дашчанай будцы. Голад вымусіў шукаць жытло. За полем убачыў вёску. У першай жа хаце мне далі віна і ежы. Вярнуўся ў сваё сховішча. Раніцай нечакана дзверы расчыніліся, і незнаёмы мужчына супакоіў: "Не бойся. Я чэх. Прынясу табе паесці, а ўвечары забяру да сябе…" Так я апынуўся ў вёсцы Велібож, на гарышчы. Калі мне далі брытву і люстэрка, я спалохаўся: у люстэрку ўбачыў нейкага старога. Але праз некалькі дзён ужо спрабаваў маляваць на знойдзенай паперы. Усё мянялася да лепшага. І ўсё ж змушаны быў пакінуць сваіх гасцінных гаспадароў, каб не наклікаць на іх бяду. Схаваўся ў лесе, але наступнай жа раніцай пачуў гук пілы і — зноў апынуўся на гарышчы гасціннай хаты, гаспадар якой паабяцаў мне сустрэчу з партызанамі пасля таго, як трохі акрыяю. Потым я знайшоў прытулак у стозе саломы сярод поля і зноў ўспамінаў трагічныя падзеі, спрабаваў зразумець, чаму заглух рухавік майго танка, думаў пра сваіх загінулых сяброў-аднапалчан. Думаў пра бацькоў, братоў і сёстраў, што жылі ў Оршы.

**— Можа, засталося ў памяці і нешта радаснае?**

— Так. Неяк ля стога, у якім хаваўся, пачуў стук сякеры. Спалохаўся. Але раптам… заспявала дзяўчына. Голас прыгожы. На другі ды на трэці дзень усё паўтарылася. Я перастаў баяцца і ўжо з нецярплівасцю чакаў, калі ж пачую гэты голас. Жыць у стозе стала весялей. З якой радасцю я сам узяўся б за сякеру, каб дапамагчы дзяўчыне нарыхтоўваць галлё. Мне было толькі дваццаць тры гады. Я так даўно не бачыў дзяўчат… Захацелася хоць адным вокам зірнуць на яе. Ноччу з вялікімі намаганнямі прабіўся праз салому на той бок стога, дзе спявала незнаёмка. Аказалася ж — праклаў ход зусім не туды, куды хацеў. Заставалася толькі слухаць спеў. Але аднойчы пачуў моцнае шамаценне саломы. Няўжо разбіраюць мой стог? Бегчы няма куды. Вось-вось абрынецца мая саламяная столь… Трымаю яе спінай. А па спіне — пруткія крокі. Здагадаўся: гэта —дзяўчына, і зараз яна праваліцца да мяне. Але я ўтрымаў "тапатуху". Раптам пачулася ціхае румзанне. Ні стуку сякеры, ні спеваў… Давялося перайсці ў суседнюю вёску. Тут я хаваўся на гарышчы разам з нашым палонным і трыма англічанамі. Неўзабаве надышоў дзень, калі мяне ўзялі на заданне партызаны. Пачалося амаль франтавое жыццё. Чырвоную Армію мы сустрэлі ў Велібожы… А з той дзяўчынай я ўсё ж сустрэўся. Гэта была полька — Казіміра. Такіх прыгажунь раней ніколі не бачыў. "Ты ведала, што я ў тым стозе?" — запытаўся ў яе. — "Ведала". — "А навошта спявала?" — "Для цябе". Я не распытваў, чаму яна ледзь не трапіла ў маё сховішча. Ды яшчэ плакала… Папрасіў на памяць яе фотаздымак. Абяцаў, што абавязкова знайду, прыеду. Ды і сама яна хацела паехаць са мной. Але жыццё распарадзілася па-свойму...

**— З чаго пачынаўся для вас пасляваенны час?**

— Улетку 1946-га скончылася мая вайсковая служба. У Оршы на месцы нашага дома ўбачыў папялішча. Бацькоў знайшоў у Варонежскай вобласці. Віцебскае мастацкае вучылішча не працавала. Давялося заканчваць Растоўскае. Стаў прафесійным мастаком. У 1975 годзе мы ладзілі выстаўку сваіх твораў у Чэске-Будэёвіцэ. Марыў нешта даведацца пра патрыётаў, якія выратавалі мяне, пра Казіміру. Аказалася, што вёсак з назвамі Велібож, Поліцэ — некалькі. І Казіміру Пякальскую не знайшоў…

Часта думаю: лёс бярог мяне. Я прайшоў праз ваеннае пекла, каб яшчэ больш любіць жыццё — такое прыгожае, непаўторнае, што ніякіх фарбаў не хопіць, каб яго ўвасобіць у мастацкіх творах. Але менавіта да гэтага заўсёды імкнуўся.

Мікалай Сцяпанавіч шчодра распарадзіўся сваёй творчасцю. Амаль усе карціны падарыў роднай Оршы і 30 — Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава…

*"Карціна, якую Мікалай Палянкоў пісаў да апошніх дзён свайго жыцця, так і засталася павернутай да сцяны, нясконачанай. Не паспеў. Гэтак жа, як не паспеў атрымаць заслужанае прызнанне. Пасля вайны кожны, хто пабываў у нямецкім палоне, адчуваў да сабе насцярожлівае стаўленне з боку органаў улады. Якія ўжо тут ўзнагароды і афіцыйнае прызнанне! А мастаком ён быў ласкаю Божай. У залаты фонд беларускага жывапісу ўвайшлі яго карціны "Франтавы сон", "Бярозавік", "На роднай зямлі", "Восень на Прыпяці", "Красавіцкі дзень", "Рачныя хвалі", "Подых вясны", "Крыгаход на Сожы", "Майская зеляніна Палесся"… А яшчэ ён быў выдатным партрэтыстам, пакінуў мноства псіхалагічна дакладных выяў тых, з кім сустракаўся не толькі ў роднай Беларусі, але і ў творчых вандроўках па В'етнаме, Індыі, Малайзіі, Сінгапуры…*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Кастуся Дробава

Сёння на радзіме кампазітара Станіслава Манюшкі загучаць галасы пераможцаў Адкрытага конкурсу маладых вакалістаў "Убельская ластаўка", які носіць імя класіка беларускай і польскай музыкі. Традыцыя правядзення гэтага вядомага творчага спаборніцтва, на некалькі гадоў перапыненая з-за фінансавых цяжкасцей, атрымала доўгачаканы і годны працяг. Адраджаючы "Убельскую ластаўку", упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр і Творчы калектыў "Беларуская капэла" скіравалі свае арганізатарскія намаганні на падтрымку талентаў і развіццё нацыянальнага вакальнага мастацтва. Першы (адборачны) конкурсны тур прайшоў у спецыялізаваных навучальных установах краіны. Наступныя два ладзіліся днямі ў БДАМТ. Учора ўвечары журы на чале з прафесарам Віктарам Скарабагатавым, праслухаўшы выступленні больш як 30 выканаўцаў, абвясціла вынікі. Уручэнне ўзнагарод і гала-канцэрт адбудуцца сёння ў Чэрвені. А спачатку, паводле добрай традыцыі, удзельнікі спаборніцтва ды іх педагогі наведаюць адзіны ў свеце музей С. Манюшкі, размешчаны на яго роднай Міншчыне, паблізу ад былой бацькоўскай сядзібы Убель.

Выстаўка фатаграфій "Перажыць перажытае" прадставіла творчасць заслужанага архітэктара Беларусі, лаўрэата Ленінскай прэміі, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, акадэміка Леаніда Левіна. Як лейтматыў яго шматлікіх і разнапланавых работ (праект па дэталёвай планіроўцы і забудове цэнтра сталіцы, удзел у рэканструкцыі гістарычнай часткі Мінска і стварэнні значных скульптурных помнікаў, аўтарства некаторых станцый метрапалітэна) вылучаецца тэма Халакосту і памяці пра бязвінныя ахвяры Вялікай Айчыннай вайны (найярчэйшыя прыклады — мемарыяльныя комплексы "Хатынь", "Яма"). У дзень адкрыцця фотавыстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылася прэм'ера дакументальнай стужкі Белвідэацэнтра "Маналог. Леанід Левін" (рэжысёр А. Леўчык, аўтары сцэнарыя Г. Левіна, В. Крамянецкая, аператар П. Зубрыцкі).



*Заслужаны архітэктар Беларусі Леанід Левін.*

Пяты год запар ладзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі міжнародная выстаўка графікі "Арт-лінія", пацвярджаючы свой статус адной з найбольш значных падзей у нашым мастацкім жыцці. Сёлета яна паяднала творы сучасных мастакоў Беларусі, Бельгіі, Казахстана, Кыргызстана, Польшчы, Расіі, Таджыкістана, Украіны, іншых краін. Асобным складнікам экспазіцыі сталі работы ўдзельнікаў колішніх творчых майстэрняў "Сенеж", прадстаўленыя з прыватнага збору Марчанкаў. У рэтрапраграме "Арт-лініі" — эстампы бельгійскага мастака-сімваліста Felісьена Ропса з фондаў НББ.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ,
фота аўтара

# Мажор без антракту

**Вясну ў Мінск не ластаўкі прыносяць і не першыя кветкі. Вясна прыходзіць разам з "Арт-мажорам"! Традыцыйны фестываль, які аб'ядноўвае студэнцкую моладзь, педагогаў і вядомых выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, штовесну амаль на тры месяцы авалодвае ўвагай шырокага кола гледачоў.**



*Імгненне гала-канцэрта.*

**Свята святам**, але падчас гэтага фестывалю мастацтваў яго ўдзельнікі назапашваюць унікальны практычны досвед, удасканальваюць прафесіяналізм, спасцігаюць тонкасці стасункаў з публікай. Словам, працягваюць вучыцца. "Арт-мажор" займае прыкметнае месца сярод значных падзей жыцця краіны яшчэ і таму, што ён адыгрывае вялікую ролю ў захаванні, развіцці ды распаўсюджванні нацыянальнай культуры і мовы, у духоўнай пераемнасці пакаленняў, ва ўзбагачэнні творчых традыцый беларускага народа і папулярызацыі набыткаў сусветнага мастацтва.

Прадзюсарскі цэнтр "Арт-мажор" БДУ культуры і мастацтваў праводзіць свой фірмовы фестываль ужо дваццаты раз і прысвячае яго Году кнігі. Прысвячэнне зусім не фармальнае, бо на лепшых сталічных пляцоўках ладзяцца не толькі канцэрты кафедраў універсітэта, прэзентацыі калектываў і экспазіцыі твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і выстаўкі кніг. Аднак заўсёднікі фэсту звяртаюць сваю цікаўнасць перадусім на канцэрты. Колькі ўжо адбылося іх: на пляцоўках альма-матар, у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, у Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў і Клубе імя Ф. Э. Дзяржынскага... Кафедра тэатральнай творчасці рыхтавала рэвю "Свет сцэны і па-за сцэнай", кафедра мастацтва эстрады — праграму "Сучасныя тэхналогіі ў беларускай фальклорнай музыцы", кафедра народнаінструментальнай творчасці — канцэрт фальклорнага ансамбля "Баламуты"...

**Саракагоддзю кафедры** харавога і вакальнага мастацтва прысвячаўся вялікі філарманічны вечар з удзелам лепшых творчых калектываў, ганараваных лаўрамі многіх міжнародных фестываляў: канцэртнага хору "Мара", камернага хору "Дабравест", мужчынскага хору "Віват". Адна са старэйшых кафедраў БДУКіМ, яна падрыхтавала нямала высокаадукаваных спецыялістаў у галіне мастацкай творчасці, шчырых руплііўцаў на ніве нацыянальнай культуры.

Між іншым, сярод яе выпускнікоў — і такая адметная асоба, як намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі. А ўзначальвае кафедру харавога і вакальнага мастацтва таленавіты арганізатар, высакакласны хормайстар Альбіна Пякуцька. Уладальніца многіх высокіх тытулаў і прэстыжных узнагарод, яна больш як чвэрць стагоддзя кіруе гэтым найскладаным падраздзяленнем ВНУ і за гэты час зрабіла годны ўнёсак у духоўнае і эстэтычнае выхаванне студэнтаў і слухачоў, паспрыяла адраджэнню і захаванню лепшых спеўных традыцый беларускага народа, умацаванню і ўзбагачэнню дружалюбных інтэрнацыянальных стасункаў праз творчасць.

**Чарадой адметных імпрэз** адзначала сваё 35-годдзе кафедра харэаграфіі — вядучы творчы, метадычны і навуковы цэнтр па падрыхтоўцы спецыялістаў у гэтым прыўкрасным і такім бязлітасна цяжкім мастацтве. Штогод выступленні выхаванцаў гэтай кафедры выклікаюць ажыятаж, праходзяць у перапоўненых залах і, здаецца, раскрываюць саму існасць назвы "Арт-мажор". А сёлета — уявіце размах! — на працягу трох фестывальных дзён адбыліся паказ фальклорнага тэатралізаванага прадстаўлення "У добрым родзе — усё ў згодзе!", падрыхтаванага студэнтамі 3 курса спецыяльнасці "народны танец" паводле матэрыялаў фальклорных экспедыцый кафедры; клас-канцэрты педагогаў цыклавых камісій па харэаграфічных дысцыплінах найлепшых сярэдніх спецыяльных навучальных установаў краіны; актуальная гутарка выкладчыкаў ССНУ і ВНУ ў галіне культуры і мастацтва за "круглым сталом"; гала-канцэрт "Лінія, што адыходзіць у бясконцасць".

Гэты яскравы канцэрт ладзіўся ў апошні красавіцкі вечар на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. У святочнай паліфаніі спалучылася і сустрэча выпускнікоў з пераклічкай прысутных, і падзяка педагогам, і топ-нумары, падрыхтаваныя гасцямі (навучэнцамі ды выкладчыкамі каледжаў з Віцебска, Бабруйска, Гомеля, Гродна, Магілёва...), і лепшыя работы апошніх пяці гадоў, створаныя на славутай кафедры БДУКіМ і ганараваныя як прызнаннем публікі, так і ўзнагародамі міжнародных конкурсаў ды фестываляў. Дзве з лішкам гадзіны без антракту працягвалася чарадзейства сцэнічнага калейдаскопа: класічны вальс, энергічны сімбіёз вулічнай пластыкі, акрабатыкі, брэйк-дансу, класічны рок-н-рол, традыцыйныя народныя скокі, сучаснае прачытанне знаёмай полечкі, пачуццёвы бальны танец, карагод этнічных балканскіх, каўказскіх, паволжскіх матываў... Імёны студэнтаў, імёны майстроў: С. Гуткоўскай, Л. Яфрэмавай, Я. Чарнышовай, Р. Усманава, В. Бляевай, І. Душкевіч... Паклон адной з пачынальніц слаўных спраў кафедры — Юліі Чурко (дарэчы, "Лінія, што адыходзіць у бясконцасць" — гэта і назва адной з яе кніг); авацыя, адрасаваная цяперашняй кіраўніцы кафедры — Святлане Гуткоўскай...

**"Арт-мажор"** завершыцца 25 мая гала-канцэртам. Ён адбудзецца ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры і збярэ ўсё "самае-самае".

# У адведкі да Фердынанда

Яўген ШУНЕЙКА

**Далёка не адразу адбылося ў нашай культурнай свядомасці вяртанне вялікага мастака, арганізатара-адраджэнца творчага жыцця, педагога Фердынанда Рушчыца (1870 — 1936) да вяршынь айчыннага прызнання. Здавалася, што творы майстра, якія экспануюцца ў нацыянальных музеях і галерэях суседніх краін, не мелі ніякіх адносін да яго беларускай малой радзімы. Пачатак усведамлення гэтай непарушнай сувязі паклалі навуковыя даследаванні 1960-х — 1970-х гадоў, ажыццёўленыя дактарамі мастацтвазнаўства М. Кацарам і Л. Дробавым. Пераломным момантам у наладжванні кантактаў паміж беларускай інтэлігенцыяй і сям'ёй нашчадкаў Ф. Рушчыца, якія жывуць у Варшаве, быў візіт дачкі мастака Яніны ў Мінск ў 1990 годзе. З таго часу стасункі не спыняюцца. Але цэнтр такіх беларуска-польскіх сустрэч перамясціўся неўзабаве ва ўтульную вёсачку Багданаў, што ў Валожынскім раёне на Міншчыне.**



*Мемарыяльны знак з выявай Фердынанда Рушчыца.*

Там, у Багданаве, славуты мастак нарадзіўся, правёў самыя натхнёныя часы ў сваім творчым жыцці, там і спачыў навек. У 2000 годзе на яго малой радзіме былі наладжаны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі, а таксама творчай суполкай "Акадэмія" адразу два мастацкія пленэры беларускіх і польскіх мастакоў у памяць пра вялікага творцу пад дэвізам "Зямля і неба Фердынанда Рушчыца". На ўрачыстасці з нагоды адкрыцця тых мерапрыемстваў прыехалі сын і ўнук нашага земляка, пабач з руінамі радзіннай сядзібы Рушчыцаў, знішчанай падчас мінулай вайны, адбыўся нават канцэрт аматарскіх мастацкіх калектываў Валожынскага раёна. Гучалі пранікнёныя словы ўспамінаў мясцовых бабуль, якія не забыліся, як у далёкім дзяцінстве хадзілі на штогодныя святы ў адведзіны да добрага пана Фердынанда, а ён з імі шчыра размаўляў на роднай мове і шчодра частаваў цукеркамі. Удзячныя земляки ўсталявалі пабач з вясковай школай у Багданаве мемарыяльную стэлу ў гонар мастака, а яго імём назвалі вуліцу, што вядзе да аднайменнай чыгуначнай станцыі: гэтай дарогай неадночы хадзіў і сам творца, выпраўляючыся ў блізкі і далёкі свет.

Здавалася, што неўзабаве гэты прывабны куток Міншчыны стане сапраўдным цэнтрам творчых вандровак для шматлікіх прыхільнікаў творчасці Рушчыца з Беларусі, Польшчы, Літвы, Расіі ды іншых краін, дзе шануюць і ведаюць яго вялікую спадчыну. Але нечакана ўзнікла амаль дзесяцігадовая паўза — спад арганізацыйнай актыўнасці ў наладжванні чарговых буйных і масавых мерапрыемстваў. На шчасце, паўза была парушана асабістай ініцыятывай вядомага беларускага скульптара В. Калясінскага і ксяндза-пробашча С. Угоўскага з валожынскага касцёла Святога Архангела Міхаіла. Яны вырашылі на дабрачынных асновах ушанаваць памяць Ф. Рушчыца на тэрыторыі, якая належыць касцёлу, памятнымі знакамі. Быў момант, калі падчас падрыхтоўкі праекта не хапіла сродкаў на адліўку скульптурных кампазіцый з бронзы. Тады на дапамогу



*Рэшткі сямейнай сядзібы Рушчыцаў.*

са сваімі фінансавымі ахвяраваннямі прыйшлі паважаныя варшавяне, унук мастака Фердынанд і яго сын Эдвард. Сёлета 16 красавіка В. Калясінскі ўласнаручна прывёз і ўсталяваў першы знак у інтэр'еры касцёла на бакавым муры паміж гэтак званых "стацый" — абавязковых культавых кампазіцый у каталіцкіх храмах, прысвечаных этапам Крыжавага шляху Ісуса на Галгофу. У мемарыяльнай кампазіцыі В. Калясінскага адлюстраваны партрэты вобраз Ф. Рушчыца ў своеасаблівым картушы, які нагадвае абрысы дрэва пад парывамі ветру. Выразнасць вобразных рысаў абумоўлена, у прыватнасці, тым, што скульптар уважліва вывучаў шматлікія здымкі мастака розных гадоў, створаныя выдатным фотамайстрам Я. Булгакам, а таксама глыбока ўразіўся багданаўскім наваколлем, дзе нібы адчуваецца духоўная прысутнасць самога творцы.

Неўзабаве ў двары касцёла, на тым месцы, з якога Ф. Рушчыц намаляваў у 1899 годзе свой слынны твор "Ля касцёла" (цяпер знаходзіцца ў калекцыі НММ Беларусі), з'явіцца другі знак — у памяць пра стварэнне сапраўднага жывапіснага шэдэўра, а трэці — будзе умацаваная на мураванай агароджы, што была ўзведзена вакол касцёла 110 гадоў таму не без дапамогі сямейства Рушчыцаў, сядзіба якіх знаходзілася непадалёк. Гэтыя мерапрыемствы, на думку новага ксяндза-пробашча І. Лашука, стануць пачаткам больш дынамічнага этапу мемарыялізацыі і добраўпарадкавання прыродных мясцін, якія натхнялі мастака і цудоўным чынам захаваліся з тых далёкіх часоў паабапал вёскі Багданаў. Варта сюды прыехаць, каб пастаяць на даўняй паркавай прысадзе пад бярозаю, якую маляваў сам Рушчыц; з высокага пагорка ля былой сядзібы падзівіцца на далягляды, якія нібы злучаюць усё непаўторнае наваколле; ускласці кветкі да сціплага надмагілля мастака.

Зразумела, за гады "недагляду" павырастаў бyльнёг, з'явілася смецце, памятныя мясціны неабходна прыбраць. Але ёсць надзея, што станоўчы прыклад шчырых энтузіястаў знойдзе шырокую падтрымку ў грамадстве багданаўскія мясціны Фердынанда Рушчыца ўжо не зарастуць "гушчаром бяспамяцтва". Не варта чакаць "дырэктыў" на добрую справу, бясчынна, калі можна ўсё сёння прыкласці да вялікай справы свае працавітыя рукі. І няхай усім нам у гэтым адраджэнні кутка гісторыі і культуры спрыяе памяць пра вялікага мастака, які ўсё сваё жыццё актыўна рупіўся пра росквіт радзімай старонкі.

# Асоба. Кніга. Час

**Канец красавіка ды пачатак мая багатыя на творчыя святы. Заўтра ўсе мы адзначаем Дзень друку, праз колькі дзён — Дзень работнікаў радыё, тэлебачання і сувязі. Відавочна: слова гэтымі днямі — у цэнтры ўвагі грамадскасці.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

"Асоба. Кніга. Час" — так называлася акцыя, праведзеная ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, прысвечаная Сусветнаму дню кнігі і аўтарскага права. Гэта дзень, калі ўвесь свет аб'ядноўваецца, каб сцвердзіць агульначалавечыя каштоўнасці, занатаваныя ў кнігах, ды падкрэсліць мудрую і самаадданую працу майстроў прыгожага пісьменства. А менавіта звярнуць увагу на іх адвечнае права — пісаць таленавіта і злабадзённа, красамоўна і ўзвышана, а перш за ўсё — мець выключнае права на тое. А яшчэ — захаваць права на абнародаванне твора ды на аплату высоканатхнёнай працы.

Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права ў гэтым годзе прысвечаны перакладу. Менавіта пераклад уяўляе сабою адзін з першых крокаў на шляху збліжэння народаў, спрые творчай разнастайнасці. Сёлета таксама спаўняецца 80 год з дня заснавання ўнікальнай базы дадзеных, якая змяшчае ўсе звесткі па перакладах. У базе, паводле слоў старшыні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзіміра Шчаснага, больш як два мільёны запісаў адносна 500 тысяч аўтараў, 78 тысяч выдаўцоў у 148 краінах свету. Найбольш папулярныя аўтары — Агата Крысці, Жуль Верн, Уільям Шэкспір. Актыўна перакладаюць таксама Кафку, Платона, Маркеса. Самымі распаўсюджанымі мовамі, на якія перакладаюць, з'яўляюцца французская, нямецкая, іспанская, а крыніцамі — напісанае на англійскай, французскай, нямецкай, польскай.

Што да роднай мовы, то гасцям акцыі была прапанавана кніжная выстаўка "Хранограф падручніка Беларусі". На ёй — фаліянты розных эпох, вучэбная кніга, якая выдавалася ў нас і за мяжой, але для беларусаў. Самая заўважная частка — "Ля вытокаў вучэбнай кнігі". Наступныя часткі выстаўкі — "Вучэбныя выданні дарэформеннага перыяду", "Вучэбныя выданні савецкага перыяду" — утрымліваюць кнігі не менш цікавыя. Сярод рарытэтаў — "Першае чытанне для дзетак-беларусаў. Напісала Цётка" (Пецярбург, 1906), "Другое чытанне для дзетак-беларусаў. Напісаў Якуб Колас" (Пецярбурх, 1910), К. Езавітаў "Беларуская школа. Першая пасьля Лемантара кніга для чытаньня" (Рыга, 1926), Я. Лёсік "Наша крыніца. Чытаньне для беларускіх школ" (Берлін, 1922).

З больш блізкага да нас часу — "Песнь о книге" — анталогія вершаў пад рэдакцыяй народнага паэта БССР Петруся Броўкі ("Мастацкая літаратура", 1977). Гэта ўнікальны збор твораў, якія прысвячалі кнізе лепшыя паэты свету, сярод іх — Пушкін, Лермантаў, Лафантэн.

"Свет мяняецца, і калі ў мінулых стагоддзях працэс стварэння кнігі расцягваўся на гады, то цяпер за некалькі гадзін можна выдаць новую кнігу. Але… можна вырабіць і "левую" прадукцыю", — зазначыў ва ўступным слове дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі. І ў выніку дабро становіцца злом. Таму ўсім трэба памятаць, што спрычыненыя да выдання і распаўсюджвання кнігі асобы і арганізацыі дзейнічаюць у прававым полі.

Менавіта ў Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права Нацыянальны цэнтр інтэлектуальнай уласнасці ўганараваў граматай лепшую бібліятэку, якая шчыруе ў сферы аховы аўтарскіх правоў — Цэнтральную навуковую бібліятэку Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі імя Якуба Коласа.



*Генеральны дырэктар Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці В. Варанецкі ўручае грамату дырэктару ЦНБ НАН Беларусі Наталлі Бярозкінай.*

У сустрэчы ўзялі ўдзел кампазітар Алег Молчан, аўтар музыкі на купалаўскі верш "Малітва", і дзяржаўны ансамбль "Песняры", які прадставіў дзве новыя песні на словы Янкі Купалы. Музыку для іх напісалі ўдзельнікі ансамбля.

# Знаўца гісторыі Навагрудчыны

**Некаторыя з тых, каму давялося жыць у мястэчку Любча ў 1960-я гг., памятаюць такую карціну: сярэдняга ўзросту мужчына выходзіў на лужок пасвіць казу, а сам, прысеўшы непадалёк, даставаў ручку і паперу ды пачынаў пісаць. Аднойчы, калі гаспадар казы задрамаў на сонейку, тая так зацікавілася ягонай творчасцю, што ўжыла ў ежу рукапіс, які ляжаў побач. Яго аўтар, настаўнік гісторыі ў мясцовай сярэдняй школе, пазней прыпамінаў здарэнне з усмешкай: "Вось, пісаў гісторыю Любчы, ды каза з'ела…"**

**Віктар СВЯКЛА,
навуковы супрацоўнік ЦНБ
НАН Беларусі**

## Бацька школьнага музея

Імя гэтага настаўніка — Мікалай Вінар. Менавіта дзякуючы артыкулам, нарысам, нататкам па гісторыі Навагрудчыны ён заслужыў павагу землякоў. А яшчэ ён вядомы як заснавальнік школьнага гісторыка-краязнаўчага музея ў Любчы, таленавіты педагог, гарачы прыхільнік аднаўлення старажытнага помніка архітэктуры — Любчанскага замка.

Вінар нямала зрабіў як арганізатар экскурсійнай і турысцка-краязнаўчай работы ў школе: акрамя традыцыйных турзлётаў яна стала уключаць і велапрабегі па партызанскіх сцежках, і аўтобусныя падарожжы па Навагрудку і ваколіцах з наведваннем міцкевічаўскіх мясцін, і паездкі ў Мінск, у Брэсцкую крэпасць, нават за межы Беларусі — у Маскву, Ленінград. Быў перакананым прыхільнікам адраджэння Любчанскага замка. Цікавыя і яго метадычныя распрацоўкі ўрокаў гісторыі.

Датай адкрыцця Любчанскага школьнага гісторыка-краязнаўчага музея лічыцца 1964 г. Аднак вядома, што ўжо ў 1961 г. члены краязнаўчага гуртка пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі распачалі збор экспанатаў.

У першыя гады свайго існавання музей змяшчаўся ў двух пакоях Брамнай вежы Любчанскага замка (у новы школьны будынак ён пераехаў толькі ў сярэдзіне 1970-х) і меў два аддзелы: "Далёкае мінулае" і "Аб Вялікай Айчыннай вайне". Самымі каштоўнымі экспанатамі першага з іх сталі археалагічныя знаходкі эпохі неаліту, рэдкія старажытныя манеты, бронзавы флюгер з выявай герба Любчы, які калісьці знаходзіўся на замкавай вежы, метрычная кніга Навагрудскага касцёла 1601 г. Шмат увагі адводзілася славутай любчанскай друкарні XVII ст. У аснову другога раздзела леглі экспанаты, што сведчылі пра барацьбу супраць фашыстаў, якую вялі ў ваколіцах Любчы партызаны брыгады імя Дзяржынскага і першага коннага дывізіёна пад кіраўніцтвам Д. Дзенісенкі.

Пазней у музеі з'явіліся стэнды "Барацьба працоўных за сваё вызваленне" (уключаў фотаздымкі ўраджэнцаў Навагрудчыны — удзельнікаў рэвалюцый 1905 і 1917 гг., мясцовых членаў КПЗБ, лістоўкі, друкаваныя выданні і іншыя дакументы пра дзейнасць падпольных, партыйных і камсамольскіх арганізацый) і "Аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі" (адлюстроўваў будаўніцтва гарадского пасёлка, арганізацыю бліжэйшых калгасаў).

Узнік у музеі і стэнд "А. Міцкевіч — наш зямляк", прысвечаны жыццю і дзейнасці польскага паэта на тэрыторыі Навагрудчыны.

М. Вінар наладзіў кантакты не толькі з рэгіянальнымі арганізацыямі, але і з архівамі ў Гродне і Мінску, з Літоўскай АН, дзяржаўнымі музеямі ў Варшаве, Кракаве і Беластоку, з шэрагам школьных музеяў Беларусі і Украіны. З паездкі ў Польшчу летам 1964 г. прывёз каштоўныя экспанаты, якія адносіліся да гісторыі Навагрудчыны.

Музей, створаны Вінарам, хутка набыў славу аднаго з лепшых школьных музеяў Гродзеншчыны. Цікавіліся пачынаннем Мікалая Андрэевіча і шмат у чым дапамагалі заслужаны настаўнік БССР, заснавальнік народных краязнаўчых музеяў у Валеўцы, што на Навагрудчыне, і ў Дзятлаве Міхаіл Петрыкевіч, таленавіты мастак-аматар і калекцыянер рарытэтаў, звязаных з гісторыяй навагрудскага краю, Раман Лецка, вядомы айчынны археолаг, нараджэнец суседняй Іўеўшчыны Леанід Побаль, мінскі збіральнік кніжных рэдкасцей Лявонцій Клок.

## Любчанскі летапісец

Дзве знаходкі Вінара звязаны са знакавымі датамі любчанскай гісторыі — узнікненнем самога паселішча і будаўніцтвам замка.

Сучасныя даведнікі і энцыклапедыі сцвярджаюць: першая згадка Любчы ў пісьмовых помніках адносіцца да 1401 г. і звязваецца з ваеннымі паходамі немецкіх крыжакоў. Вінар жа адшукаў больш ранняе ўзгадванне пра мястэчка — ў кнізе В. Ластоўскага "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Ластоўскі прыводзіць звесткі пра датаваны 1241 г. манускрыпт на пергаменце пад назвай "Написания Афанасия мниха к Панкови…", напісаны "рукою шматгрэшнага дзяка Мікіты з Любчы". 1241 г. як дату ўзнікнення Любчы Вінар прыводзіць і ў сваім гісторыка-эканамічным нарысе, і ў больш раннім артыкуле "Пасёлку Любча — 700 год" (1961). Гэтая дата пераклікаецца са сцвярджэннем Т. Нарбута пра тое, што ў сярэдзіне XIII ст. у Любчы ўжо існавала рэзідэнцыя біскупа Віта і дамініканскі сабор, дзе, магчыма, у 1250 г. хрысціўся ў каталіцкую веру Міндоўг, а таксама з паэтычнымі радкамі У. Сыракомлі:

*…Як адмовіцца ад наведвання Любчы,*
*Дзе ў глыбокай старажытнасці*
*быў сабор,*
*Дзе ў паганскай Літве часоў Міндоўга*
*Высока нёс біскупскую годнасць*
*Віт Дамініканін.*

Выказанае Вінарам меркаванне пра тое, што Любча існавала яшчэ ў сярэдзіне XIII ст., мае прыхільнікаў і сярод сучасных гісторыкаў.

Другая знаходка з'яўляецца ледзь не ідэальным пацвярджэннем першай. На згаданым вышэй флюгеры з вежы Любчанскага замка Вінар убачыў лічбы — "1281". Мікалай Андрэевіч так і не змог вытлумачыць гэтую дату, якая зусім не стасавалася з вядомымі звесткамі з гісторыі замка. Ён лічыў (відаць, да канца сваіх дзён), што 1281 г. — час з'яўлення больш ранняй пабудовы, якая існавала на месцы замка. Разгадку ж надпісу лёгка знайшлі гісторыкі: Вінар памыляўся ўсяго на адну лічбу — і на цэлыя тры стагоддзі. Годам узнікнення Любчанскага замка сёння лічыцца 1581 г.

## Спадчына і спадкаемцы

Дакументы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці краязнаўцы з Любчы, можна знайсці ў розных дзяржаўных сховішчах Беларусі: Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, у Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Любчанскай гарпасялковай бібліятэцы. Што датычыць першай з названых устаноў, то сюды ў хуткім часе пасля смерці Вінара трапілі дакументы з яго асабістага архіва: біяграфічныя матэрыялы, манаграфіі пра Любчу і Навагрудак, артыкулы, нататкі, нарысы, перапіска, фотаздымкі, калекцыя прац розных аўтараў па гісторыі Навагрудчыны, сабраная Вінарам.

Не загінулі і добрыя справы і пачынанні Мікалая Андрэевіча. Музей Любчанскага краю, які калісьці мясціўся на невялічкай плошчы ў замкавай вежы, сёння носіць званне народнага і займае прастору ў 450 кв.м, на якой змяшчаецца восем аддзелаў. Многія з іх тэматычна блізкія да тых, што існавалі яшчэ ў часы Вінара, але ёсць і новыя, у прыватнасці, "Гісторыя школы" і "Скульптурны" (у яго аснове — працы скульптара і майстра разьбы па камені Віктара Гроса, які нарадзіўся ў недалёкіх ад Любчы Дзяляцічах). У 2010 г. Навагрудскі райвыканкам уключыў імя краязнаўца ў раённую Кнігу славы.

Шануюць імя свайго бацькі і дзеці Мікалая Андрэевіча — дочкі Ала і Тамара ды сын Валерый. Другая дачка Вінара, кандыдат медыцынскіх навук Тамара Сярова, ажыццяўляе адно з даўніх бацькавых спадзяванняў, з'яўляючыся членам апякунскай рады Дабрачыннага фонду "Любчанскі замак". А ўзначальвае фонд Іван Пячынскі — былы любчанскі школьнік з няблізкіх ужо 1960-х, калі пачынаў сваю дзейнасць па стварэнні школьнага музея Мікалай Вінар.

# 20 гадоў маладосці

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

**Канферэнцыя "Бібліятэчная супольнасць Беларусі: сучасны стан і перспектывы развіцця" расставіла асноўныя акцэнты ў існаванні двух катэгорый беларусаў: тых, хто чытае, і тых, хто можа дапамагчы ім у выбары літаратуры.**

## Будучыня не настане, калі не прымем мер!

Як вядома, бібліятэкі сёння імкнуцца так арганізаваць сваю працу, каб было зручна ўсім. Таму на канферэнцыі, якая прысвячалася 20-годдзю з дня заснавання прафесійнага грамадскага аб'яднання "Беларуская бібліятэчная асацыяцыя", гаварылі пра тое, што яшчэ належыць удасканаліць.

Апярэдзіўшы ход дыскусій, спашлюся на дырэктара Фундаментальнай бібліятэкі Белдзяржуніверсітэта, ганаровага старшыню Савета Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Пятра Лапо, які выступаў пры канцы і ў нейкім сэнсе рэзюмаваў сказанае. Ён прапанаваў памяняць мову… а больш — яе стылістыку, тэрміналогію ды акцэнты, каб пераканаўча сведчыць пра сённяшні стан кніжніц. Варта гаварыць пра тое, што бібліятэкі сёння — захавальнікі і абаронцы культуры; прыхільнікі дасягнення гармоніі ў ланцужку "чалавек — грамадства — прырода"; дарадцы чалавеку ў пошуку яго шчасця. І што адна з галоўных задач кніжнай справы — абуджаць волю чалавека, каб пакінуць свой след на зямлі. Менавіта прыярытэты, якія называюць карыстальнікі кніжніц, трэба ўлічваць у працы.

Да ведама: у Беларусі цяпер 9 200 бібліятэк, якія абслугоўваюць 40 працэнтаў насельніцтва.

Падчас працы канферэнцыі адбылося ўрачыстае падпісанне пагадненняў аб супрацоўніцтве з бібліятэчнымі асацыяцыямі Расіі і Украіны. У канферэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, дэлегаты бібліятэк Беларусі і замежных краін.

Але прадаставім слова ўдзельнікам.

## Родам з двух стагоддзяў

*Старшыня Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі, дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна Наталля ЧУЕВА:*

— Мы падвялі вынікі дзейнасці Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі. Нягледзячы на малады, 20-гадовы ўзрост, асацыяцыя існуе ў сваім ужо другім стагоддзі: стваралася ў ХХ, працуе ў ХХІ. Памятаю май 1992 года — калі толькі пачыналі працу. Ініцыятыўная група, куды ўваходзілі выкладчыкі Мінскага інстытута культуры, сярод якіх Мікалай Іваноў, Васіль Лявончыкаў, дырэктары буйных рэспубліканскіх бібліятэк, прапанавалі стварыць ББА, правялі ўстаноўчы сход. Ён бурліў эмоцыямі — абмяркоўвалася, якой быць асацыяцыі, складалі і рэдагавалі праект статута, вызначалі першачарговыя задачы. За гады шмат якія задумы рэалізавалі. Значныя моманты гэтай працы — пераадоленне міжведамасных бар'ераў і кансалідацыя супрацоўніцтва. У 1990-я мы не былі нават знаёмыя, не гаварачы пра нейкае карпаратыўнае ўзаемадзеянне. Устаноўлены кантакты з органамі дзяржаўнага кіравання, шмат зрабілі па фарміраванні прававога поля. Адна з іх рысачак — Закон аб бібліятэчнай справе, які мы распрацавалі ў рамках асацыяцыі (пасля ён быў падпісаны на дзяржаўным узроўні), прапанавалі многія пытанні праграмы "Культура", разлічанай да 2015 г., ініцыіравалі дзяржаўнае свята — Дзень бібліятэк. Вялікая мара была — мець свой друкаваны орган. І быў выдадзены першы часопіс "Бібліятэчны свет", а за ім — "Бібліятэка прапануе". Актыўна развіваюцца міжнародныя стасункі, цяпер мы з'яўляемся членамі IFLA, супрацоўнічаем з культурнымі цэнтрамі, якія ёсць у Беларусі. І трэба асобна адзначыць нашыя штогадовыя візіты ў краіны Еўропы — больш як 350 чалавек з розных кніжніц краіны ўдзельнічалі ў паездках і наведалі буйнейшыя бібліятэкі Францыі, Германіі, Швецыі, Даніі, Польшчы, Італіі, Чэхіі і многіх іншых еўрапейскіх дзяржаў. Мы набылі цікавы вопыт, з'явіліся інавацыі. Нельга не згадаць форумы бібліятэкараў Беларусі. Першы адбыўся тры гады таму, а ў 2011 годзе прайшоў другі форум. Мы ўзнімалі на іх шматлікія праблемы бібліятэчнай галіны. І шмат якія пытанні вырашыліся на дзяржаўным узроўні.

## Мы і IFLA

*Першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па абслугоўванні карыстальнікаў і ідэалогіі, кандыдат педагагічных навук Алена ДАЛГАПОЛАВА:*

— Можна сказаць, што Беларуская бібліятэчная асацыяцыя стабільна развіваецца. 20 гадоў — той перыяд, калі любое грамадскае аб'яднанне альбо спыніць сваё існаванне, альбо зойме трывалую пазіцыю ў сваёй прафесійнай супольнасці. У Беларусі мы змаглі не толькі захаваць, але і прымножыць традыцыі асацыяцыі. На сёння яна аб'ядноўвае больш як 2 тыс. індывідуальных членаў — гэта найбольш актыўныя спецыялісты. Яны займаюць акцыямі і праектамі, якія садзейнічаюць развіццю бібліятэк Беларусі.

Цяпер у адносінах да кніжніц назіраецца пэўная супрацьлеглáсць. З аднаго боку, грамадства прызнае іх сацыяльную значнасць як важкага інстытута па захаванні і перадачы ведаў. З іншага, бібліятэкі ва ўсім свеце адчуваюць складанасці, звязаныя з фінансаваннем, укараненнем інфармацыйных тэхналогій. І таму прафесійныя аб'яднанні ствараюцца ва ўсіх краінах. Больш таго, у сусветным маштабе існуе міжнародная федэрацыя бібліятэчных асацыяцый — IFLA. Яна штогод праводзіць канферэнцыю, дзе прадстаўнікі кніжніц розных краін абменьваюцца вопытам і падыходамі рашэння існуючых праблем, а таксама выпрацоўваюць перспектыўныя кірункі, па якіх мусяць ісці бібліятэкі ўсяго свету. Мы таксама з'яўляемся членамі IFLA, прытрымліваемся яе рэкамендацый.

Але міжнароднае партнёрства найлягчэй ажыццяўляць з нашымі бліжэйшымі партнёрамі — Украінай і Расіяй. Гэта постсавецкая прастора вельмі блізкая па стане і ўзроўню аўтаматызацыі, па складзе інфармацыйных рэсурсаў. Таму, абменьваючыся досведам, мы знаходзім новыя шляхі для вырашэння пытанняў.

І, бясспрэчна, трэба разумець, што бібліятэка — установа культуры. Адпаведна яна трансліруе культурныя каштоўнасці свайго народа ў міжнародны кантэкст. Таму супрацоўніцтва паміж асацыяцыямі — гэта яшчэ і магчымасць абмену культурнымі праектамі і каштоўнасцямі.

**— Алена Ерамееўна, калі гаварыць больш прадметна: чым можа быць нам карысны вопыт расійскай бібліятэчнай асацыяцыі? Вось, да прыкладу, па аўтаматызацыі. Прагучала цікавая лічба: у Расіі толькі 45 працэнтаў бібліятэк падключана да інтэрнэту…**

— У нас такая ж сітуацыя. Але можна павучыцца ў расіян: звярнуць увагу на іх вопыт падрыхтоўкі і распрацоўкі рэкамендацыйных стандартаў. Укараненне новых інфармацыйных тэхналогій і ў Расіі, і ва Украіне, і ў нас ідзе не тымі тэмпамі, якіх патрабуе грамадства. Таму рэкамендацыйныя стандарты даюць тую базу, дзякуючы якой бібліятэкары могуць рабіць крокі наперад, не чакаючы, што нешта прыйдзе зверху ў выглядзе дзяржаўных нарматыўных дакументаў.

Немагчыма прыўнесці нешта новае ў прафесію, не валодаючы новымі ведамі. Але цяпер усё ча-



сцей гавораць пра адукацыю праз усё жыццё. Удзел у канферэнцыях і "круглых сталах", якія праводзяцца ў іншых краінах, — гэта таксама магчымасць атрымаць новыя веды.

**— А чым адметная бібліятэчная асацыяцыя Украіны?**

— Яе вопыт карысны найперш з пункту гледжання таго, як ва Украіне развіваюць інфраструктуру сваёй арганізацыі. Рэгіянальныя аддзяленні асацыяцыі развіваць дастаткова складана.

**— Якімі вам бачацца перспектывы развіцця бібліятэк і асацыяцыі — на рэспубліканскім, абласным і рэгіянальным узроўнях?**

— Нацыянальныя і рэспубліканскія бібліятэкі па інфармацыйна-тэхналагічным крытэрыі з'яўляюцца найбольш развітымі. Яны маюць якасныя інфармацыйныя рэсурсы, добрыя магчымасці для прадастаўлення паслуг не толькі фізічным, але і аддаленым карыстальнікам. У рэгіёнах рэсурсная і тэхналагічная база намнога слабейшая. Таму трэба найперш развіваць публічныя бібліятэкі ў рэгіёнах, каб жыхары Беларусі мелі роўныя магчымасці па доступе да інфармацыі незалежна ад таго, дзе жывуць яны у маленькай вёсачцы альбо ў мегаполісе.

**— Але ў Беларусі распачынаецца працэс інтэграцыі школьных і сельскіх бібліятэк. Чым ён можа стаць для кніжніц?**

— Працэс інтэграцыі розных відаў бібліятэк адбываецца не толькі ў нас. Калі абмяркоўваюцца падобныя пытанні, на іх глядзяць у маштабах краіны. З пункту гледжання рацыянальнага выкарыстання фінансавых сродкаў, арганізацыі кадравай палітыкі. Важна, каб выпрацоўка гэтых варыянтаў была карысная насельніцтву. У нас існуюць ужо гібрыдныя формы бібліятэк, такія, як бібліятэка-клуб, бібліятэка-музей. А пытанні аб'яднання школьных бібліятэк і публічных абмяркоўваліся на нарадзе ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Нас вельмі радуе, што органы кіравання прыслухоўваюцца да меркаванняў бібліятэкараў. Школьная бібліятэка забяспечвае абслугоўванне школьнікаў. Але ўявіць, што яна стане абслугоўваць насельніцтва ўсёй вёскі, складана. Паколькі яна знаходзіцца на тэрыторыі школы, мае трошкі іншыя функцыі.

У той час як публічная бібліятэка арыентаваная на абслугоўванне ўсяго насельніцтва. Таму мы спадзяёмся, што калі такі эксперымент адбудзецца, спачатку будуць пробныя варыянты. І толькі пасля пачне ажыццяўляцца распаўсюджванне яго на краіну.

## Чытай! Фармат не мае значэння!

*Кандыдат педагагічных навук, прафесар, заслужаны работнік культуры Украіны, член Прэзідыума Украінскай бібліятэчнай асацыяцыі Вера ЗАГУМЕННАЯ:*

— У нас ёсць адукацыйныя праграмы — арганізацыя семінараў, трэнінгаў для бібліятэкараў. Гэта як адмысловая паслядыпломная адукацыя, павышэнне кваліфікацыі. Адна з формаў, якую актыўна выкарыстоўваем, — прафесійны турызм. Мы выязджаем у розныя краіны, вывучаем іх досвед, укараняем у сябе найбольш зручнае. Вось, з 2008 года некалькі разоў прыязджалі ў Мінск — з тым каб азнаёміцца з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Мы ва Украіне таксама хочам, каб пабудавалі нешта падобнае. Цікавіць арганізацыя інфармацыйнай прасторы, тэхналогіі, якія выкарыстоўваюцца ў бібліятэцы. Захапляемся вашай Нацыянальнай бібліятэкай.

**— Для нас цікавы вопыт правядзення ва Украіне Міжнароднай крымскай бібліятэчнай канферэнцыі…**

— Так, падчас канферэнцыі украінская бібліятэчная асацыяцыя арганізуе цікавыя сустрэчы. Летась раіліся, як дзейнічаць па развіцці магутных бібліятэчных асацыяцый. Пазалетась наша імпрэза прысвячалася адвакацыйнай дзейнасці бібліятэк, гэта значыць — абароне іх дзейнасці.

Імкнёмся як мага больш лабіраваць становішча бібліятэкі ў грамадстве. Трэба гаварыць праўду: бібліятэкі маюць нізкі статус у грамадстве. А як узняць імідж? У нас штогод запар Дзень бібліятэк святкуецца трошкі інакш, чым падчас яго заснавання. Калі раней ён успрымаўся як свята супрацоўнікаў, то цяпер мы аб'яўляем дзень адчыненых дзвярэй, у бібліятэку можна бясплатна запісацца, азнаёміцца з фондамі. Перад нашымі будынкамі ходзяць студэнты з плакатамі, слоганамі.

Дарэчы, слоганы з'яўляюцца зусім нечаканыя. Да прыкладу, у своеасаблівым "сусветным кафэ" ён такі: "Чытай! Фармат не мае значэння!" Альбо "Бібліятэка, ствары сваю будучыню!"

## Парушыць бар'еры

*Адказны сакратар Расійскай бібліятэчнай асацыяцыі, загадчык сектара прававога забеспячэння дзейнасці бібліятэк Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі Алена БАРЫСАВА:*

— Мне падаецца, культурная супольнасць Беларусі і Расіі цесна знітаваныя. Вельмі падобныя ўмовы. І нам трэба рашаць агульныя пытанні. Мы маладзейшыя за Беларускую бібліятэчную асацыяцыю на некалькі гадоў. І цяпер вельмі актыўна займаемся гарманізацыяй расійскага заканадаўства з бібліятэчным. Вельмі добрыя законы прымаюцца, але яны не заўсёды ўлічваюць інтарэсы бібліятэк. Калі закон пачынае дзейнічаць, бібліятэкі сутыкаюцца з нейкімі бар'ерамі. Да прыкладу, калі ўступіў у дзеянне грамадзянскі кодэкс, тая яго частка, якая датычыць аўтарскага права, то наша дзейнасць практычна была паралізаваная. Вельмі абмежаванаю стала дзейнасць з лічбавымі дакументамі. Аказалася, карыстальнікі могуць працаваць з імі толькі ў сценах бібліятэкі. А выдаваць мы не маем права. Але калі чытач прывык свабодна карыстацца такімі дакументамі, то гэтая норма проста адварочвае яго ад кніжніцы. Норма не ўлічвала і катэгорыю людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Сляпыя людзі і тыя, хто дрэнна бачыць, заўсёды бралі дакументы дадому. Натуральна, што забарона стала яшчэ адной іх праблемаю. На шчасце, па ініцыятыве Дзмітрыя Мядзведзева ў Расіі створана камісія, якая прымала ўсе прапановы і заўвагі. У нас адкрылася магчымасць звярнуцца, асацыяцыя выйшла з прапановамі па ўдасканаленні некаторых палажэнняў, і нас пачулі. Цяпер на разглядзе — абноўлены праект. Мы спадзяёмся, што яго прымуць ды праблемы бібліятэк будуць вырашаны.

**На працягу больш як чатырох дзясяткаў гадоў Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны, што ў Лондане, узбагачаюцца свежымі беларускімі выданнямі. Раней "Скарынаўка" плённа супрацоўнічала з Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Апошнім часам сувязі аслабелі. Але беларусы замежжа па-ранейшаму трымаюць у руках навінкі роднай літаратуры.**



*На прыступках "Скарынаўкі" Адам Мальдзіс з англійскай паэткай, перакладчыцай, журналісткай Верай Рыч, 1989 г. (фота з асабістага архіва А. Мальдзіса).*

# Адам Мальдзіс і «Скарынаўка»

Вікторыя ПЯТКЕВІЧ

Актыўна садзейнічае гэтаму вядомы літаратуразнаўца, журналіст, пісьменнік Адам Мальдзіс. Ён збірае мастацкую літаратуру, мовазнаўчыя і гістарычныя выданні, часопісы, каб пасля перасласць іх у Лондан. Калі айчынныя літаратары дораць яму свае кнігі, Адам Іосіфавіч звычайна дзякуе: "Вашу кнігу я і ў бібліятэцы знайду. Лепш падпішыце ў "Скарынаўку". Туды ўся Заходняя Еўропа прыязджае чытаць!"

Надзейным злучальным ланцужком паміж родным словам, выдадзеным у Беларусі, і беларускай дыяспарай у Лондане стаў дабрачынны фонд "Сакавік" на чале з унучкай Якуба Коласа Марыяй Міцкевіч. Дабрадзеі гэтага фонду дастаўляюць з Вялікабрытаніі грузы з медыцынскай дапамогай пацярпелым у Чарнобыльскай аварыі, з Беларусі едуць таксама не з пустымі рукамі — вязуць кнігі для "Скарынаўкі".

Адам Мальдзіс добра ведае, што найбольш цікавіць чытачоў "Скарынаўкі". Ён асабіста наведваў Лондан чатыры разы і карпатліва вывучаў фонды бібліятэкі.

— Як ехаў першы раз (а гэта было ў 1982 годзе), трошкі пабойваўся, — падзяліўся ўспамінамі Адам Іосіфавіч. — Амаль не ведаў англійскай мовы, ды і Англія малявалася ў савецкай краіне чорнымі фарбамі. Выклікаў мяне загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Іван Антановіч і наказаў: "Збірайся, Адаме, у логава імперыялізму. Трэба паглядзець, што ёсць цікавага ў Беларускай бібліятэцы ў Лондане". Для гэтай работы мне выдзелілі стыпендыю ЮНЕСКА.

Першая паездка была плённая на працу і багатая на ўражанні. Ехаў Адам Мальдзіс як вядомы навуковец, даследчык, супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі. Кіраўнік бібліятэкі Аляксандр Надсан прапанаваў яму прачытаць лекцыю, прааналізаваць свае кнігі, даказаць уласную пазіцыю ў дачыненні да беларускай літаратуры, гісторыі…

У "Скарынаўцы" Адам Іосіфавіч нястомна вывучаў каштоўныя рукапісы Купалы і Коласа, успаміны Уладзіміра Адамава пра Максіма Багдановіча, запісы Кветкі Вітан пра Браніслава Тарашкевіча, Максіма Гарэцкага, Цётку. Вялікую ўвагу ўдзяліў эміграцкай перыёдыцы, тады зусім не вядомай савецкім грамадзянам. А таксама скрупулёзна даследаваў літаратуру, якой у той час на Радзіме было не знайсці. У прыватнасці, яшчэ ў 80-я гады яму давялося трымаць у руках польскамоўныя творы Аляксандра Рыпінскага, рукапісны зборнік вершаваных твораў беларускага паэта Янука Касцевіча, нататкі пра падарожжы па Беларусі нямецкага пісьменніка і асветніка Хрысціяна Шлегеля. Вынікам знаёмства са "Скарынаўкай" стала кніга Адама Мальдзіса "З літаратуразнаўчых вандраванняў", дзе аўтар апісаў усе значныя знаходкі.

Пасля Адам Іосіфавіч тройчы вяртаўся да скарбаў гэтай бібліятэкі. За гэты час завязалася цеснае супрацоўніцтва і сяброўства людзей, якія жывуць у розных краінах, але аднолькава рупяцца на ніве беларускасці.

У апошнія гады сустрэчы часцей адбываюцца ў нашай краіне. Беларусы з Лондана рэгулярна наведваюць Мінск. Акрамя таго, узнікла ідэя сумесна стварыць англа-беларускі цэнтр.

— З беларускага боку на чале яго можа быць Інстытут культуры Беларусі або Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, а з заходняга — Англа-беларускае навуковае таварыства на чале з прафесарам Джымам Дынглі, — тлумачыць Адам Іосіфавіч і выказвае ўпэўненасць, што такі цэнтр дапаможа кансалідаваць беларусаў нашай краіны і Вялікабрытаніі, зацікавіць моладзь.

**Даведка "ЛіМа":**

Беларуская бібліятэка і музей імя Францыска Скарыны ў Лондане афіцыйна адкрыты 15 мая 1971 года. Аснову "Скарынаўкі" складаюць прыватныя зборы беларускіх святароў Чэслава Сіповіча, Льва Гарошкі, Аляксандра Надсана. Сёння ў яе фондах захоўваецца каля 40 тысяч выданняў. Тут можна адшукаць рэдкія кнігі, рукапісы беларускіх пісьменнікаў, каштоўныя дакументы. Узначальвае бібліятэку Рада, якая складаецца з дзеячаў беларускай эміграцыі і англійскіх вучоных. Старшынёй Рады з 1971 года і па сёння з'яўляецца святар Аляксандр Надсан.

# Хто трапіў на калінкавіцкі Парнас?

**Што ўплывае на ўспрыманне літаратуры? Адказ на гэтае пытанне наўпрост залежыць ад геаграфіі Беларусі. Згадзіцеся, на сталічных аматараў прыгожага пісьменства ўплывае шэраг праяў літаратурнага і калялітаратурнага жыцця: наяўнасць профільных выданняў і навучальных устаноў, шматлікія прэзентацыі, вечарыны, сустрэчы, а таксама самі пісьменнікі, большасць з якіх жыве менавіта ў Мінску. А вось як успрымаецца беларуская літаратура з раённага цэнтра? Што там чытаюць? З Валянцінай Кіпер, дырэктарам Калінкавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі, паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Для большасці беларусаў Калінкавічы цесна звязаныя з суседнім Мазыром. Сапраўды, адлегласць паміж двума гарадамі складае ўсяго 14 км. Нездарма пісьменнік Андрэй Федарэнка, які ў свой час вучыўся ў горадзе над Прыпяццю і працаваў у Калінкавічах, пісаў, што для тых, хто ведае абодва гарады, розніцы паміж імі няма.

Для 38-тысячнага раённага цэнтра бібліятэка, што існуе з 1924 года, — адзін з галоўных культурных асяродкаў. Часткова на сітуацыю ўплывае адсутнасць "канкурэнцыі": асобнай кнігарні ў Калінкавічах няма. Паліцы з выданнямі займаюць толькі палову плошчы аднаго з магазінаў. Зрэшты, існуе і іншы фактар. Моладзь скіравалася ў віртуальны свет, а ў бібліятэках пачала дамінаваць аўдыторыя пасля 50 гадоў. Заўважу, што частка з іх наўрад ці пажадае аваладваць камп'ютарнымі тэхналогіямі. Таму менавіта гэта катэгорыя чытачоў у бліжэйшы час будзе вызначаць "твар" бібліятэкі і ўплываць на запатрабаванасць той ці іншай літаратуры.



*Валянціна Кіпер, дырэктар Калінкавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі.*

Сегмент чытачоў (дарэчы, за мінулы год 4,9 тысячы жыхароў наведалі бібліятэку больш як 26 тысяч разоў) можна падзяліць на дзве няроўныя катэгорыі. Да першай, якая складае не больш як 10 працэнтаў, адносяцца людзі, якім не патрабуецца парада супрацоўнікаў установы. Яны звычайна добра ведаюць, што жадаюць заказаць. Другая катэгорыя — чытачы, якім трэба парада. Большасць не мае часу для ўласнага выбару, у іншых няма жадання шукаць.

Адпаведна, кожная катэгорыя мае сваё ўпадабанае кола аўтараў і твораў. Каго можна аднесці да першай групы? Навучэнцаў, якія замаўляюць праграмныя творы, што вывучаюцца ў курсе літаратуры. Пенсіянераў, якія дастаткова актыўна чытаюць творы па-беларуску (на апошнюю акалічнасць уплывае той факт, што яны заканчылі беларускія класы ці школы, таму добра ведаюць мову). А таксама мясцовых творцаў, іх прыхільнікаў ды проста аматараў добрай кнігі.

З 2009 года на базе бібліятэкі дзейнічае клуб аматараў паэзіі "Бумеранг", які ўзначальвае мясцовая настаўніца рускай мовы і літаратуры Святлана Крупіна. Пасяджэнні звычайна праходзяць раз на два месяцы. Актыў складаюць 12 — 13 чалавек, на кожнай сустрэчы да іх далучаюцца іншыя наведвальнікі. Удзельнікі "Бумеранга" чытаюць свае новыя творы, абмяркоўваюць творчасць калег. Больш даўнюю гісторыю мае літаратурна-музычная гасцёўня, якая існуе ў сценах бібліятэкі з 1987 года. Дзякуючы ёй жыхары Калінкавіч сталі ўдзельнікамі сустрэч з Віктарам Карамазавым, Уладзімірам Ліпскім, Соф'яй Шах, Сяргеем Трахімёнкам, Юрыем Татарынавым.

Чытачы другой катэгорыі аддаюць перавагу дэтэктывам і жаночым раманам. Зрэшты, памыляецца той, хто зусім не звязвае з такой аўдыторыяй сваіх надзей на пашырэнне ўплыву "сур'ёзнай літаратуры". Супрацоўнікі бібліятэкі ўпэўненыя, што галоўная рэклама любых кніг — жывая гутарка, якая часам адыгрывае больш істотную ролю, чым аб'явы на дошцы інфармацыі і ў мясцовым друку.

Якімі кнігамі сучасных айчынных творцаў цікавяцца ў калінкавіцкай бібліятэцы? Тут найбольш запатрабаванымі з'яўляюцца раманы Наталлі Батраковай "Территория души", "Площадь согласия", "Миг бесконечности"; лірыка Міхася Башлакова; цыкл раманаў Андрэя Вароніна, што стварaўся шэрагам беларускіх літаратараў; "Предание о Нальшанах. Довмонт" Паула Гацілава; "Паміж кубкам і вуснамі" Казіміра Камейшы; "Одиночество в раю" Сяргея Клімковіча; "Сіняе лета" Леаніда Левановіча; "Идиотки" Тамары Лісіцкай; "Хто мы? Адкуль мы?", "Златавуст з Турава" і "Серенада под сенью столетий" Алеся Марціновіча; "Танцевальный марафон" Віктара Праўдзіна; "Афганское эхо" Рыгора Сакалоўскага; "Дзве зары" Алега Салтука; "Княгиня Менжинская" Юрыя Татарынава і "Нічые" Андрэя Федарэнкі.

Магчыма, у будучым на ажыўленне цікавасці да літаратуры паўплывае буккросінг. Але пакуль чытачы бібліятэкі ставяцца да такой з'явы насцярожана. Таму са 190 кніг, што знаходзяцца ў адкрытым доступе для буккросінгу, сваіх часовых гаспадароў пакуль знайшлі толькі 30. Зрэшты, падарожжа літаратуры па Калінкавічах толькі пачынаецца і, упэўнены, абавязкова будзе мець працяг.

*Першы крок*

# Дзякуй за тое, што чытаюць!

**Успаміны пра першую кніжніцу, якія сталі асобнай рубрыкай “Бібліятэчнага сшытка”, гэтым разам выклікалі ўразмове працяг. Бо нечакана пачула фразу-характарыстыку чалавека, які, маўляў, “не толькі займаецца кнігамі, але і чытае іх”.**

**Насамрэч (і на шчасце) шмат людзей, якія *займаюцца* выданнем кніг і іх распаўсюджваннем: пішуць, рэдагуюць, афармляюць, ствараюць макеты, знаходзяць грошы на выданне, паперу. Далучаюць партнёраў, якія друкуюць кнігі, і тых, хто возьмецца іх прадаваць… Што ж думаюць пра сучасную кнігу прафесіяналы кніжнага бізнесу? Хто ў многім фарміруе нашыя хатнія бібліятэкі? Якім аўтарам аддаюць прыярытэты, працуючы ў недзяржаўным сектары кніжнага рынку?**

**Сёння сваімі назіраннямі і досведам дзеліцца начальнік аддзела рэалізацыі выдавецтва “Попурри” Уладзімір Літвак:**

Ірына ТУЛУПАВА



— Першая мая бібліятэка была побач з домам. Гэта ўскраінны раён Мазыра, у якім дзіцячая бібліятэка знаходзілася на другім паверсе ў клубе, і ўсе мы хадзілі туды. Кніга, якая мне запомнілася з дзяцінства і якую я самастойна прачытаў, — “Ветер рвет паутину” Міхаіла Герчыка. Вельмі яна мне прыйшлася да душы. Дома бібліятэка была невялікая, паколькі кніжную шафу паставіць не было куды. Але памятаю, як сам пачаў хадзіць у кнігарню. Па аўторках быў прывоз, і ў абед туды выстройвалася вялікая чарга. Першы раз у тую чаргу я патрапіў класе ў пятым. І гэтае ўражанне, калі людзі скуплялі кнігі, запомнілася надоўга. Але і кнігі былі выдатныя. Тады і Дастаеўскага хапалі з паліц, і ўсё тое новае, што выходзіла.

Былі яшчэ школьная бібліятэка і бібліятэка раённая. Таму далёка ў горад я не выходзіў: хапала таго, што мог узяць блізка каля дома. Браў адразу з дзясятак кніг. Чытаў не скажу што запоем, але без кнігі не заставаўся ніколі.

Цяпер чытаю розную літаратуру. Люблю фантастыку, і дэтэктывы, і пазнавальную, аўтабіяграфічную літаратуру. Цікавіць гісторыя. Але асаблівага, вузкага кірунку, як у некаторых, у мяне няма. Я ведаю двух чалавек, якія чытаюць толькі фантастыку. Адзін жыве ў Новасібірску. У яго бібліятэка з фантастыкі — каля 500 пагонных метраў! Пяцьсот метраў кніг! Ён чалавек не бедны, кнігі займаюць большую частку вялікай кватэры — усё застаўлена ў два рады. І на стале заўсёды пяць-шэсць выданняў: ён не толькі займаецца кнігамі, але і чытае іх.

**— Вы мяркуеце, што той, хто займаецца кнігамі, і той, хто чытае, — гэта два розныя чалавекі?**

— Зразумела. Кнігі, якія мы робім, мне даводзіцца праглядаць альбо чытаць. Не скажу, што заўсёды раблю гэта з задавальненнем. Выдавецтва камерцыйнае, мы павінны зарабляць грошы. Але тыя кнігі, што мы робім, — якасныя.

**— З кніг, што вы выдаяце, сфарміраваць сваю бібліятэку можна?**

— Напэўна, можна сфарміраваць нейкую частку бібліятэкі, але не ўсю. У нас у асартыменце — паўтары тысячы кніг. Каб аднаму выбраць для сябе бібліятэку — будзе малавата. У Расіі ходзяць адначасова каля 200 тысяч кніг. Гэта тое, што на дадзены момант у продажы. Не ўлічваючы кніг, якія былі раней. Наша выдавецтва займаецца пераважна перакладной літаратурай (працэнтаў на 95). Прычым, у нас практычна няма мастацкай літаратуры. Кнігі пра бізнес, кіраванне, фінансы, здароўе, навучальная літаратура, псіхалогія.

У бібліятэку цяпер я не хаджу. Прынцыпова не качаю кніг з інтэрнэту. Але апошнім часам пачаў адпраўляць у кніжніцу сына. Раней усё яму купляў. Кніг дома шмат, але бібліятэка абмежаваная шафамі. Кніга цяпер заслужана дарагая. Яна і павінна каштаваць дорага: па выдатках на паперу, на правы, на выраб. Ёсць кнігі, якія неабходна прачытаць адзін раз — і дастаткова. Для гэтага купляць яе немэтазгодна. А бібліятэкі патрэбныя нават як сродак барацьбы з піратствам у інтэрнэце.

**— Цяпер цяжка арыентавацца ў тым, што неабходна чытачу і што абавязкова трэба друкаваць?**

— Прапанова на рынку вялікая. Бясспрэчна, трэба шукаць нешта сваё. Магу сказаць, што ёсць пэўная асаблівасць, у прыватнасці, рускамоўнага рынку, але ўплыў на яго перакладных кніг вельмі вялікі. Як правіла, тое, што прадаецца за мяжой, ёсць і ў нас. Натуральна, шмат цікавых кніг і там. Праблема — знайсці сярод іх тую, якая спатрэбіцца ў Беларусі.

За 20 гадоў мы напрацавалі немалы вопыт. Каб прачытаць кнігу на мове арыгінала, мала школьнага курса вывучэння замежных моў, нават інстытуцкага. Трэба мець стасункі з людзьмі, якія добра валодаюць лексікай. Нашы кнігі чытаюць дастаткова адукаваныя людзі. Дапускаю, што яны ведаюць замежную мову і прачыталі кнігі з рэмаркамі. У левай руцэ — арыгінал, у правай — пераклад. Але ўсё роўна чытаюць на рускай!

Дарэчы, тым, хто прачытаў выдадзеную намі кнігу і піша: “Тут у вас недакладна, тут няправільна перакладзена”, хачу сказаць вялікі дзякуй — за тое, што не толькі купляюць кнігі, а і чытаюць іх. Прадбачу, што прыкладна 50 працэнтаў купляецца наперад альбо для супакаення. Не мастацкія, зразумела. Напрыклад, як кінуць паліць. Чалавек купіць такое выданне, прачытае дзве старонкі і закрывае, задаволены, што спрычыніўся да працэсу. Таму вялікі дзякуй людзям, якія чытаюць кнігі ад вокладкі да вокладкі.

## З Індыі ў Беларусь

**Афіцыйная цырымонія перадачы кніг з Індыі ў Беларусь прайшла ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна.**

На мерапрыемства завіталі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь Манодж Кумар Бхарці, намеснік начальніка ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Эдуард Багдановіч ды шмат іншых гасцей.

Прадстаўленыя кнігі адлюстроўваюць і паказваюць культуру краіны, мастацтва, адметныя рысы народа.

— Значнасць стасункаў паміж Рэспублікай Індыя і Рэспублікай Беларусь — вялікая. Пасольства падтрымлівае цесныя кантакты з бібліятэкай імя А. С. Пушкіна і іншымі ўстановамі культуры, — зазначыў Манодж Кумар Бхарці. — Гэты невялікі спіс кніг — добрая магчымасць паказаць нашу краіну знутры. Спадзяюся, што чытачам бібліятэкі яны вельмі спадабаюцца. Вы шмат даведаецеся пра музыку, традыцыйныя танцы, што яны азначаюць, як выконваюцца. Яшчэ адной магчымасцю пазнаёміцца з Індыяй стала класічная індыйская музыка, выкананая Ягорам Джагайлам, і прадстаўлены Таццянай Галібус танец.

Дар'я ШОЦІК

## Творчы палёт

**Літаратурна-музычнаму салону “Крылы”, які працуе пры Наваполацкай дзіцячай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, споўнілася 10 гадоў. У 2005 годзе атрымала званне “Народны самадзейны калектыў”. У склад аб'яднання ўваходзяць добра вядомыя ў горадзе і за яго межамі таленавітыя людзі: Тамара Талкачова, Ганна Алескерава, Міхаіл і Наталля Зудзілавы, Ніна Дзянісава, Ларыса Сакарэнка, Людміла Фёдарава, Юрый Касцюк, Галіна Худніцкая, Феактыст Фядотаў, Лідзія Полазава і іншыя, а кіраўнік яго — Галіна Сташкевіч.**

“Крылы” — гэта творчы палёт думак, вобразаў, фантазій. Эмблемай аб'яднання стаў Пегас. Дэвізам — пушкінскія радкі з верша “Пророк”: “Глаголом жги сердца людей!..” Ёсць у калектыву і свой гімн, аўтар якога — член Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Талкачова.

Літаратурна-музычны салон “Крылы” — лаўрэат абласнога агляду-конкурсу ў рамках другога Усебеларускага фестывалю народнай творчасці “Беларусь — мая песня” (2004 г.). Уганараваны дыпломам II ступені на абласным свяце “Песняры Прыдзвінскага краю” (2010), мае падзяку Беларускай Праваслаўнай Царквы Полацкай Епархіі “За актыўны ўдзел у духоўна-асветніцкай праграме «Беларусь праваслаўная»” (2011).

Таццяна КОНЫШАВА

## Ад адзіноты лечыць талака

**У Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна адкрылася персанальная выстаўка члена Беларускага саюза мастакоў і Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзя Говара “Мастацтва і паэзія ў кнізе”. Яна прысвечана Году кнігі і 45-годдзю творчай дзейнасці Г. Говара ў жывапісе, графіцы, паэзіі.**

У экспазіцыі прадстаўлены цыкл з 20 графічных работ “Рысы эры”, усе яны падораны абласной універсальнай бібліятэцы. Экспануюцца таксама жывапісныя і графічныя работы, партрэты пісьменнікаў М. Башлакова, У. Федасеенкі, М. Пазнякова і іншых.

Генадзь Говар — аўтар кніг паэзіі “Мае абпаленыя крылы”, “Незамглёная ўсмешка”, “Мой нечаканы вершапад”, “Князь-возера”, “Ты мяне пацалавала”, “Акунёўская бітва”; удзельнік шматлікіх калектыўных выданняў; лаўрэат літаратурных прэмій памяці Івана Мележа, М. Доўнар-Запольскага (Беларусь), Ежы Гедройца (Польшча), Баяна (Расія).

Яго паэзія — гэта філасофскае асэнсаванне лёсу, чалавека, мастака, радзімы.

На выстаўцы прадстаўлены таксама творчы праект, у якім адлюстравана афарміцельская дзейнасць Генадзя Говара — кніжная графіка дапоўнена фрагментамі яго ўласных вершаў, а таксама твораў паэтаў і пісьменнікаў Гомельшчыны: Міхася Башлакова, Юрыя Фатнева, Ніны Шкляравай, Васіля Ткачова, Алега Ананьева, Сяргея Сапоненкі і іншых майстроў слова.

Алег АНАНЬЕЎ

*Штрых-код*

## Што будзе

***Гродзеншчына***

**15 мая** дзіцячы філіял Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага запрашае на мультымедыйную прэзентацыю “Праз літаратурную спадчыну — да роднай мовы”, прысвечаную жыццю і творчасці народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

**4 мая** ў Субацкай сельскай бібліятэцы Ваўкавыскай ЦБС адбудзецца эколагакраязнаўчае падарожжа “Птушкі нашага краю, занесеныя ў Чырвоную кнігу”.

**4 — 8 мая** пройдзе дэкада ваеннапатрыятычнай кнігі “Подзвіг народа ў памяці нашай жыве” ў Жухавіцкай бібліятэцы — інфармацыйна-культурным цэнтры Карэліцкай ЦБС.

**5 мая** да Дня друку ў Гезгалаўскай сельскай бібліятэцы Дзятлаўскай ЦБС адбудзецца дзень інфармацыі “Далучыцца да роднага слова”.

**7 мая** запланавана сустрэча з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы Гродзенскай ГЦБС “З пакалення пераможцаў”.

**10 мая** вечарыну-ўспамін “Агонь вайны ў бронзавым абкладзе (помнікі Вялікай Айчыннай вайны)” наведаюць вучні старэйшых класаў у філіяле № 2 Гродзенскай ГЦБС.

**12 мая** напярэдадні Дня Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь Іўеўская ЦРБ правядзе хвілінку гісторыі “Што нам сімвалы гавораць”.

**16 мая** ў Ліпнішкаўскай бібліятэцы-клубе Іўеўскай ЦБС будзе праведзены дзень перыёдыкі па старонках часопіса “Полымя” (да 90-годдзя з дня ўтварэння).

***Брэстчына***

**8 мая** ў чытальнай зале літаратуры па мастацтве Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. П. Таўлая адбудзецца прэзентацыя выстаўкі “Крыніца натхнення — радасць ад свету” мясцовай мастачкі Вольгі Рамейкі.

**15 мая** ў чытальнай зале літаратуры па краязнаўстве Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. П. Таўлая рыхтуецца кніжная выстаўка “Яркі, шматгранны талент” да 130-годдзя з дня нараджэння Уладзіслава Галубка, беларускага пісьменніка, тэатральнага дзеяча, мастака, першага народнага артыста Беларусі (1928).

**17 мая** чытальная зала літаратуры па краязнаўстве цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя В. П. Таўлая запросіць усіх, каго цікавіць гісторыя роднага горада, на краязнаўчы ўрок “Імёны баранавіцкіх вуліц”.

**З 3 па 9 мая** ў бібліятэках Пінскага раёна пройдзе Тыдзень ваеннай кнігі “Гэтых дзён не змоўкне слава”.

**6 мая** ў Барычэвіцкай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна будзе арганізаваны конкурс чытальнікаў “Успамінаем вершы пра вайну”.

**9 мая** бібліятэкар Кашэвіцкай сельскай бібліятэкі Пінскага раёна сумесна з работнікамі сельскага Дома культуры праводзіць вечар-сустрэчу з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны “Вечнай памяццю жывыя”.

**13 мая** ў Валішчанскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна пройдзе інфармацыйная гадзіна “Сімвалы нашай краіны”, прымеркаваная да Дня Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.

***Гомельшчына***

**15, 22, 29** мая каля ўвахода ў Гомельскую цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна пройдзе PR-марафон “Час чытаць!”. Мінакам будуць уручацца флаеры з запрашэннем наведаць бібліятэку, карыстальнікам прапануецца кніжная выстаўка.

**17 мая** ўсе бібліятэкі Гомельскай ГЦБС, якія абслугоўваюць дзяцей, возьмуць удзел у Міжнародным Дні чытання, які праводзіць дзіцячае выдавецтва “Розовый жираф”.

# Калі ў Масты завітае Калабок?

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА,
фота аўтара
і Мікалая Павядайкі

**Два-тры дзесяцігоддзі таму, як помніцца мне дасюль, горад Масты быў падобны да казкі. Літаральна на беразе Нёмана, дзе пачынаецца лес, знаходзіўся дэндрапарк. З велічэзнымі магутнымі дубамі, адзін — дакладна з “Руслана і Людмілы” Аляксандра Пушкіна: ланцуг, вось-вось, здаецца, і кот выйдзе... Там жа, на ўзлеску — і хатка на курыных лапках, і мядзведзь з лесавіком, і шмат іншых казачных герояў ды жывёл, нават экзатычных. Два дзесяцігоддзі таму гэта яшчэ было... Неўзабаве ў горад прыехаў чараўнік, а разам з ім і казка. Новая і прыгожая. Яе стварае разьбяр па дрэве Уладзімір Япанчынцаў.**



*Казачнік ці лесавічок. Мне здаецца, падобны да аўтара.*

— Разьбой я захапіўся прыкладна ў 80-я, гадоў у трыццаць. Жылі мы тады на Гомельшчыне, я якраз “кінуў” мора. Пазнаёміўся з людзьмі, якія займаліся разьбой. Сам жа дагэтуль захапляўся маляваннем, чаканкай — карацей, тым, чым і многія іншыя маладыя людзі раней цікавіліся. Лёс звёў з выпускніком Строганаўскага вучылішча Віктарам Курганавым, нас сабралася невялікая каманда з шасці чалавек. Займаліся аздабленнем дзіцячых пляцовак, розных памяшканняў, у гэтым цесна супрацоўнічалі з мясцовай уладай…

**— Пасля аварыі на ЧАЭС пераехалі ў Масты?**

— Так, і апошнія чатыры гады працую ў Мастоўскім РУП ЖКГ. Дырэктар яго Аляксандр Фралоў — вялікі энтузіяст.

**— Упрыгожыць горад — яго ідэя?**

— Мабыць, у роўнай ступені яго і мая. З чаго ўсё пачалося? У цэнтры горада быў стары непрывабны калодзеж, яго вырашылі засыпаць, але дырэктар запытаў, ці можна што прыдумаць. Зразумела, можна. Вось, аздобілі (выкалілі па перыметры брусочкі, усталявалі замест апор для даху фігуры бабкі і дзеда, дах стылізавалі пад саламяны — і атрымалася надта хораша. — **Т. К.**). Усім спадабалася. Так і пайшло. Дзясятак калодзежаў ужо дакладна зрабілі. І ўсе розныя. (Трэба сказаць, аздобілі не толькі калодзежы — ёсць у самым цэнтры горада, дзе захаваліся векавыя дубы — іх гарманічна ўпісалі ў сучасныя модныя газоны, — і лавачка з дзядком, што вырашыў адпачыць і нібы запрашае іншых далучыцца. — **Т. К.**)

**— Гэта сапраўдная творчасць.**

— Як сказаць… Гэта народныя традыцыі. У свой час беларусы славіліся сваімі разьбярамі, па ўсёй Расіі афармлялі саборы, цэрквы. А цяпер… Многія заканчваюць спецыяльныя навучальныя ўстановы, Мірскі каледж, да прыкладу, але працуюць — менавіта разьбярамі — адзінкі.

**— Калі мала майстроў, тым больш унікальная іх работа. Але мне здаецца, вы ставіцеся да гэтага як да нечага вельмі паўсядзённага…**

— Усё разам пераплялося: і работа, і захапленне. Мне падаецца, гэта добра. Адпачынак — субота і нядзеля, калі раптам не ўзнікне жаданне “ўлезці” ў майстэрню. А ўзнікае яно кожны дзень.

**— І па выхадных?**

— Нават па святах! Жонка не дазваляе працаваць, кажа, сёння святы дзень, нельга.

**— Калі прайсціся па вуліцах горада, усюды можна заўважыць вашы работы: і згаданыя калодзежы, і выявы жывёл у парку, і пару заканых ля прыступак у аддзел ЗАГСа… А што яшчэ хацелі б зрабіць?**

— Дзіцячы гарадок. У нас вельмі добры парк над Нёманам, каля падвяснога моста. Дырэктар, дарэчы, таксама не супраць. Але пакуль гэта толькі задумкі. Ды і цяжка аднаму тую ж хацінку зрабіць, сюжэт па казцы разгарнуць…

**— Вы любіце казкі?**

— Казкі? (*Усміхаецца.*) Хто іх не любіць! Але мы вырастаем, і неяк не да казак становіцца.

**— Але вам, здаецца, “да казак”. Якую б вы хацелі ўвасобіць?**

— Ведаеце, сюжэтаў столькі, што нават не магу пералічыць. (Уладзімір Андрэевіч на момант задумваецца, але адразу ж яго вочы загараюцца, і, здаецца, ён нешта ўяўляе. — **Т. К.**). Я б пачаў з “Калабка”, таму што для дзяцей гэта самае блізкае, гэта першая казка, якую чытаюць. Але там такое шырокае поле дзейнасці! Па сваёй задуме, паставіў бы хатку, дзеда з бабкай ля акенца, сцежачку б выклаў каменнем, зрабіў плецень, пасля аднаго за другім змясціў бы звяроў-персанажаў… Думаю, атрымалася б цікава.

**— Што ж, будзем чакаць, калі ў Масты завітае Калабок.**



*Адзін з калодзежаў, што ўпрыгожваюць цэнтральную вуліцу Савецкую.*

## *Куток таемнасці*

# Лепш адзін раз убачыць

Міра ІЎКОВІЧ

**Практыка сузірання і любоў да прыроды на Усходзе заўсёды спрыялі вытанчанаму і асабліваму ўспрыманню прыгажосці. Нездарма там лічаць, што кожны прадмет, які б малы і незаўважны ён ні быў, утрымлівае ў сабе цэлы Сусвет.**

Такі творчы і медытатыўны занятак, як бансай, дае магчымасць адысці ад мітусні сучаснага жыцця, убачыць малое ў вялікім, адчуць сябе творцам, робячы мініяцюрныя скульптуры з жывога матэрыялу. Бансай — гэта расліна ў нізкім кантэйнеры. Але не кожнае маленькае дрэўца — бансай. Бо сапраўдны бансай — гэта твор мастацтва, і яго аўтар кіраваўся пэўнымі правіламі для ўзнаўлення і ідэалізацыі жывой прыроды ў мініяцюры.

Гомель не застаўся ўбаку ад павеваў вытанчанага Усходу. Пацвярджэнне таму — выстаўка карлікавых дрэў Дзмітрыя Віхарава, якая адкрылася ў палацы Румянцавых і Паскевічаў. Дзмітрый ужо больш як дзесяць гадоў стварае ўласную калекцыю бансай. Першым дрэвам у ёй была акацыя. Потым з’явіліся ясень, хвоя, кітайскі клён, аліва, размарын, самшыт, адамаў яблык, шматлікія дрэвы мясцовага паходжання, якія эксперыментатар выгадаваў з насення на ўласнай дачы. Бо спецыяльных дрэў для бансай не існуе. Уся справа ў тэхніцы. Мініяцюрныя дрэўцы растуць гэтулькі ж, колькі звычайныя, — дзесяцігоддзі і стагоддзі, а неабходныя форма і памеры атрымліваюцца дзякуючы асабліваму догляду. Для гэтага неабходна часта абразаць галінкі і карані, выгінаць ствалы.

Зразумела, можна шмат казаць пра прыгажосць бансай, але лепш адзін раз убачыць гэтыя творы мастацтва.

## *Афарызм*

*З нас кожны мае ціхі свой куток*
*І ў ціхім тым кутку — па абеліску.*

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**

## *З глыбінкі*

# Віват кадэты!

У пяты раз у інстытуце тэалогіі імя Кірыла і Мяфодзія Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта праводзіўся конкурс даследчых работ на рэлігійную тэматыку. У гэтым годзе было прадстаўлена каля тысячы даследаванняў на тэму “Біблейскія сюжэты ў мастацтве”, у тым ліку і працы са Слонімскай школы № 9.

Кадэцкі корпус школы даўно супрацоўнічае з Мінскай духоўнай семінарыяй і благачынным Слонімскай царкоўнай акругі Вадзімам Пятліцкім. Таму кадэты зацікавіліся тэмамі, прапанаванымі арганізатарамі конкурсу. Яны падрыхтавалі навуковую працу “Вобраз Ісуса Хрыста ў мастацтве” і сачыненне пра хрысціянскія каштоўнасці.

Па выніках конкурсу кадэты Павел Піскуноў і Віталь Пышко былі ўзнагароджаны заахвочвальнымі дыпломамі, а іх сябры Раман Герасімчык і Марк Касабуцкі — дыпломамі II ступені. Падарункам для іх стала кніга “Цветная фотография Российской империи 1905 — 1917 гг.” і наведванне Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

**Яна МАЙСЕЙЧЫК,**
**г. Слонім**

# Вышываная краіна

Па ўменні вышываць спрадвеку меркавалі пра жаночае працалюбства і здольнасці. Сёння гэты від творчасці, які, здавалася, страціў папулярнасць, ізноў набывае “другое жыццё”. А для Святланы Швед вышыўка стала справай усяго жыцця. Святлана Мікалаеўна — выкладчык класа народнай творчасці Кляпацкага Дома культуры Пружанскага раёна. І, пэўна, кожны, хто бывае ў яе кабінеце, пагодзіцца, што там створана казачная краіна. Пра навагоднія святы нагадвае аб’ёмная кампазіцыя, зробленая з тканіны, — у прыгожых санях, запрэжаных коньмі, імчыць з падарункамі Дзед Мароз. Далей позірк прыцягвае вязаны каравай у натуральную велічыню, а на століку каля акна ў промнях сонца пераліваецца лістота дрэўцаў з бісеру і паетак, лебедзі на сурвэтцы распасцёрлі свае накрухмаленыя крылы, на паліцах шчыльна размясціліся мяккія цацкі…

Але асноўнае захапленне Святланы Швед — вышыўка. Канвой для першых яе вышыванак паслужылі старыя выцвілыя работы, схаваныя ў шафах вясковых майстрых. Між іншым, Святлана часта давала новае жыццё такім карцінам: бабулі і сёння без шкадавання аддаюць рарытэты, якія ў руках маладой майстрыхі пачынаюць іграць новымі колерамі. Затым Святлана стала капіраваць сюжэты са схем, надрукаваных у часопісах, назапашвала літаратуру, з часам стала дапаўняць карціны ўласнымі элементамі, а сёння яна і сама можа скласці схему для вышыванкі. Аўтарству Святланы Швед належыць больш як сто работ.

— Я дару іх рэдка, — прызнаецца Святлана, — цяжка развітвацца з рэчамі, у якія ўклала душу. Аддала, напэўна, не больш як дзесяць: адну — бабулі, некалькі дасталіся знаёмым, дзве выставіла на продаж у сувенірную лаўку ў Ружанскі музей, ікона была ўручана Прэзідэнту Беларусі падчас наведвання ім нашага аграгарадка.

У бліжэйшы час работы майстрыхі можна будзе пабачыць у Пружанскім палацыку — там плануецца наладзіць выстаўку.

**Марына ВАКУЛЬСКАЯ,**
**г. Пружаны**

ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2853
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 03.05.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1916
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686